КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 29 (350) ◂ 26 ліпеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**ТРАГЕДЫЯ ПІНСКІХ МАРАКОЎ**

Стар. 30

**ЯКІ ХАКЕЙ НАМ ПАТРЭБНЫ?**

Неканкурэнтаздольнасць беларускай эканомікі — пабочны прадукт неканкурэнтаздольнасці дзяржавы і грамадства

Стар. 4

**ІМПЕРЫЯ НАВАЛЬНАГА**

Рост папулярнасці расійскага блогера Аляксея Навальнага выклікаў цікавасць да яго поглядаў. У тым ліку да таго, як лідар новай генерацыі антыпуцінскай апазіцыі бачыць месца Расіі ў постсавецкай прасторы

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144




**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**НАСТУПНЫ НУМАР ГАЗЕТЫ ВЫЙДЗЕ 16 ЖНІЎНЯ**

▸ З НАГОДЫ

# ПАШТОВЫ ГОЛУБ УЛАДЫ

Сяргей ПУЛЬША

**Вынікі візіту Уладзіміра Макея на рабочую сустрэчу міністраў замежных справаў ЕС, з аднаго боку, прадказальныя, а з іншага — вельмі загадкавыя.**




Найперш, цалкам зразумела тое, што спадар Макей не змяніў традыцыйнай беларускай пазіцыі. Як паведаміў ён сам брусэльскаму карэспандэнту «Радыё Свабода», размова вялася пра Віленскі саміт краінаў «Усходняга партнёрства», які павінен адбыцца ў лістападзе гэтага года, і пра ягоную дэкларацыю.

«Мы зрабілі некалькі прапановаў у дэкларацыю, у першую чаргу, тое, што ўсе дзяржавы-партнёры павінны трактавацца аднолькава, не дыскрымінавацца. І мы праявілі нашу зацікаўленасць у супрацы ва ўсіх сферах «Усходняга партнёрства». Мы думаем, што актыўнасць па канкрэтных праектах павінна быць галоўным кампанентам віленскай дэкларацыі, гэта дапаможа палепшыць бачнасць «Усходняга партнёрства» ў краінах Еўрасаюза і краінах-партнёрах. І мы павінны звярнуць больш увагі на бізнэс-вымярэнне. Вось гэта нашыя прапановы», — заявіў Макей.

Гэта «старая песня аб галоўным» беларускай улады: «Не вучыце мяне жыць, дапамажыце матэрыяльна». Для таго, каб яе пачуць, не трэба было выпраўляць Макея ў Брусэль, і тым больш, не трэба было выкрэсліваць яго са спісу неўязных у ЕС. Гэта і так чуецца з кожнага слупа ў Еўропе, куды дацягваецца пазіцыя афіцыйнага Мінска. З другога боку, Макей у Брусэлі і не мог сказаць нічога іншага — Захад не настолькі пайшоў на саступкі, каб прапаноўваць яму «шчылынае сяброўства» з «сінявокай».

Здаецца, гэтага «іншага» Еўропа і не чакала. Яна жадала проста паглядзець Макею ў вочы і вырашыць: ці настолькі ён сумленны чалавек, каб перадаць яму нешта каштоўнае? Яшчэ раней міністр замежных справаў Літвы Лінас Лінкявічус казаў, што Макей у Еўропе патрэбны, каб усталяваць «канал сувязі». «Не толькі слухаць, але і перадаваць паведамленні наўпрост», — адзначыў Лінкявічус. Каму паведамленні трэба перадаваць наўпрост — тут нават гадаць не трэба.

Паглядзеўшы ў вочы Макею, еўрапейцы вырашылі, што ён варты таго, каб быць «паштовым голубам». І нейкае паведамленне ўсё ж перадалі. Пытанне, якое.

Беларускія апазіцыянеры спадзяюцца, што гэта тое паведамленне, якога яны чакаюць. Прынамсі, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька лічыць, што спадар Макей павёз з Брусэля капэрту, у якой знаходзяцца патрабаванні вызваліць палітвязняў і правесці свабодныя і празрыстыя выбары. «Я не дапускаю нават думкі, што Макей ездзіў толькі агучыць пазіцыю афіцыйнага Мінска. Пытанне ў тым, якую капэрту Макей павёз з Брусэля. Пазіцыя Еўропы ў адносінах да палітвязняў паслядоўная, як і патрабаванне правесці сумленныя выбары. І ад таго, што прывёз Макей, залежыць, ці была яго місія тупіковай, альбо яна мела сэнс», — адзначае палітык.

Прыкладны сэнс гэтай «капэрты» можна зразумець і з выказванняў еўрапейскіх калег Макея. Той жа Лінас Лінкявічус, каментуючы вынікі візіту, адзначыў, што Макей выказаў жаданне канструктыўна супрацоўнічаць з ЕС. «Ва ўсякім выпадку я адчуў жаданне канструктыўна супрацоўнічаць і размаўляць», — удакладніў Лінкявічус. Ці адчулі гэта іншыя міністры, канешне, яшчэ пытанне.

Добрай прыкметай Лінкявічус лічыць і тое, што Макей не выказаў пратэст, калі яму нагадалі пра палітвязняў. «У адрозненне ад таго, што было раней, не было ніякіх пярэчанняў — можа, прамаўчаў у гэтым месцы, але гэта лепш, чым пярэчыць, — калі большасць выступоўцаў нагадалі пра пытанне палітвязняў», — сказаў кіраўнік літоўскай дыпламатыі.

Яшчэ больш прыемна выказаўся еўракамісар па пытаннях пашырэння ЕС і добрасуседства Штэфан Фюле. На пытанне пра тое, калі ў Брусэлі замест Макея пабачаць праваабаронцу Алеся Бяляцкага, які зараз за кратамі, Фюле адказаў: «Спадзяюся, што неўзабаве. Цяпер адкрыліся магчымасці ўзаемадзеяння з уладамі на такім узроўні, які не тое што не дазваляе нам забыцца аб нашых патрабаваннях і ўмовах, але насамрэч можа іх узмацніць. Я думаю, што нам трэба пацвердзіць сваю пазіцыю задоўга да саміту ў Вільні не толькі для нас саміх, але і для беларускіх уладаў, каб яны найлепшым чынам выкарысталі гэтыя магчымасці».

Значыць, спадар Макей прывёз з Брусэлю не толькі пытанні палітвязняў, але яшчэ і нейкія «магчымасці» для афіцыйнай улады. Пры гэтым, «магчымасці» спрацоўваюць, нават калі Еўрасаюз не толькі не здыме з павесткі дня пытанне палітвязняў, але і нават узмоцніць сваю пазіцыю.

Канешне, цікава, што ж прапанаваў ЕС Беларусі ў якасці новых магчымасцяў? Ці сапраўды гэтая «замануха» настолькі важная, што палітвязняў выпусцяць заўтра і назаўсёды? А можа (чым чорт не жартуе) яшчэ і рэабілітуюць іх?

У любым выпадку, мяч зараз на полі афіцыйнага Мінска. І, па меркаванні Брусэля, прапановы зроблены такія, ад якіх немагчыма адмовіцца.

Але ўжо колькі разоў было так, што тое, што Еўропе здавалася бясспрэчным і вельмі прывабным, для беларускай улады было альбо драбязой, альбо ўвогуле не падыходзіла па сутнасці. Калі гэты «пернік» не спрацуе, што ж тады будзе рабіць Еўропа?

Па меркаванні мінскіх аналітыкаў, тады спадару Макею, як ганцу, які прынёс дрэнныя весткі, адсякуць галаву. У фігуральным сэнсе, канешне. У Брусэлі яму ўжо намякнулі: чатыры краіны ЕС выступаюць супраць таго, каб на саміт у Вільню прыехала афіцыйная дэлегацыя Беларусі. Калі Макей не выканае сваю місію, то ў лістападзе на саміт зноў паедзе адна апазіцыя.

Да таго ж, ніхто не адмяняў пастанову ЕС пра «часовы» характар магчымасці выезду для Макея. Так што зараз у Макея шмат працы на ўнутраным фронце. Яму варта павесіць на дзверы паперку з надпісам «Не турбаваць», і налегчы на вырашэнне еўрапейскай галаваломкі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАБРУЙСК: ПАШТОЎКІ САЛІДАРНАСЦІ

У Бабруйску мясцовыя актывісты адправілі ў турмы і калоніі паштоўкі, прыдуманыя ў сацыяльных сетках і выдадзеныя Праваабарончым цэнтрам «Вясна».

Мясцовыя актывісты падкрэсліваюць, што ім асабліва важна падтрымаць Алеся Бяляцкага, які адбывае пакаранне ў бабруйскай калоніі, і Яўгена Васьковіча, іх земляка. Акцыя салідарнасці яшчэ працягваецца, далучыцца да яе можа кожны жадаючы.

Таксама ў Бабруйску была пададзеная заяўка на правядзенне пікета салідарнасці з палітвязнямі на вызначаным гарвыканкамам месцы.

Пікет плануецца правесці 4 жніўня. Менавіта ў гэты дзень у 2011 годзе быў арыштаваны старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алесь Бяляцкі.

### БРЭСТ: ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ПЕРАСЯЧЭННЕ МЯЖЫ НА РОВАРАХ

Актывісты мясцовых велаклубаў маюць намер звярнуцца ў Дзяржаўны памежны камітэт Рэспублікі Беларусь, каб дамагчыся дазволу на перасячэнне мяжы на роварах. Зварот, пад якім зараз ідзе збор подпісаў, тычыцца самага буйнога памежнага пераходу паміж Польшчай і Беларуссю — «Варшаўскі мост». Аўтары звароту ўпэўненыя, што там, дзе магчыма перасячэнне мяжы на легкавых аўтамабілях, матацыклах і мапедах, мусіць быць дазволены рух і на роварах. Такі дазвол, на думку ініцыятараў збору подпісаў, не толькі з'явіцца стымулам для актыўных турыстаў, але і павялічыць шэрагі прыхільнікаў здаровага ладу жыцця, якія пакуль адчуваюць дыскрымінацыю, калі хочуць перасячы мяжу на экалагічным сродку транспарту.

Летась актывісты кампаніі «За вела-Брэст» ужо спрабавалі дамагчыся ад беларускіх памежнікаў спрыяння ў вырашэнні гэтай праблемы. З атрыманага адказу вынікала, што Дзяржаўны памежны камітэт не супраць перасячэння мяжы на роварах праз асобныя пункты пропуску, але гэта цяжка здзейсніць з пункту гледжання арганізацыі бяспекі дарожнага руху і адсутнасці адпаведнай інфраструктуры. Беларускія памежнікі таксама спасылаліся на сваіх польскіх калегаў, якія лічаць немэтазгодным пропуск праз мяжу асобаў, што ідуць пешшу альбо выкарыстоўваюць для свайго руху ровар.

### БАРАНАВІЧЫ: ДВА ПРАТАКОЛЫ ЗА МІТЫНГІ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

На баранавіцкага прадпрымальніка і грамадскага актывіста Міколу Чарнавуса склалі два пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння.

Іх уручыў на працоўным месцы Міколы Чарнавуса маёр міліцыі Дзмітрый Мізгер. Чарнавуса абвінавачваюць у парушэнні ч. 3 арт. 23.34 (арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства) падчас мітынгаў баранавіцкіх прадпрымальнікаў 27 чэрвеня і 1 ліпеня. Мікола трымаў у руках плакаты: «Мы хочам працаваць» і «Нам не патрэбны такі Мытны саюз».

Нагадаем, што на мінулым тыдні Чарнавуса выклікалі ў Баранавіцкі ГАУС. Там ён вымушаны быў напісаць тлумачальную. Яму сказалі, што выклічуць паўторна. Але пасля размоў з дырэктарам Каапрынкам і начальнікам падатковай былі складзены 2 пратаколы.

**Інфармацыя падрыхтавана паводле spring96.org**

СУД

# НЯКЛЯЕЎ СТАЎ ВОЛЬНЫМ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Уладзімір Някляеў вызвалены ад крымінальнай адказнасці.**

25 ліпеня суд Ленінскага раёна Мінска павінен быў вырашыць, пасадзіць паэта і палітыка на два гады, ці зрабіць яго адносна свабодным чалавекам.

Падтрымаць Уладзіміра Някляева да Дома правасуддзя прыйшлі дзясяткі журналістаў, праваабаронцаў, прадстаўнікі дыппрадстаўніцтваў Германіі і ЗША. Былі тут і былыя вязні СІЗА КДБ — старшыня АГП Анатоль Лябедзька, кіраўнік штаба Мікалая Статкевіча Сяргей Марцалеў, жонка Андрэя Саннікава журналістка Ірына Халіп, якая, дарэчы, мела аналагічны з Някляевым прысуд.

Справу былога кандыдата ў прэзідэнты павінна была разглядаць суддзя Вольга Коцур. Менавіта на 10 гадзінаў прызначыў 25 ліпеня Някляеў атрымаў позву ў суд. Аднак разгляд справы Някляева ў чацвер так і не пачаўся, бо… ужо адбыўся ў аўторак, 23 ліпеня. Без запрашэння не толькі адваката, але і самога фігуранта.

Усё скончылася тым, што сакратарка суда запрасіла палітыка і паэта прайсці ў кабінет суддзі, адкуль той з'явіўся праз хвіліну з паперай у руках, у якой было пазначана, што ён вызвалены ад пакарання. Прычым, самой суддзі Коцур на месцы не было, яна ў гэты час разглядала справу аб скасаванні якогасьці шлюбу.

Сам Уладзімір Някляеў заявіў, што нават з гэтай папераю не адчувае сябе цалкам свабодным. «Мяне нібыта перавялі з адзіночнай камеры ў агульную, якой з'яўляецца ўся Беларусь», — адзначыў палітык. Ён паабяцаў працягваць змагацца з існуючым у краіне рэжымам дзеля таго, каб усе грамадзяне Беларусі адчулі сябе вольнымі. Някляеў сказаў, што пакуль не вырашыў, ці будзе браць удзел у наступных прэзідэнцкіх выбарах, бо існуе шмат пытанняў. Першае, што палітык вырашыў зрабіць, гэта паехаць разам з жонкай у Крэва, дзе пахаваныя бацькі Някляева.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# VI З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

**Марат ГАРАВЫ**

**Амаль 300 дэлегатаў з 17 краін свету прынялі ўдзел у VI з'ездзе беларусаў свету «Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці», які прайшоў 23–24 ліпеня ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Раў.**



Фота аўтара

У вітальным слове старшыня рады БНР Івонка Сурвіла адзначыла, што менавіта ад дэлегатаў форуму залежыць будучыня Беларусі і магчымасць Бацькаўшчыны зноў заняць тое пачэснае месца ў сям'і народаў Еўропы, якое калісьці займалі нашы продкі. «Нашым заданнем ёсць паказаць свету, што Беларусь жыве і будзе жыць вечна», — сказала старшыня рады БНР.

Прапануем вам фрагменты выступаў некаторых дэлегатаў.

## Праблемай застаецца стаўленне беларускай дзяржавы да дыяспары

**Наталля ГАРДЗІЕНКА, даследчык** гісторыі беларусаў замежжа, кандыдат гістарычных навук:




Фота www.budzma.org

— У Беларусі не распрацавана нарматыўна-прававая база дачыненняў з дыяспарай. У нас сістэматычна не займаюцца вывучэннем ні таго, што ўяўляе сабою сам феномен беларускага замежжа, яго гісторыя і культура, ні таго, што адбываецца сёння ў дыяспары. Не праводзіцца аналіз рэальных міграцыйных працэсаў, невядома ні больш-менш дакладная колькасць беларускіх суполак, ні сапраўдныя аб'ёмы эміграцыі.

Сённяшні падзел беларускай эміграцыі мае найперш палітычны характар і залежыць ад стаўлення да беларускіх уладаў. Гэты падзел у шмат чым інспіруе сам афіцыйны Мінск праз палітычную эміграцыю і лаяльныя да сябе суполкі, каб паказаць падтрымку сваёй палітыкі з боку замежжа. Разам з тым, і эміграцыйныя дзеячы часам пачынаюць дзяліць эмігрантаў і наогул беларусаў на «чэсных» і «нячэсных».

Няма і адэкватнай канцэпцыі ўзаемадзеяння. Можа часткова і менавіта па гэтай прычыне так пакутліва нараджаецца ў нас праграма «Беларусы ў свеце» ды адкладаецца прыняцце закону «Аб беларусах замежжа». Можна сказаць, што тэма дыяспары вельмі асцярожна ўспрымаецца на дзяржаўным узроўні. Да яе не надта прыхільна ставяцца палітычныя ўлады і навуковае кіраўніцтва. Дый грамадства, у асноўным, абыякава ставіцца да беларускай дыяспары.

## Захаванне беларускай ідэнтычнасці — галоўная ўмова жыцця нацыі

**Алена МАКОЎСКАЯ,** кіраўнік МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»:



Фота аўтара

— Беларуская дыяспара налічвае больш за тры мільёны чалавек — велізарны чалавечы рэсурс. Дыяспара яшчэ мае эканамічны, культурны і грамадска-палітычны патэнцыял. І важнасць гэтага патэнцыялу ўзрастае ва ўмовах глабалізацыі. Калі адбываецца знікненне межаў, ідзе актывізацыя свабодных патокаў людзей, ідэй, тавараў, падыход да сваёй дыяспары як да важнейшага знешнепалітычнага эканамічнага рэсурсу сустракае ўсё больш распаўсюд у міжнароднай практыцы. Мы спадзяемся, што такі падыход будзе і ў Рэспубліцы Беларусь, таму што гэта шлях у будучыню.

Паважаная хвала беларускай эміграцыі, якую складалі носьбіты сапраўднай нацыянальнай ідэнтычнасці і самабытнасці, здолела і без падтрымкі савецкай дзяржавы супрацьстаяць асіміляцыі, выжыць і ствараць свае нацыянальныя цэнтры, якія існуюць да гэтага часу.

Сёння бальшыня эмігрантаў з Беларусі не мае глыбокай нацыянальнай і культурнай повязі са сваёй Радзімай. Таму мы і ставім пытанне захавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці як самае галоўнае і актуальнае для жыцця беларусаў на Бацькаўшчыне і па-за яе межамі.

Улада павінна нарэшце зрабіць працу з беларускім замежжам адным з прыярытэтаў сённяшняй палітыкі. Мы не можам супрацьстаяць працоўнай міграцыі. Мы жывем у часы глабалізацыі. Але мы можам агульнымі высілкамі дзяржавы і грамадскасці супрацьстаяць асіміляцыі, развіваць і падтрымліваць нацыянальную культуру, зрабіць так, каб беларуская мова заняла належнае месца ва ўсіх сферах жыцця. Мы можам хаця б пачаць гэты працэс.

## Беларуская цывілізацыя ў небяспецы

**Генадзь БУРАЎКІН**, беларускі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч:

— Ад беларускай справы адыходзяць слынныя людзі, якім пакуль няма роўных. На жаль, сярод маладзейшых я не бачу роўных гэтым людзям па інтэлектуальнаму патэнцыялу, па веданні і разуменні беларушчыны. Я радуюся, што на з'езд прыехала шмат маладых актыўных людзей, якія лепш, чым я, адпавядаюць сённяшнім рэаліям. Але такіх апантаных беларушчынай, як мае сябры, я бачу вельмі мала.

Я засмучаны тым, што скарачаецца фізічная прысутнасць беларусаў у свеце — у Беларусі і ў замежжы беларусаў становіцца ўсё меней. І я надта не бачу перспектывы, каб гэта памянялася рэзка, а трэба, каб гэта рэзка адбылося. На жаль, можа, такі менталітэт у нашых землякоў, што беларусы вельмі хутка і вельмі лёгка асімілююцца. Ад гэтага нікуды не ўцячэш. Гэта трэба не толькі прызнаваць, але аналізаваць і думаць, як гэтаму супрацьстаяць. На жаль, пра гэта на з'ездзе я не надта пачуў.



Фота аўтара

Мне так здалося, што нават у дэлегатаў з'езда — лепшых прадстаўнікоў беларускага замежжа — няма разумення таго, што без беларускай мовы Беларусі быць не можа. У некаторых адкрыта, у некаторых прыхавана, часам з'яўляецца думка пра тое, што мы — беларусы, мы — за Беларусь, але не абавязкова, каб беларусы ведалі мову, і не абавязкова, каб беларусы былі нечым духоўным глыбока гістарычным паяднаныя. Я гэта катэгарычна не прымаю і бачу ў тым вялікую небяспеку, якую вучоныя модна называюць небяспекай глабалізацыі. Для такіх цывілізацый, як беларуская, гэта вялікая небяспека. Бо ў нашым нацыянальным характары няма тых радыкалізму і рашучасці адносна нацыянальнага пытання, дзякуючы якім іншыя народы захоўваюцца як этнасы ў незалежных дзяржавах.

**Больш інфармацыі пра IV з'езд беларусаў свету на нашым сайце novychas.info у раздзеле «грамадства» ці ў блогу Генадзя Кеснера**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ВОСЬ І ПРЫЙШЛА ЯНА — РЭЦЭСІЯ…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нягледзячы на няспынны рост, дырэктывы, загады «пашырыць — паглыбіць», краіну напаткала тое, што даўно прадказвалі эканамісты рознага кшталту, — рэцэсія. Спад прамысловай вытворчасці Беларусі ў студзені-чэрвені 2013 года склаў 4,2%.**




Прычым, гэты спад напаткаў «самыя-самыя» галіны вытворчасці. Па выніках першага паўгоддзя 2013 года найбольшы спад зафіксаваны ў хімічнай вытворчасці — на 25,9%, і вытворчасці нафтапрадуктаў — на 20,3%.

Нафтаперапрацоўка, нафтапрадукты — гэта самая прыбытковая наша галіна вытворчасці. Калі ў ёй, нягледзячы на льготную пастаўку нафты з Расіі, існуе 20-працэнтны спад — гэта ўжо незвычайны повад для клопатаў. Нафтапрадукты, а яшчэ і калій — здаецца, гэта ўсё, на чым трымаецца беларускі бюджэт. А між іншым, і з каліем праблемы. Вытворчасць калійных угнаенняў знізілася за паўгода на 5%.

Калі імкліва падаюць асноўныя артыкулы нашага экспарту, дзе валюту браць будзем? З запасаў Нацбанка? Але ж і яны не бясконцыя.

Але што ў нас добра робіцца, дык тое не прадаецца. Найбольшы рост вытворчасці за паўгода адзначаны ў вытворчасці электраабсталявання, электроннага і аптычнага абсталявання (на 13,6%), вытворчасці гумовых і пластмасавых вырабаў (на 9,1%), вытворчасці іншых неметалічных мінеральных прадуктаў (на 7,9%), апрацоўцы драўніны і вытворчасці вырабаў з дрэва (на 6,9%). Акрамя таго, вырасла вытворчасць харчовых прадуктаў, уключаючы напоі, і тытуню (на 4,1%), металургічная вытворчасць (на 2,4%), вытворчасць скуры, вырабаў са скуры і вытворчасць абутку (на 2,3%).

Электраабсталяванне — лядоўні «Атлант» і тэлевізары «Гарызонт», дрэваапрацоўка, металургічная вытворчасць, абутак — усім гэтым склады затараныя. Адзін толькі «Атлант» вельмі сур'ёзна разгрузіў свае склады з-за афрыканскай чумы свіней — людзі масава скупаюць лядоўні, каб мяса захаваць. Калі б АЧС не было, маркетынгаваму аддзелу «Атланта» трэба было яе выдумаць. А вось што з астатнім рабіць? Не прадаецца ж?

Пытанне грошай актуальнае. І браць будзем у народа. Лукашэнка на тыдні падпісаў закон, якім унесены змяненні і дапаўненні ў Крымінальны кодэкс і Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях па пытаннях узмацнення мер адказнасці за кіраванне транспартным сродкам у стане ап'янення. Закон прадугледжвае канфіскацыю аўтамабіля за паўторнае на працягу года кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення. Пры гэтым канфіскацыя будзе распаўсюджвацца ў тым ліку на аўтамабіль, які не належаў самому п'янаму кіроўцу, за выключэннем угону. Акрамя таго, будуць павялічаны штрафы за язду ў нецвярозым стане з 15–35 базавых велічынь да 50–100.

Дакумент уступае ў сілу праз тры месяцы. Так што яшчэ ёсць час падумаць пра тое, каб «завязаць». Ну, і, канешне, павінна быць беражлівасць, беражлівасць і яшчэ раз беражлівасць. Асабліва ў галіне будаўніцтва. Лукашэнка ў чарговы раз выклікаў на справаздачу рабочую групу па праблемных пытаннях будаўнічай галіны і выказаў ёй сваё «фэ».

«Скажу шчыра, я не вельмі задаволены працай групы. Можа быць, я памыляюся, не ўсё бачу. Мы дамовіліся: працуем па прынцыпе «выявілі праблему і неадкладна яе вырашылі». Прытым жалезна і жорсткім чынам. Таму што гэтая праблема ўжо зашкальвае», — заявіў Лукашэнка, прымаючы з дакладам кіраўніка сваёй адміністрацыі Андрэя Кабякова, старшыні Камітэта дзяржкантролю Аляксандра Якабсона і старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка.

«Насельніцтва вельмі незадаволенае, асабліва тыя, хто вядзе будаўніцтва, прад'яўляе абгрунтаваныя скаргі. Скардзяцца ва ўсе інстанцыі. Гэта ненармальна, недапушчальна ў той час, калі працуе камісія», — сказаў Лукашэнка.

«Ёсць праблема — бярэм яе і вырашаем. Прытым пачынаючы ад канкрэтнага дома, які не будуецца або будаўніцтва якога пратэрмінавана па віне будаўнікоў або забудоўшчыкаў, і заканчваючы рашэннямі на заканадаўчым узроўні, калі для гэтага ёсць нейкая неабходнасць. Убачылі ў СМІ нейкі зварот групы нашых грамадзян або пачулі пра гэта — неадкладна праверылі. Калі хтосьці не выпраўляе — дадзена каманда праваахоўным органам: кайданкі — і ў камеру. І няхай тады думаюць, як працаваць з народам», — сказаў Лукашэнка.

Але калі «кайданкі — і ў камеру», то гэта будзе вельмі эфектыўнае вырашэнне пытання. У нас будаўнікоў і так не хапае — усе з'ехалі за «доўгім рублём» у Расію. А калі мы перасаджаем тых, хто пакуль што яшчэ застаўся на нашай тэрыторыі, — хто ж нам будаваць будзе? Кітайцаў сюды завезці, ці што?

Дарэчы, улады Кітая, адкуль нядаўна прыехаў прэзідэнт, таксама заклапаціліся будаўніцтвам. 23 ліпеня ў Кітаі ўведзена пяцігадовая забарона на будаўніцтва любых адміністрацыйных будынкаў. Адпаведную дырэктыву прынялі Дзяржсавет краіны і Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі Кітая. Акрамя адміністрацыйных будынкаў, забарона распаўсюджваецца і на будаўніцтва за дзяржаўны кошт любых дарагіх збудаванняў, у тым ліку гасцініц і навучальных цэнтраў.

Прынятая дырэктыва заклікае ўсе партыйныя і ўрадавыя органы эканомна расходаваць бюджэтныя сродкі і выдаткоўваць іх толькі на меры, якія садзейнічаюць развіццю эканомікі і росту дабрабыту грамадзян. Дакумент забараняе ўзвядзенне, куплю, рэстаўрацыю або пашырэнне адміністрацыйных памяшканняў пад выглядам рамонтных работ або рэалізацыі горадабудаўнічых планаў.

Рамонт памяшканняў дазваляецца толькі ў выпадку, калі ў іх мінае дазволены тэрмін эксплуатацыі. Уладным структурам забараняецца атрымліваць спонсарскую падтрымку або ахвяраванні на будаўніцтва новых будынкаў. А чыноўнікі, якія займаюць некалькі пасад адначасова, не павінны атрымліваць з-за гэтага больш аднаго кабінета.

Вось бы нам такія рашэнні! «Адзін чыноўнік — адзін кабінет». І пачаць трэба, канешне, з сябе, то бок з Аляксандра Рыгоравіча. Навошта яму столькі рэзідэнцый, дый яшчэ Палац Незалежнасці дабудоўваецца. А Пракаповіч з ягонымі больш чым 20-ю пасадамі? Няўжо для кожнай з іх — асобны кабінет?

Ну а вызваленыя памяшканні здаць пад офісы. І валюты мы такім чынам знойдзем — заваліся!

Вось бы нам такія рашэнні! «Адзін чыноўнік — адзін кабінет». І пачаць трэба, канешне, з сябе, то бок з Аляксандра Рыгоравіча. Навошта яму столькі рэзідэнцый, дый яшчэ Палац Незалежнасці дабудоўваецца

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ

Палітвязню Зміцеру Дашкевічу 20 ліпеня ў калоніі споўнілася 32 гады. Гэта ўжо не першы дзень народзінаў, які ён спраўляе за кратамі. Першы раз ён адзначыў такі дзень народзінаў у 2007 годзе, калі быў асуджаны па артыкуле 193-1 за дзейнасць ад імя незарэгістраванага «Маладога фронту». Другі — у мінулым годзе.

Дашкевіч быў арыштаваны напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, у снежні 2010 года. У сакавіку 2011 года Зміцер Дашкевіч быў асуджаны на два гады пазбаўлення волі нібыта за збіццё двух мінакоў. Тэрмін яго зняволення заканчваўся ў снежні 2012 года, але ўлады падрыхтавалі новую крымінальную справу супраць палітыка па артыкуле 411 КК («невыкананне рэжыму калоніі»).

28 жніўні 2012 года ў глыбоцкай калоніі Дашкевіч атрымаў дадатковы год пазбаўлення волі за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі». Усе судовыя працэсы па справах Зміцера Дашкевіча былі расцэненыя праваабаронцамі як палітычна матываваныя, а арганізацыя «Міжнародная амністыя» двойчы прызнавала яго вязнем сумлення.

### СЯМЁН ШАПІРА



Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра загадаў пералічыць зарплаты трэнера і футбалістаў футбольнага клуба «Нёман».

На чарговым пасяджэнні старшыня аблвыканкама Сямён Шапіра падняў пытанне пра заробкі ў футбольным клубе «Нёман». Пад гарачую руку кіраўніку вобласці трапіў галоўны трэнер клуба Сяргей Саладоўнікаў, месячны заробак якога складае 24 мільёны рублёў. «Гэта заробак трох маіх намеснікаў. А па вобласці сярэдняя зарплата 4,2 мільёна», — пакрыўдзіўся Шапіра.

Шапіра папрасіў даць яму дадзеныя, у якую суму абыходзіцца хвіліна знаходжання на поле легіянера Сеаліна Нікаласа, які не забіў ніводнага гола, не аддаў ні адной галявой перадачы, але зарабляе ў месяц каля 32 мільёнаў рублёў. Перыяд розыгрышу чэмпіянату — з сакавіка па ліпень — шэсць месяцаў. За гэты час футбаліст зарабіў 160 мільёнаў. З 18 матчаў чэмпіянату Сеалін выходзіў на поле дзесяць разоў і правёў агулам 185 хвілін. Калі гэты час падзяліць на заробак, атрымаецца, што за адну хвіліну перасоўванняў па футбольным полі легіянер зарабіў 860 тысяч рублёў, або каля ста долараў.

### КАНСТАНЦІН СУМАР



Брэсцкі губернатар Канстанцін Сумар хоча забараніць выдзяляць зямлю пад гіпермаркеты.

На чарговым пасяджэнні Брэсцкага аблвыканкама кіраўнікі рэгіёну выказалі занепакоенасць тым, што апошнім часам у вобласці рэзка ўзрос спажывецкі імпарт. Усё часцей, выпраўляючыся ў супер- і гіпермаркеты па пакупкі, берасцейцы аддаюць перавагу таварам імпартнай, а не айчыннай вытворчасці.

Пачуўшы гэтую інфармацыю, Канстанцін Сумар не заклапаціўся тым, каб беларускія тавары былі больш якаснымі і больш таннымі. Ён заявіў пра неабходнасць спыніць вылучэнне ўчасткаў гандлёвым сеткам для будаўніцтва гіпер- і супермаркетаў, каб яны «не раскладалі наш гандаль». Іншымі словамі, губернатар упэўнены ў тым, што спыненне развіцця сетак буйных крам спыніць і рост спажывецкага імпарту.

Што ж, калі знікнуць у Брэсце гіпермаркеты, ці будуць людзі «купляць беларускае»? Хутчэй, па закупы яны з'едуць у вельмі недалёкую Польшчу.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЯКІ ХАКЕЙ НАМ ПАТРЭБНЫ?

Сяргей НІКАЛЮК




**Неканкурэнтаздольнасць беларускай эканомікі — пабочны прадукт неканкурэнтаздольнасці дзяржавы і грамадства.**

Канчатковае рашэнне Міжнароднай федэрацыі хакея правесці Чэмпіянат свету ў Мінску расчаравала апанентаў беларускай улады. Дзівіцца гэтаму не даводзіцца. У расколатым грамадстве наконт любой значнай падзеі ўзнікаюць два палярныя меркаванні, за якімі стаяць розныя каштоўнасці і спосабы іх аргументацыі. Таму агульнанацыянальны дыялог у рэспубліцы-партызанцы немагчымы. Замест яго гучаць два маналогі. Любы ахвочы можа ў гэтым пераканацца, калі звернецца і да дзяржаўных, і да недзяржаўных СМІ адначасова.

Асноўны довад супраць Чэмпіянату свету ў Мінску зразумелы: правядзенне спаборніцтваў будзе падтрымліваць рэжым, які парушае правы чалавека. Прыхільнікі чэмпіянату адмаўляюць сам факт такіх парушэнняў і нагадваюць, што яшчэ ініцыятарам арганізацыі сучасных Алімпійскіх гульняў П'ерам дэ Кубертэнам сфармуляваны лозунг: «Спорт па-за палітыкай».

З дапамогай сацыёлагаў пяройдзем ад палітычна актыўных грамадзян да грамадства ў цэлым. У сакавіку 2012 года за правядзенне Чэмпіянату свету выказалася 46% беларусаў, супраць — 13%, 41 працэнт заявіў пра сваю абыякавасць да гэтага пытання (НІСЭПД).

## Мы самі ў шоку!

Каштоўнасці не могуць быць прадметам дыскусіі, і таму марнаваць час на збліжэнне процілеглых пунктаў гледжання — сабе даражэй. Але хто сказаў, што хакейная праблема абмяжоўваецца пералічанымі вышэй узаемавыключальнымі меркаваннямі? Закон ненаўмысных наступстваў, наколькі мне вядома, ніхто яшчэ не адмяняў. Нават на побытавым узроўні нечаканыя акалічнасці ўвесь час карэктуюць нашы планы, а што ж казаць пра планы, якія рэалізуюцца дзяржавай…

Каб знайсці адпаведны прыклад, не трэба паглыбляцца ў стагоддзі. Улетку 1957 года ў Маскве (г. зн. у сталіцы таталітарнай дзяржавы) прайшоў VI Сусветны фэст моладзі і студэнтаў. Гасцямі фэсту сталі 34 тысячы чалавек са 131 краіны.

Каб зразумець мэты, якія ставілі перад сабой арганізатары фэсту, нагадаю, што ён праводзіўся ў разгар «халоднай вайны». Яе пачаткам прынята лічыць выступ Уінстана Чэрчыля ў Фултане 5 сакавіка 1946 года. Дзвюм звышдзяржавам адчайна былі патрэбныя саюзнікі, і СССР і ЗША не шкадавалі сродкаў для ўзмацнення свайго ўплыву на краіны «трэцяга свету».

Падрыхтоўка айчынных спецыялістаў, якія валодаюць адпаведнымі мовамі, і прыцягненне замежных студэнтаў з мэтай фармавання эліт прасавецкай арыентацыі разглядаліся крамлёўскімі ідэолагамі ў якасці абавязковых складнікаў «міралюбнай знешняй палітыкі» СССР. Для яе паспяховага правядзення ў 1944 годзе быў заснаваны Інстытут міжнародных адносін, а за год да фэсту пры Маскоўскім дзяржаўным універсітэце адкрылі Факультэт усходніх моваў, што пасля эвалюцыянаваў у Інстытут краін Азіі і Афрыкі, а праз тры гады пасля фэсту ўзнік Універсітэт сяброўства народаў.

Зразумела, што запрашэнне на маскоўскі фэст атрымлівалі пераважна прадстаўнікі «прагрэсіўнай моладзі». Шматлікія госці сваю «прагрэсіўнасць» даказалі ўдзелам ва ўзброенай барацьбе супраць «заходніх каланізатараў».

Якое ўражанне на замежных гасцей зрабіла сталіца першай у свеце дзяржавы «працоўных і сялян» — пытанне асобнае, але сам факт з'яўлення на вуліцах Масквы тысяч замежнікаў, шмат хто з якіх належаў да «нетрадыцыйных» расаў, шакаваў масквічоў. У той час слова «замежнік» у СССР было сінонімам слоў «вораг» і «шпіён».

Я да гэтага часу памятаю бурную рэакцыю бацькоў на ліст, які атрымала мая сястра ад аднагодкі з Балгарыі. Справа была ў 1960 годзе. Мы жылі ў Рызе. Бацька камандаваў артылерыйскім палком. У яго асабістай справе быў зафіксаваны факт ад'езду ў 1909 годзе роднага дзядзькі з украінскай вёскі ў Амерыку, і гэты факт ужо двойчы бацьку адгукаўся.

## Ненаўмысныя наступствы

Вікіпедыя дае магчымасць уваскрэсіць уражанні ўдзельнікаў фэсту: «Я памятаю, як светлымі начамі на маставой вуліцы Горкага стаялі купкі людзей, у цэнтры кожнай з іх некалькі чалавек штосьці горача абмяркоўвалі. Астатнія стаялі вакол іх шчыльным колам, услухоўваліся, набіраліся розуму, прызвычайваліся да самога гэтага працэсу — свабоднага абмену меркаваннямі».

Працэс свабоднага абмену думкамі, які нечакана адкрыўся савецкім людзям, — адно з ненаўмысных наступстваў фэсту. Ну, хто з яго арганізатараў мог прадбачыць нешта падобнае?

Але працягну цытаваць Вікіпедыю: «У раёне Ленінскіх гор затрымалі групу мужчын. Яны размясціліся за кустамі пасярод газону, у цэнтры — два маладых афрыканцы. П'яныя і галяком. Сталі разбірацца, і адзін з мужыкоў патлумачыў: маўляў, паспрачаліся з сябрамі, якога колеру ў неграў «гаспадарка». Каб вырашыць пытанне, купілі некалькі бутэлек гарэлкі і ўгаварылі (жэстамі!) дэлегатаў, якія прагульваліся побач, зазірнуць «на пікнічок». Калі тыя як след напіліся, іх здолелі пераканаць зладзіць стрыптыз. Якраз да разгару падзей мы і падаспелі. Афрыканцаў адправілі ў гасцініцу, а нашых — у найбліжэйшы пастарунак».

Калі меркаваць па прыведзенай цытаце, нашы з «найбліжэйшага пастарунку» і не выходзілі. І не важна, што плошча «пастарунку» складала 1/6 частку сушы. Сорак гадоў жыцця за «жалезнай заслонай» (два пакаленні) не маглі не адбіцца. Асноўнай інфармацыйнай крыніцай «нашых» пра Афрыку былі дзіцячыя вершы Карнея Чукоўскага. Ці варта пасля гэтага дзівіцца непадробнай цікавасці масквічоў да колеру «гаспадаркі» ў прадстаўнікоў негроіднай расы.

Яшчэ адно ненаўмыснае наступства фэсту — нараджэнне паняцця «людзі добрай волі». Гэта працаўнікі капіталістычных краін, якія яшчэ пакуль не гатовыя будаваць сацыялізм, аднак ужо і не ворагі. Яны складалі пераважную большасць замежных гасцей. Такім чынам, для савецкага чалавека чорна-белая карціна свету нечакана ўскладнілася, а ў руху ад простага да складанага і палягае сутнасць працэсу развіцця.

Спіс ненаўмысных наступстваў прапагандысцкага мерапрыемства, што задумалі і правялі партыйныя функцыянеры, прыведзенымі прыкладамі не абмяжоўваўся. Фэст адыграў велізарную ролю ў мабілізацыі інтэлігенцыі, якая склала позняе ядро «шасцідзесятнікаў».

Не абышоў ён і абывацеляў. Тысячы гасцей фэсту адным сваім знешнім выглядам дэманстравалі перавагу рынкавай эканомікі над эканомікай планавай. Першая выбяляла джынсы, другая — нагавіцы.

Асноўны эканамічны закон сацыялізму гарантаваў савецкім людзям задавальненне іх матэрыяльных і культурных патрэбаў, што раслі ўвесь час. Гаворка, зразумела, ішла пра разумныя патрэбы, г. зн. пра запатрабаванні, што былі вызначаны рашэннямі партыйных з'ездаў. Але фэст істотна падняў планку разумнасці запатрабаванняў насельніцтва. Гэта быў выклік, адэкватны адказ на які партыйныя таварышы знайсці так і не здолелі.

Прыклад з VI Сусветным фэстам моладзі і студэнтаў я прывёў не для таго, каб паспрабаваць правесці паралелі з хуткім Чэмпіянатам свету па хакеі. Нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку. Іншы час — іншыя праблемы. Сёння немагчыма ўявіць сабе беларусаў, якія спрачаюцца на тэму колеру «гаспадаркі». Але што засталося нязменным, дык гэта няўхільнасць закона ненаўмысных наступстваў. Яго «ўмяшанне» ў запланаваны ход падзей наканавана самім маштабам хуткага мерапрыемства.

## Карціна алеем

Той, хто лічыць, што асноўныя праблемы Беларусі палягаюць у галіне палітыкі, — памыляецца. Маркс меў рацыю, калі адносіў палітыку да надбудовы, аднак ён памыліўся з вызначэннем базісу. Эканоміка на ролю базісу не цягне, бо сама з'яўляецца вытворнай ад культуры.

Наш «адзіны палітык» (АП) з такога кшталту рэвізіяй марксізму цалкам бы пагадзіўся. Прывяду адпаведную цытату: *«Почему наши товары с трудом конкурируют на внешних рынках? Не только по причине так называемой неблагоприятной конъюнктуры. Есть и вполне субъективные причины — потому что часто мы работаем плохо, спустя рукава. Пьянство на рабочих местах до конца так и не изжили. Технологии не соблюдаются порой, на работе многие не напрягаются, добросовестность становится редкостью. И это касается не только производства. Посмотрите на наш сервис. Продавцы в магазинах, официанты в кафе, автослесари в мастерских часто хамят, переходят к жульничеству, обманывают своих клиентов — тех, кто платит им свои деньги».*

Карціна алеем у стылі сацрэалізму. Работнікі савецкага сэрвісу, як вядома, працавалі пад дэвізам: «Вас шмат, я адна». Эканоміка дэфіцыту засталася ў мінулым, але ад дэфіцыту прафесіяналізму мы так і не пазбавіліся.

Але не варта аб'ядноўваць пад займеннікам «мы» выключна гандляроў і афіцыянтаў. А як наконт тых, хто аб'яднаныя пад назоўнікам «улада»? Днямі я прагледзаў свой архіў і сустрэў выказванне Пятра Пракаповіча — далёка не апошняга чалавека ва ўладнай іерархіі. Вось яго рэцэпт прыцягнення замежных інвестараў: «На працягу наступнага года, а яшчэ лепш — да новага года, мы павінны стварыць такія ўмовы, каб Беларусь паводле клімату спрыяння бізнэсу ўвайшла ў першыя 25 краін свету. Ніякіх грошай для гэтага не трэба — неабходна толькі перагледзець нарматыўную базу». Гляджу на дату — лістапад 2008 года. Па выніках мінулага года ў рэйтынгу Сусветнага банка ў нас 58-е месца. У чым тут прычына? Няўжо п'янства на працоўных месцах?

Неканкурэнтаздольнасць беларускай эканомікі — пабочны прадукт неканкурэнтаздольнасці дзяржавы і грамадства. Дамарослымі мерамі сітуацыі не выправіць. Неабходныя рэгулярныя знешнія шокі.

Чым тут зможа дапамагчы хакейны чэмпіянат? Адзін прыклад. Паводле Канстытуцыі, адзіным суверэнам у нас з'яўляецца народ, а дзяржава яму служыць. На практыцы ж дзяржава валодае манапольным правам дыктаваць народу сваю волю. Такі парадак склаўся не сёння і не ўчора.

Але, прыняўшы на сябе ролю арганізатара такога маштабнага спартовага спаборніцтва, беларуская дзяржава вымушана адмовіцца ад гульні паводле ўласных правілаў і прыняць правілы міжнародныя. Міжнародныя нормы абслугоўвання кліентаў давядзецца асвойваць і тысячам беларускіх прадавачак і афіцыянтаў. У гэтым і будзе палягаць адно з ненаўмысных наступстваў Чэмпіянату свету па хакеі.

ALBA ROCIKA




# ЯДЫ НАД КРУПСКІМ РАЁНАМ

Віталь СЯМАШКА

**Днямі на рахунак кампаніі «ДВЧ-менеджмент» пералічаны 1,5 мільёна долараў — першы транш на будаўніцтва, як пазначана ў паперах, «прамысловага аб'екта перапрацоўкі адпрацаваных нафтапрадуктаў». Жыхары пасёлку Крупкі, што на Міншчыне, ужо ёміста ахрысцілі яго «заводам ядаў».**

Сёння да станцыі Крупкі з Мінску можна дабрацца ўдвая хутчэй. Дзякуючы нядаўна адкрытаму маршруту да Оршы на швейцарскай электрычцы. Крупкі з савецкіх часоў застаюцца буйным перавалачным чыгуначным вузлом. Да станцыі прымыкае 2-тысячны пасёлак, які паціху памірае.

«Пазакрывалі ўсё — быў цагляны завод, пякарня свая. А да маскоўскай шашы 2 кіламетры, чыгунка вялікая — і нічога!» — распавядае брыгадзір чыгуначных рамонтнікаў Васіль.

У 2011 годзе Міністэрствам абароны на аўкцыён была выстаўлена буйная нафтабаза, што з'яўлялася і асноўным працадаўцам для мясцовых. Яе выкупіла фірма «Каспійбуд». Яна і заахвоціла інвестараў з беларуска-расійска-нямецкай кампаніі «ДВЧ-менеджмент». На тэрыторыі базы дагэтуль знаходзяцца сотні 68-тонных цыстэрнаў, дзе можна захоўваць перапрацаваныя «яды». Пра гэта 3 месяцы таму паведаміў і вертыкальны «Крупскі веснік».

31-гадовы Марат Занямонец агучыў тыя чуткі, што ходзяць сярод мясцовых жыхароў:

«Будуць набіраць людзей туды да паўсотні — кажуць, з заробкам па 4 мільёны. У газеце было напісана, што можна ўжо здаваць адпрацаванае масла — за літар тысяча. Але за такі грошы лепш выліць!»

Той жа «Крупскі веснік» паведаміў, што везціся сыравіна для працы завода будзе аж з Кіпра, і захоўванне па прыродзе ядавітых адкідаў, аказваецца, мае яшчэ на мэце «паляпшэнне экалагічнай сітуацыі ў краіне» (!). Прынамсі, вертыкальная газета «Мінская праўда» паведаміла, што побач з былымі рэзервуарамі для захоўвання паліва, у непасрэднай блізкасці ад людскога жытла, узнікнуць яшчэ экалагічна небяспечныя завод па вытворчасці пластмас ды адмысловы цэх «па перапрацоўцы ды вяртанні да жыцця адпрацаваных хімікатаў».

Я звязаўся з начальнікам аддзела эканомікі Крупскага райвыканкама Таццянай Казлоўскай. І вось што яна патлумачыла наконт небяспечнасці будучага прамысловага аб'екта: «Як ён можа быць «яданебяспечны», калі заключана дамова з Міністэрствам аховы прыроды? А Кіпр задзейнічаны, бо фірма замежная, і адтуль паступаюць інвестыцыі, масла. Небяспекі няма!»

Ля аўтобуснага прыпынку ў Крупках людзі самі падышлі, убачыўшы дыктафон: «Во ў склады нафтабазы завозяць нейкі яд! Машына нядаўна стаяла з надпісам «яды» на бочках. А ўсе шкодныя вытворчасці павінны быць за 1,5 кіламетра, а там хаты стаяць у 100 метрах. І хто ім дазволіў, незразумела, за які хабар?!»

Мясцовыя жыхары ўжо накіроўвалі свае звароты ў пракуратуру. Была створана нават адмысловая ініцыятыўная група. Ініцыятарамі яе стварэння, кажуць, была сям'я Ніковічаў. Настаўніца музыкі, спадарыня Святлана, мяне нібы чакала: «Усё праўда! Заходзьце смела!»

Знаёмлюся з маці, Марыяй Сямёнаўнай, якая 13 гадоў адпрацавала ахоўніцай на нафтабазе:



83-гадовая Марыя Сямёнаўна Ніковіч

«Мамачка родная, з Кіпра ў Крупкі адыходы будуць прывозіць ад «Боінгаў»! Я стала крычаць, што адыходы ядавітыя, а цыстэрны даваенныя, іржавыя, стаялі без паліва колькі год! Знаходзяцца ад хат за 5 метраў, пад зямлёй! Мы ж усе ўзлезцім у паветра і падохнем не сваёй смерцю, будзем хварэць усе! Дыхаць і так няма чым, бо лес вырубілі па магістралі — у тапалях, амерыканскіх клёнах, як у вяночку, быў пасёлак. А чаго, стала дапытвацца: маўляў, як будзе прыязджаць Лукашэнка, дык каб хто не напаў! Ну, ці чулі такі цуд?!»

«Абазнаныя людзі паведамілі мне, што ў будынку, дзе быў бар у цэнтры, збіраюцца зрабіць казіно, паколькі цягнікі хуткасныя з Масквы побач — вунь Ала Пугачова прайграла ж за 20 гадзінаў сотні тысяч долараў у Мінску! За наш бар заплацілі 440 мільёнаў — 50 тысяч долараў. А ў расіян абслуга атрымлівае вельмі вялікія грошы. У Маскве нашым маладзенькім дзяўчынкам, якіх запрасілі ў пажыўныя месцы афіцыянткамі, заплацілі за 10 дзён працы па 8,5 тысячы долараў. Таму ўсе пачнуць нас скупляць. Лясны масіў быў цудоўны — з грыбамі, ягадамі! Людзі абуралі-ся, пісалі — бачыце, сасна адна ў нас тырчыць. Вецер моцны стаў дзьмуць — зрубілі клёны, якія бралі пасля Чарнобыля на сабе ўсе цяжкія металы. І ніхто нічога не гаворыць пра пасёлак. Лазні няма, камбінат бытавога абслугоўвання перанеслі ў Крупкі. Старому чалавеку пілу пагастрыць



Святлана Ніковіч, кіраўнік ініцыятыўнай групы

— вялікая праблема...» — распавядае Святлана Ніковіч.

Пасля майго прыезду ў хаце Ніковічаў сабраліся за кубкам гарбаты абмеркаваць сітуацыю і планы дзеянняў 11 сяброў ініцыятыўнай групы — людзей розных узростаў і прафесій, якія гатовы змагацца за свае здароўе і жыццё. Рэй павёў былы марак-вайсковец Генадзь Кавалёў: «Тут непакой за ўласнае жыццё і лёс пакаленняў — будучага і цяперашняга. Чаму насельніцтва не паставілі ў вядомасць пра будаўніцтва? Бо з намі ніхто не лічыцца! І чыя



Генадзь Кавалёў

сёння гэта зямля? Каму можна прад'явіць прэтэнзіі і дакладна, не па чутках, даведацца, што за будаўніцтва будзе весціся?!»

Далейшую ходу размовы падаю амаль стэнаграфічна:

Святлана Ніковіч: «Завод будзе трохстадыйны, значыць, 3 цэха. Плануецца прыяднаць завод пластмасавых вырабаў — страшэнна ядавіты. У Мінску на такі ж муж хадзіў — там «выплёўваюць» лёгкія, больш за год працаваць нельга. Далей, па «Мінскай праўдзе», — «спеццэх па перапрацоўцы хімікатаў». Яны нават не хаваюцца — трымайце!»

Былы камандзір вайсковай часткі, палкоўнік Юрый Ткачэнка кажа: «А як прыкрыццё — перапрацоўка нафтапрадуктаў! Яны плануюць да 100 кубоў у суткі — дзе яны набяруць у



Беларусі столькі маславых адыходаў?! Гэта колькі ж аўтамабіляў трэба мець на краіну? Кажуць, калі не хопіць, з Украіны і Расіі завязуць. Па-другое, яны ўжо нашу свідравіну з пітной вадой збіраюцца забіраць. «Вам зробяць другую свідравіну!» — кажуць. Дзе яны знойдуць, незразумела? А адыходаў на 100 кубоў перапрацоўкі мінімум 10%. Куды іх скінуць?! Адстойнікі не вытрымаюць такой нагрузкі. Я спытаў у санітарнага ўрача. Адказ: «Калі будуць сігналы парушэнняў, прымем меры». А мы пасля будзем працаваць на аптэку?! Тайны крупскага двара маем...»

**Марыя Жук,** жыхарка вайсковага гарадка, што ў некалькіх метрах ад месца з будучымі ядавітымі цыстэрнамі, скардзіцца: «Станцыя Крупкі знаходзіцца за паўтара кіламетра ад вайсковай часткі, там нашы дамы. І мы павыміраем як маманты — мы будзем піць атручаную ваду, дыхаць ТЫМ паветрам. Я не магу зразумець — няўжо ў райцэнтры ды пасёлку адзін старшыня райвыканкаму жыве? Няўжо людзі самі сябе ворагі і задумалі такую будоўлю?»

**Людміла Ткачэнка**, мясцовая жыхарка, распавяла: «Калі мясцовыя «царкі» атрымалі нейкі адкат, ім зусім нецікава закрываць гэта ўсё — трэба ж будзе даць справаздачу за гэтыя грошы. А ў мяне ўнук-немаўля на выхаванні знаходзіцца. Дзеці з Мінску, унукі прыязджаюць адпачываць. Пра іх мусім задумвацца?! Мала таго, што з-за лягсаса ўлетку не адкрыць фрамугу — б'емся-б'емся колькі год, каб трубы, што сушаць і паляць дрэва, паставілі па-за плотам, бо ідзе дым чорны — бессэнсоўна, прачынаемся ад гару!»

**Юрый Ткачэнка**: «Ёмістасці-бочкі закладзены з 50-х гадоў, як і вайсковая нафтабаза. З 2004-га, калі яе закрылі, яны стаялі іржавымі, без дыягностыкі. Гэта дарагая справа — праверка, ці ёсць уцечкі, трэшчыны. Калі зараз загрузяць у іх нафтапрадукты, можа быць экалагічная катастрофа! Трэба пісаць паперы ў Дзяржкантроль — хай яны праверыць, бо нам дадуць толькі адпіскі, фількіны граматы. Пасля подпісы і звароты трэба адпраўляць вышэй. У іх трэба аргументавана даказваць, што нам гэты бруд не патрэбны!»

Вяртаючыся ў Мінск, я ўзгадаў, як Марыя Сямёнаўна расказала пра тое, чым скончылася яшчэ адно замежнае прышэсце ў Крупкі: «Гадоў 10 таму немец хацеў заснаваць прадпрыемства па перапрацоўцы драўніны, каб мэблю рабіць тут таннымі працоўнымі рукамі. Спалілі — і ніхто нічога не знайшоў...»

Але не ўсе падзяляюць апасенні Марыі Сямёнаўны. Перад сустрэчай з Ніковічамі я зайшоў у невялікую краму з надпісам «Хлеб», дзе пагутарыў з гандляркай Людмілай Бачышча: «Дык а вы самі бачылі бочкі з надпісам «Яд»? Гэта пісакі, што ўсё жыццё пішуць! Ніковіч падбухторвала ўсіх — пісаць, пісаць. А мы нічога не ведаем...»

**P.S.** У Крупскім раёне пачаўся збор подпісаў пад зваротам да Лукашэнкі, каб спыніць будаўніцтва «завода ядаў». Як паведаміла напярэдадні спадарыня Марыя Ніковіч, ва ўсіх канторах пасёлка дадзены ўказанні сяброў ініцыятыўнай групы не пускаць, іх звароты зрываць.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ — НЕВЫНОСНАЕ ПЫТАННЕ

Сяргей ПУЛЬША

**Пытанне пра смяротнае пакаранне ў Беларусі — спрэчнае і балючае. У 1996 годзе на рэферэндуме людзі прагаласавалі за захаванне пакарання смерцю. Ці варта выносіць пытанне пра адмену смяротнага пакарання на новы рэферэндум?**

**Напрыканцы мінулага тыдня пра гэта спрачаліся ініцыятары «Народнага рэферэндуму» і спецыялісты з ліку праваабаронцаў.**

## Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання

Зараз у Беларусі толькі 14 артыкулаў прадугледжваюць смяротнае пакаранне, два з іх — за злачынствы, здзейсненыя ў вайсковы час. Астатнія 12 караюць смерцю за наўмыснае забойства з абцяжарваючымі абставінамі і масавае забойства — артыкулы кшталту тэрарызму. Агулам смяротных прысудаў у краіне выносіцца не так ужо шмат — ад трох да пяці на год. Дык ці варта дзеля трох-пяці чалавек захоўваць стан краіны як апошняй у Еўропе і на прасторах былога СНД, дзе смяротныя прысуды не толькі выносяцца, але і выконваюцца?

Праваабаронцы лічаць, што не варта. І аргументы тут як эмацыйныя, так і юрыдычныя. Смяротнае пакаранне не павінна захоўвацца там, дзе няма справядлівага разгляду справы.

Як распавёў каардынартар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда, найбольшая колькасць людзей, якія выступілі супраць смяротнага пакарання, была адзначаная падчас працэсу Канавалава і Кавалёва па тэракце ў мінскім метро — 52%. Людзі проста не верылі ў магчымасць справядлівага разгляду гэтай справы.

Журналістка Любоў Лунёва адзначыла, што не мае даверу і да камісіі па памілаванні, бо ў беларускіх умовах у яе ўваходзяць тыя, хто зацікаўлены ў смяротным прысудзе. Яна ўзгадала адну «смяротную» справу сярэдзіны 1990-х. «Хто ўваходзіць у камісію па памілаванні пры прэзідэнце: суддзі, пракуроры, міліцыянеры. Што, пракурор ці суддзя будуць кагосьці мілаваць? Гэта значыць, прызнаць судовую і пракурорскую памылку. З іншага боку, справа забітага Вані Фаміна потым была расшытая, і туды ўстаўленыя пяць рабаванняў кіёскаў, дзве крамы, 18 кватэрных крадзяжоў, тры матацыклы!» — кажа Лунева. То бок, на «жмурыка» спісалі шмат «вісякоў».

То бок, не толькі з маральнаэтычных меркаванняў смяротнае пакаранне падлягае адмене.

## Тыя, хто за смерць, — таксама супраць

Вельмі парадаксальнай выявілася думка прыхільнікаў захавання смяротнага пакарання ў Беларусі. Каардынатар кампаніі «Гавары праўду!» Андрэй Дзмітрыеў заявіў: ён за смяротную кару. «Я супраць яе адмены, але я лічу, што трэба змяніць сам працэс: рашэнне пра смяротнае пакаранне не павінна заканчвацца на ўзроўні прэзідэнта. Павінен быць іншы прынцып: чалавек, асуджаны да такой меры, павінен прайсці ўсе магчымыя інстанцыі для абскарджання смяротнага прысуду, і не толькі беларускія. У гэтым выпадку я бачу магчымасць «адтэрміноўкі» выканання смяротнага пакарання, магчыма, год на 10, каб сапраўды прайсці ўсё юрыдычныя інстанцыі і даказаць, што з такім прысудам дзяржава не памылілася», — кажа Дзмітрыеў.

Фактычна гэтая пазіцыя палягае ў маратoрыі на смяротнае пакаранне.

Былы адвакат Уладзімір Букштынаў кажа, што згодны «наступіць на горла ўласнай песні». «Я не толькі адвакат — за маімі плячыма яшчэ і 20 гадоў пракурорскай практыкі. Праз мае рукі прайшлі сотні крымінальных справаў па абвінавачваннях у забойстве, я выязджаў на месцы злачынстваў, бачыў гэтыя жудасныя трупы. І на фоне гэтых гадоў, я за захаванне смяротнага пакарання», — прызнаецца ён.

Але для яго гэтая пазіцыя не з'яўляецца абсалютам, бо ў яго, як у прафесіянала, ёсць больш высокая мэта, чым «жыццё двух, трох альбо дзесяці адмарозкаў». «Гэта доступ дзесяцімільённага народа да еўрапейскага правасуддзя. У нас людзі, асуджаныя па крымінальных справах, далей Вярхоўнага суда дайсці не могуць. Яны ўпіраюцца ў гэты дах, калі ёсць легальны і законны шлях аспрэчыць рашэнне беларускай юстыцыі ў той жа Еўропе. Шлях да еўрапейскага правасуддзя адзін — праз Савет Еўропы. А ўмовай уступлення ў Савет Еўропы і пад юрысдыкцыю Еўрапейскага суда ёсць адмена альбо маратoрый на смяротнае пакаранне. І дзеля гэтай мэты, доступу да еўрапейскай судовай сістэмы я б захаваў жыццё гэтым васьмі — пятнаццаці «смяротным» асуджаным. Калі на вагах з аднаго боку жыццё злачынцаў, а з іншага — доступ дзесяці мільёнаў беларусаў да еўрапейскага правасуддзя — хай жывуць», — кажа Букштынаў.

## Ці будзе рэферэндум пра смяротнае пакаранне?

Яшчэ адна дзіўная рэч: праваабаронцы, якія выступаюць за адмену смяротнага пакарання, катэгарычна супраць вынасу гэтага пытання на плебісцыт. На іх думку, гэтае пытанне для ўсеагульнага абмеркавання занадта



складанае і спрэчнае, каб атрымаць аб'ектыўнае рашэнне.

Былы адвакат Павел Сапелка адзначае: для таго, каб прыйсці да разумення неабходнасці адмены смяротнага пакарання, трэба мець дастаткова высокую праву культуру і высокі ўзровень ведаў па гэтай праблеме. «Таму не кожны чалавек у Беларусі, калі ён будзе пастаўлены перад выбарам, захаваць ці адмяніць смяротнае пакаранне, будзе валодаць усёй інфармацыяй, якая дасць яму магчымасць прыняць слушнае рашэнне. У такой сітуацыі пытанне адмены смяротнага пакарання павінна вырашацца не шляхам галасавання, а жорсткай воляй дзяржавы. І я думаю, што Беларусь павінна праявіць гэтую волю. Можа быць, нават не звяртаючы ўвагу на меркаванні людзей, якія выступаюць за захаванне смяротнай кары», — кажа ён.

Дзмітрыеў, нягледзячы на тое, што менавіта «Гавары праўду!» разглядае магчымасць вынасу гэтага пытання на рэферэндум, лічыць бессэнсоўным на ім такое пытанне. Прынамсі, зараз. «У адсутнасці нармальнай публічнай дыскусіі прыймаць такія рашэнні немагчыма. Тэма настолькі спецыфічная, што, з аднаго боку, ёй вельмі лёгка маніпуляваць, а з іншага боку — яна не дазваляе зразумець, мае чалавек наконт гэтага перакананае і акрэсленае меркаванне, альбо ягоная пазіцыя выкліканая эмоцыямі», — кажа Дзмітрыеў.

Аналагічнай пазіцыі прытрымліваецца і Палуда. Калі пытанне даволі эмацыйнае, то ім вельмі проста маніпуляваць. А праз гэтыя маніпуляцыі праваабаронцы могуць страціць тыя пазіцыі, якія ў іх ёсць зараз. «Калі па тэлебачанні пачнуць паказваць адмысловыя прапагандысцкія фільмы пра неабходнасць захавання смяротнага пакарання, то народ выкажацца за яго захаванне. А калі народ выкажацца захаваць гэтую меру, то тады ўвогуле не будзе пляцоўкі для абмеркавання гэтага пытання. Зараз улады кажуць пра рэферэндум 1996 года. А калі яны будуць казаць пра рэферэндум 2014 года — у нас увогуле знікне нават магчымасць казаць пра адмену смяротнага пакарання», — адзначае Палуда.

І вельмі цікавую пазіцыю, праўда, з чужых вуснаў, выказала Любоў Лунёва. «Як казала расійская праваабаронца Валерыя Навадворская, навошта мы вучым юрыстаў, ствараем ім такую кар'ерную лесвіцу, да Канстытуцыйнага суда, калі важнейшыя юрыдычныя пытанні будуць вырашаць бабулькі ля пад'езду?».

## Калі не гэта, што замест?

Калі пытанне пра смяротнае пакаранне вынасіць на рэферэндум не варта, то якое ж пытанне можна вынесці, каб адмяніць смяротную кару ў Беларусі? Павел Сапелка прапанаваў запытацца, ці павінна Беларусь выконваць свае міжнародныя абавязкі? Сапраўды, міжнародныя нормы дапускаюць захаванне смяротнага пакарання. Нават Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах прадугледжвае, што смяротная кара можа часова існаваць да яе адмены. «Але не трэба забывацца пра тое, што ёсць і шэраг іншых міжнародных актаў, якія наўпрост забараняюць катаванні, жорсткае і прыніжаючае абыходжанне, гвалт у адносінах да асобы, і гэтак далей. Усе гэтыя прыкметы суправаджаюць вынясенне і выкананне смяротнага прысуду. Калі сыходзіць з беларускай практыкі, немагчыма нават пахаваць чалавека ў адпаведнасці з ягоным веравызнаннем, — а гэта ўжо катаванне яго родзічаў, парушэнне права на свабоду веравызнання», — адзначае Сапелка.

Яшчэ адзін шлях — вынесці на разгляд пытанне не пра адмену смяротнага пакарання, а пра ўвядзенне маратoрыю на яго. Гэта будзе прасцей: па-першае, маратoрый не ёсць канчатковай адменай пакарання, яго можна і зняць. Па-другое, для маратoрыя не трэба змяняць законы: у Канстытуцыі прапісана, што смяротная кара носіць часовы характар. Дастаткова аднаго росчырку на ўказе прэзідэнта, каб увесці маратoрый.

Да таго ж, вынікі рэферэндуму 1996 года былі ў значнай ступені абумоўленыя тым, што тады ў законе не было альтэрнатывы смяротнаму пакаранню. Альтэрнатыва з'явілася толькі ў 1998 годзе — пажыццёвае зняволенне. Менавіта ў сувязі з гэтым з 1999 года колькасць смяротных прысудаў зменшылася ў разы. Так што маратoрый, пэўна, быў бы альтэрнатывай смяротнай кары.

> Не кожны чалавек у Беларусі, калі ён будзе пастаўлены перад выбарам, захаваць ці адмяніць смяротнае пакаранне, будзе валодаць усёй інфармацыяй, якая дасць яму магчымасць прыняць слушнае рашэнне

## Пытанне будзе

Але менавіта з таго, што гэтае пытанне эмацыйнае, з таго, што, на думку спецыялістаў, яго нельга выносіць на абмеркаванне, гэтае пытанне, хутчэй за ўсё, і будзе ўключанае ў шэраг пытанняў «Народнага рэферэндуму». З палітычных мэтаў.

Генерал Валер Фралоў адзначыў, што «Народны рэферэндум» мае свае мэты і задачы, а не праваабарончыя. «Давайце будзем шчырымі: мы яго робім для таго, каб паказаць, што апазіцыя — не слабая і раздробненая, і каб паказаць, што апазіцыя не адарвалася ад народа, што яна абмяркоўвае пытанні, якія цікавяць народу. Пытанне адмены смяротнага пакарання, добра, што эмацыйнае — яно закране кожнага. І хай 85% выкажуцца за захаванне смяротнага пакарання — я ў гэтым не бачу нічога кепскага, бо я сам — прыхільнік смяротнага пакарання. У чалавеку яшчэ занадта шмат жывёльнага, і павінен быць нейкі стрымліваючы фактар, каб гэта жывёльнае не прарывалася навонку», — кажа Фралоў.

І Уладзімір Някляеў, ніяк не вызначыўшы сваё стаўленне да такога віду пакарання, адзначыў, што для яго, як палітыка, гэтае пытанне будзе проста выгадным. «Гэтае пытанне тычыцца як рэжыму, як улады, так і яе апанентаў, і абыякавых людзей. І гэтае пытанне, нароўні з тым, якое відавочна ўжо трэба паставіць: «Ці згодныя вы з тым, каб адзін чалавек займаў прэзідэнцкую пасаду не больш за дзве пяцігодкі», змушае ўсіх падключацца да абмеркавання. А нам трэба, каб людзі пайшлі гэта абмяркоўваць, каб яны засталіся не абыякавымі да пытанняў. Мажліва, яно будзе ў іншым выглядзе, але тое, што яно цікавае, і спрэчка паказала», — адзначыў ён.

Такім чынам, «Народны рэферэндум» з двума пытаннямі ўжо вызначыўся. Ці нашкодзіць пытанне аб смяротным пакаранні актыўным прыхільнікам яго адмены — гэта ўжо зусім іншае невыноснае на рэферэндум пытанне.

7

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 29 ліпеня, панядзелак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Фільм-катастрофа «34-ы хуткі» (СССР).
**11.45** «Жалезныя майстры». Дакументальны фільм.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**16.30** Усё як мае быць!
**17.00** Лірычная камедыя «Трын-трава» (СССР).
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Драматычны серыял «Маскоўскі панадворак» (Расія).
**23.25** Дзень спорту.
**23.40** Фільм-катастрофа «34-ы хуткі» (СССР).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зорныя матулі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Выходжу цябе шукаць 2». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.25** Прыгодніцкі фільм «Цела Джэніфер».
**02.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Глядзець усім!».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: ў пошуках смаку».
**13.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг». Дайджэст.
**15.45** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Пад абаронай».
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ашуканыя навукай».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Паства». ЗША, 2006г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.40** «Турысты». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Фільм-казка «Варвара-краса , доўгая каса» (СССР).
**12.25** Серыял «Талаш» («Беларусьфільм»). 1-я - 4-я серыі.
**16.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыйны серыял «Людзі Шпака» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Іранічны дэтэктыў «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан (СССР).
**22.55** Дакументальны серыял «Некранутая планета» (Чэхія-Вялікабрытанія). 1-я серыя.
**23.25** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Серыял «Земскі доктар. Працяг».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.10** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.00** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.40** Шматсер. фільм «Белая гвардыя».
**22.40** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** Закрыццё Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў «Новая хваля-2013». Трансляцыя з Юрмалы.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**21.20** Баявік «Марскія д'яблы».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** М/с «Смешарыкі».
**08.30** Т/с «Йохан ды Мар'я».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 03.10** М/ф «Загон».
**11.10** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**12.25** Т/с «Каманда».
**14.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**14.30** «Агульны інтарэс».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.10** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30, 00.40** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25** Д/ф «У свеце мінулага».
**23.10** Т/с «Мужчыны не плачуць».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**07.15** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**07.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавaўчая праграма).
**07.45** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**08.20** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 8 серыя.
**08.50** «Джазмен з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**09.50** Дакументальная гадзіна: «Нюрнбэрг», дак. фільм, 1996 г., ЗША–Вялікабрытанія.
**10.40** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Машына зменаў», тэлесерыял: 3 і 4 серыі.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Час гонару», серыял: 45 серыя.
**18.50** Еўропа сёння.
**19.20** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.05** Хто ёсць кім?: «Ганна Хітрык: «Думай пра добрае».
**20.20** Два на два (тэледыскусія).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавaўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Панна Ніхто», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**23.55** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**00.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**01.00** Аб'ектыў.
**01.25** Студыя «Белсат».

## 30 ліпеня, аўторак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.50** Драматычны серыял «Маскоўскі панадворак» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.55** Драматычны серыял «Маскоўскі панадворак» (Расія).
**23.40** Дзень спорту.
**23.50** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Беларашa».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Выходжу цябе шукаць 2». Шматсерыйны фільм.
**23.20** Трылер «На самым дне».
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Эліксір маладосці».
**09.55** «Чыстая праца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: ў пошуках смаку».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Прышэльцы 2: калідоры часу». Францыя, 1997г.
**16.00** «Рэпарцёрская гісторыі».
**16.50** «Пад абаронай».
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Чалавек-аркестр». Францыя, 1970г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Турысты». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Беларусь). Заключная серыя.
**10.20** Дак. серыял «Некранутая планета» (Чэхія-Вялікабрытанія). 1-я серыя.
**10.50** Фільм - дзецям. «Вялікая прыгода» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**12.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.20** Камедыйны серыял «Людзі Шпака».
**15.20** Іранічны дэтэктыў «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан» (СССР).
**16.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**18.25** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыйны серыял «Людзі Шпака».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Іранічны дэтэктыў «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан» (СССР).
**22.55** Дакументальны серыял «Некранутая планета» (Чэхія-Вялікабрытанія). 2-я серыя.
**23.25** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Асаблівая нагода».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.10** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.00** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.40** Шматсер/ фільм «Белая гвардыя».
**22.40** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Бітва за соль. Сусветная гісторыя».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.30** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**21.20** Баявік «Марскія д'яблы».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** М/с «Смешарыкі».
**08.30** Т/с «Йохан ды Мар'я».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 03.10** М/ф «Дарагі хлопчык».
**10.40** «Дачны свет».
**11.10** «Двое».
**12.25** Т/с «Каманда».
**14.00** Д/ф «У свеце мінулага».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.10** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30, 00.35** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**22.55** Т/с «Мужчыны не плачуць».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Два на два (тэледыскусія).
**08.25** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**09.10** «Дзеці і рыбы», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**10.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 9 серыя.
**17.25** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 17 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Аперацыя "Фокслі"«.
**18.55** Праект «Будучыня».
**19.20** «Чарнобыль для Еўропы», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**20.00** Хто ёсць кім?: «Кастусь Шыдлоўскі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**20.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавaўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** «Доктар Марцін», серыял: 30 серыя.
**23.05** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў: «Прыцягальнасць распусты», 1996 г.
**00.00** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**00.45** Аб'ектыў.
**01.10** Студыя «Белсат».

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №7 (83) (ліпень)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



ПОГЛЯД

## ПІСЬМЕННІКІ ВА ЎЛАСНЫМ СОКУ

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**Не за гарамі пяцьсот гадоў нашаму кнігадруку. Начальства нават прапанавала загадзя зрабіць Мінск сталіцай міжнароднага года кнігі ў 2017-м.**



Калі Скарыну была важная проста Біблія друкаванымі літарамі — усё о'кей. Калі не менш важным было рабіць беларускія кнігі, то тут толькі нагода пусціць пыл у вочы, разрэкламаваць дасягненні нашага швяца-жняца-дудара. Як у выпадку з тым хакейным чэмпіянатам пахваліцца лядовымі палацамі.

Не, кнігі на мове Купалы і Коласа ёсць, але іх месца ў жыцці краіны — маргінальнае, нікчэмнае. Улада пільна стаіць на варце: каб у іх было чым меней чытачоў. Беларускія школы змянілі хуценька шыльды, беларускай мове нашылі на світку жоўтую зорку. Патрулі строга сочаць, каб нават вочы мінакоў не абражалі шыльды з «няправільнымі літарамі».

Пісьменнікі таксама на ўзбоччы. Станоўчае бадай толькі тое, што вярнуліся з савецкіх алімпаў і парнасаў на зямлю. Бо «выйшаўшы з хат» некалі, адчулі сябе пад партыйным крылом вучыцелямі, вешчунамі і прарокамі. І толькі дзякуючы таму, што здолелі ўладкавацца пры партыйнай «цыццы». Вядома: пісалі толькі так і толькі тое, што надрукуюць, за што атрымаеш ганарар. Жаданне людскае, жыццёвае, але — па-залітаратурнае. Сёння рамкі дазволенага пашыраныя, але падабенства з ранейшымі часамі не знікла. Калі ёсць вернападданы атрад паэтаў і празаікаў, значыцца і аб'ект вернападданых пачуццяў ці памкненняў на месцы. Ён жа заказчык. Раней гэта была дзяржава ў асобе партыі, цяпер улада ў адзіным ліку, з канкрэтным анфасам на сцяне.

Што датычыцць пісьменнікаў астатніх, яны апынуліся за сваім сталом у становішчы ў пэўным сэнсе стэрыльным. Ніякіх амаль думак, што не датычаць уласна літаратуры. Не таму што не хочацца, проста марныя. Мы пішам, не разлічваючы ні на што. Ніякіх мэтаў, апроч менавіта творчых. Максімальная мара — што нехта цябе надрукуе, не патрабуючы з цябе грошай. Што зможаш патрымаць у руках уласную «бясплатную» для цябе кніжку. Больш разлічваць няма на што. Няма чытачоў. Мы пішам, каб выказаць сябе. Не ў разліку на ананімнага чытача.

Але чытач патрэбны кнізе. Узяць яго няма дзе. Улада падбала, каб яны не пладзіліся. Тых, хто піша па-беларуску, усё больш, і кніг — новых і цікавых. Але каму іх чытаць?

Аднойчы прыяжджаў у Горадню Артур Клінаў са сваім раманам. Ён зыходзіў увогуле са слушнай, але, на жаль, даволі ўтапічнай, пасылкі: патэнцыйна ў беларускай кнігі можа быць нават сто тысячаў чытачоў, толькі трэба самім пісьменнікам пастарацца, каб іхнія рукі пацягнуліся да нашых твораў. Пісьменнік піша, рэкрутаваць ахвотных пад бел-чырвона-белыя «моўныя сцягі» — не яго роля, ён толькі спрыяе.

Нядаўна змог вярнуцца Валер Булгакаў, часовыя ўцёкі закончыліся. Чытаў яго горкія прызнанні: за мяжой няма раю для беларускіх выдаўцоў. Чытачы на бацькаўшчыне, і гэтых чытачоў — тысяча, максімум паўтары... Вельмі цвярозая, выпакутаваная ацэнка Булгакава, не паспрачаешся. У Польшчы каля сарака мільёнаў жыхароў і ўсе чытаюць па-польску, хоць не ўсім патрэбныя кнігі. У Беларусі з тых, каму патрэбныя кнігі, чытачоў на беларускай сапраўды вобмаль. Сто тысячаў Клінава — усё роўна што гарады на Юпітэры Драздовіча. Прывабныя міражы.

Чытачы на бацькаўшчыне, і гэтых чытачоў — тысяча, максімум паўтары. Ах, тысяча чытачоў! З іх бадай палова тых, хто сам піша. Але ж ім самім, кнізе патрэбны чытач у чыстым выглядзе. Калісьці Анатоль Сідарэвіч выгукнуў на адрас Саюза пісьменнікаў БССР: ды яны не чытаюць нават сваіх «братоў па пяры»! Па форме можа й справядліва, але не па сутнасці. Гэта былі пісьменнікі ва ўласным, але разам — у агульным соку. Яны не бывалі за мяжой, не мелі ўражанняў, адрозных ад аднолькавых з суседам.

Мне не было ў іх чаму навучыцца. Мала што маглі даць такія творы, апроч некаторых. У выпадку, калі змушалі сябе менш думаць пра галоўнае божышча СП — цэнзуру. Кніжкі атрымліваліся цікавейшыя. Я любіў малатыражны часопіс рэцэнзій і анатацый замежнай літаратуры. Напрыклад, адзін партугальскі аўтар выпусціў зборнік «канцэнтратаў раманаў», у міні-апавяданні на старонку быў закладзены змест, які нібыта можна было разгарнуць у вялікі твор. На сацрэалістычнай кухні стравы заставаліся стандартнымі...

КПСС з дзяржзаказам «літаратурна-мастацкай прадукцыі» засталася пад вокладкай «Гісторыі СССР», цяперашняму «генсеку» атрад пісьменнікаў патрэбны хіба ў дастаткова дэкарацыйных мэтах. Рынку беларускай кнігі не існавала тады, не ўзнікла й цяпер: у 1995-м начальства рашуча закасала рукавы, сваю справу ведае, «не зра шчы хлябала»! Ёсць адно рынак пісьменнікаў. Кожны ва ўласным соку, не падобным да колішняга «агульнага». Але беларускі моўны соўс па-ранейшаму не ў модзе.

Нават БДУ не выпускае чытачоў беларускай кнігі. А калісьці, даўно, так было. Універсітэту — восемдзесят. З нагоды паставілі помнік студэнту, нечакана — з тварам Скарыны! Рыхтык «чужы сярод сваіх». Надрукаваў для беларускага чытача літаратуру яшчэ сціплым накладам, але з думкай пра будучыя тысячы прагных да кнігі. Паўтысячы гадоў мінула, а чытачоў больш не стала. Кнігу замяніў «яшчык», які любіць часам груба паўшчуваць і паздзеквацца таксама любіць з тых, хто галаву дурыць няправільнымі літарамі.

Пяцьсот гадоў мінула, а ім хоць кол на галаве чашы!

**svaboda.org**

### ПАЛІЦА

## ЧАС КНІГІ

**Выданні серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» і «Пункт адліку» даступныя чытачам у розных гарадах Беларусі.**

Цікаўцеся новымі выданнямі нацыянальнай літаратуры, творамі сучасных беларускіх аўтараў.

**У Берасці:**
кнігарня «Іскра», вул. Пушкінская, 4;
**у Магілёве:**
кнігарня «Думка», пр-т Міра, 10;
**у Віцебску:**
кнігарня «Веды», вул. Леніна, 54;
кнігарня «Светач», вул. Кірава, 10;
**у Гародні:**
выдавецтва «ЮрСаПрынт», вул. К. Маркса, 11 (уваход праз арку);
**у Бабруйску:**
кнігарня «Букініст», вул. Ульянаўская, 49;
**у Маладзечне:**
кнігарня «Спадчына», вул. Прытыцкага, 7;
**у Полацку:**
кнігарня «Полацк-Светач», вул. Камуністычная, 27;
**у Мінску:**
«Акадэмкніга», праспект Незалежнасці, 72;
«Кнігарня Ў», праспект Незалежнасці, 37А;
«Кніжны салон», вул. Калініна, 5;
«Кнігарня пісьменніка», вул. Казлова, 2;
«Веды», вул. К. Маркса, 36;
«Светач», пр-т Пераможцаў, 11;
«Цэнтральны кніжны», пр-т Незалежнасці, 19;
«Кнігі & кніжачкі», пр-т Незалежнасці, 14.

## ПАЛІЦА

### «КАЛЯРОВЫ РОВАР»




Дзіцячая кніга з малюнкамі «Снежны чалавек» Эвы Сусы ў перакладзе са шведскай Алесі Башарымавай пабачыла свет у выдавецтве «Юніпак». Гэта – першае выданне серыі «Каляровы ровар» «Кнігарні пісьменніка» – бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Простая і мілая гісторыя сяброўства двух братоў Уна і Макса са снежным чалавекам аздоблена мастаком Бэнджамэнам Шо. Кніга мае вялікі фармат і добрую паліграфію.

Каб знайсці ўдалую назву для серыі, яе заснавальнікі звярнуліся па дапамогу падпісчыкаў старонак СБП у сацыяльных сетках. Назву «Каляровы ровар» прапанавала перакладчыца Паліна Маслянкова. У падзяку яна атрымае адзін з асобнікаў новай кнігі.

Стваральнікі серыі «Каляровы ровар» спадзяюцца, што яе змогуць папоўніць творы ўдзельнікаў літаратурнага конкурса «Экслібрыс» імя Янкі Маўра, працы на які прымаюцца да 1 жніўня.

**Прэсавая служба СБП**

### «ЗАЛАТАЯ ЯБЛЫНЬКА»

У чытанцы для дзяцей «Залатая яблынька» сабраныя народныя казкі, легенды і паданні, а таксама творы беларускіх пісьменнікаў.




Фальклорныя пярліны пераказалі Якуб Колас, Алесь Якімовіч, Крыстына Лялько, Уладзімір Сіўчыкаў і Уладзімір Ягоўдзік, а сярод арыгінальных твораў – тэксты Яна Баршчэўскага, Янкі Купалы, Максіма Танка, Станіслава Шушкевіча, Пятра Васючэнкі, Клаўдзіі Каліны.

Адрасуецца кніжка дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, іх бацькам, бабулям і дзядулям, а таксама настаўнікам і выхавацелям.

Чытачоў найперш павінны зацікавіць такія легенды, як «Адкуль пайшлі беларусы», «Страцім-лебедзь», «Палешукі і палевікі», паданні «Возера Нарач», «Пра Нёман і Лошу», «Бярэсце», «Жодзіна», «Адкуль назва Івянец», «Браслаў», «Чорная дама», «Пане Каханку», «Бяздоннае багацце» і іншыя.

Укладальнікам тома выступіў пісьменнік Уладзімір Сіўчыкаў, а аздобіла яго сваімі малюнкамі мастачка Алена Карповіч.

**Алеся Сіўчыкава**

### «МАКУЛАТУРА-4 — ДЗЁННІКІ ПА АНГЛІІ»

У кнігарні «Логвінаў», дзе шмат гадоў таму, як вядома, прымалі шклатару, зусім нядаўна прымалі «макулатуру». Часопіс «Макулатура-4 — Дзённікі па Англіі» прэзентавалі стваральнікі і аўтары праекта.

«Чаму Англія?» — задаецца пытаннем у прадмове да часопіса рэдактар Сяргей Календа. «Таму што такую рэч беларусам проста грэх абмінаць. Тут вам і клубніцы, і Tower of London, і чырвоныя тэлефонныя будкі. Пякучае жаданне пабачыць горад, які стаў амаль родным, блізкім праз школьныя ўрокі (London is a capital of Great Britain…), дзе амаль усе мы добра ці неахайна вучылі ангельскую мову, вершыкі, песенькі».




«Над нумарам працавала дзесяць мастакоў, — расказала дызайнер Васіліса Паляніна-Календа. — Мне здаецца, што для беларусаў Англія — як глыток свабоды. Таму на вокладцы я намалявала дзяўчыну, якая п’е ваду, і ў гэтай вадзе адлюстроўваецца неба. А неба для нас — сімвал свабоды».

«Ангельскі» нумар выйшаў пры падтрымцы Брытанскай амбасады, і на імпрэзе прысутнічаў сам амбасадар Брус Бакнэл.

Адкрыў прэзентацыю Адам Глобус: у нумары надрукаваныя ягоныя творы «пра найлепшага таварыша Сцёпу». «Ведаеце, — зазначыў аўтар, — уся літаратура будуецца на кранальным момансе: памірае і ўваскрасае. Альбо не ўваскрасае. І ў «Парадным партрэце», які ўвайшоў у «Макулатуру», Сцёпа паўстае не ўваскрэслым і не памерлым».

У чацвёртай «Макулатуры» можна прачытаць эсэ «Герберт Уэлс, заслужаны настаўнік БССР» Альгерда Бахарэвіча і «Рок-н-рол» Іллі Сіна.

«Мой выступ звычайна мае тэхнічны характар, — звярнуўся да публікі Ілля Сін. — Трэба, каб у зале засталіся самыя адданыя аматары літаратуры. Таму зараз мы пакрычым, папішчым. Гэта будзе фрагмент тэксту…».

Віктар Марціновіч зачытаў урывак з беларускамоўнага апавядання «Дом». «Хай гэта будзе маім адказам на пытанне, на якой мове я буду пісаць пасля рамана «Сфагнум», — патлумачыў аўтар. — «Дом» — апавяданне пра немагчымасць чалавечага паразумення. Пра праблему сценаў, якія стаяць паміж блізкімі людзьмі. Часам гэтыя сцены зробленыя з кардону, а часам — з цэглы».

Да чацвёртага нумара «Макулатуры» таксама спрычыніліся Уладзімір Арлоў (аповеды пра падарожжы ў Лондан у тры розныя гады), Дар’я Вашкевіч (вучылася ў Варвіку, надрукавала ў «Макулатуры» свае занатоўкі), Уладзімір Казлоў (дзённік), Вольга Гапеева (эсэ) ды іншыя літаратары.

**Кася Кірпацік**

## САЮЗ





**На чарговым паседжанні Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» старшыня Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб зробленым і адзначыў, што асноўнай працай была падрыхтоўка да друку літаратурнага альманаха.**

Старшыня рэдакцыйнай камісіі Яраслаў Клімуць расказаў аб тым, як ідзе праца над альманахам і што патрэбна зрабіць у бліжэйшы час. Сваімі меркаваннямі падзяліліся сябры камісіі Міхась Булавацкі і Мікола Яцкоў.

Прысутным была прадстаўлена новая кніга паэзіі Тамары Аўсяннікавай «Стромкая галінка», прагучалі некаторыя вершы, змешчаныя там.

## ФЕСТЫВАЛЬ

# «ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ПАЭЗІІ» Ў МІНСКУ

**Пакуль адкрыццё «Славянскага базару» гучна яднала брацкія народы, у галерэі «Ў» паэты сціпла адстойвалі межы свайго ўласнага княства.**




Чарговы раз у Мінску прайшоў міжнародны фестываль Magnus Ducatus Poesis — «Вялікае Княства Паэзіі», на якім беларускія і літоўскія вершы гучалі ў выкананні аўтараў і перакладчыкаў.

Вандроўны фестываль, які з розным размахам праходзіць ажно з 2006 года і прадугледжвае чытанні на мовах дзяржаваў-спадкаемцаў ВКЛ, сёлета абмежаваўся сустрэчай толькі з літоўскімі паэтамі.

На пачатку імпрэзы госці прахаджваліся ў галерэйнай прасторы сярод чорна-белых фотаздымкаў беларускіх замкаў, сядзібаў ды храмаў, зробленых Альгімантасам Александравічусам.

Першым выступіў паэт, перакладчык і вядомы ў Літве фатограф Уладас Бразюнас. Як удакладніў вядоўца Андрэй Хадановіч, большасць перакладаў паэзіі з беларускай, якія з’яўляюцца ў Літве, зробленыя ім.

Паэтка Галіна Дубянецкая выступіла са сваімі купальскімі вершамі. Гук у залі ніяк не мог наладзіцца, таму выступы ператвараліся ў спалучэнне шуму — да словаў паэтаў дамешвалася рэха ў калонках, шчоўканне фотаапаратаў, звон келіхаў, шэпт гледачоў, дзіцячы смех і трывожная няўстойлівая дуда Тодара Кашкурэвіча. Часам словы зусім цяжка было разабраць, яны ператвараліся ў суцэльны звон, тады можна было ўспрымаць іх як медытатыўныя спевы.

Троху яснасці ўнёс голас Алеся Разанава. Ён прачытаў свае пераклады вядомага літоўскага паэта і перформера, аўтара песняў і дзясяткаў кніг, старшыні Саюза літоўскіх пісьменнікаў Антанаса А. Ёнінаса. Разанаў — адзін з нешматлікіх, хто перакладае літоўскую паэзію з арыгінала. Ён расказаў, што некалі на паўгода з’ехаў жыць у Літву і вывучаў там мову ды літаратуру. Сярод выступу Разанаў загаварыў па-літоўску, пасля чаго замежныя госці, якія сядзелі ў зале, ухвальна заўсміхаліся і закрычалі «Брава!».

Паэтка і перакладчыца са шведскай Алеся Башарымава прачытала некалькі сваіх вершаў, у тым ліку і верш пра Беларусь, якая «багнай — плясь, лясамі — хрусь». Яго тут жа па-літоўску падхапіў Уладас Бразюнас.

Амбасадар Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус таксама выявіўся паэтам. Ён звярнуўся да прысутных па-беларуску. Вершы амбасадара па-беларуску прачытала перакладчыца Юлія Цімафеева.

Як заўжды, па-дзіцячы імпульсіўна выступіла Вера Бурлак з творам пра шыбенікаў, які таксама прагучаў і ў перакладзе. Яна прачытала яшчэ некалькі твораў пра паветра, палёт і неба — і, здавалася, сама зараз узляціць некуды пад столь. Андрэй Адамовіч абмяняўся перакладамі з паэтам Марыёсам Бурокасам, які спецыялізуецца на перастварэнні Букоўскі. Скончыўся выступ Андрэя Адамовіча выкрыкамі «кашмар!» ад уражанай глядачкі.

Эўгеніус Алішанка, паэт і перакладчык, выдавец часопіса «Вільнюс», які прапагандуе літоўскую літаратуру ў свеце, прачытаў верш пра жанры літоўскай паэзіі, а таксама пра месца, дзе жывуць самыя прыгожыя жанчыны. Андрэй Хадановіч тут жа адстаяў права беларусак на гэтае званне, а пры канцы прачытаў свой сатырычны верш пра стэрэатыпнага беларускага мужчыну. «А ці пазнаеце вы ў гэтым апісанні літоўскіх мужчынаў?» — выпрашыў параўнаць менталітэты Хадановіч. «Не пазнаём», — сказаў літоўскі амбасадар, які адзіны з замежнікаў зразумеў пытанне па-беларуску.

**Аляксандра Дорская, budzma.org**

## ЖНІВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



07.08.1973 – Зміцер Юр’евіч Вішнёў
09.08.1938 – Ала (Альбіна) Іванаўна Сямёнава
15.08.1938 – Валерый Канстанцінавіч Небышынец
23.08.1973 – Аксана Вадзімаўна Спрынчан
25.08.1953 – Уладзімір Аляксеевіч Арлоў
28.08.1963 – Людміла Леанідаўна Барадзейка (Сташка Грыніч)
29.08.1923 – Уладзімір Міхайлавіч Казбярук
30.08.1973 – Наталля Васільеўна Дзянісава
30.08.1928 – Ірына Уладзіміраўна Клімашэўская

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ЮБІЛЕЙ

# ДЗЯКУЙ ЗА ПЕСНЮ

## ДА 100-ГОДДЗЯ ПІСЬМЕННІКА АЛЯКСАНДРА АВЕЧКІНА

**Роўна паўвека таму Уладзімір Андрэевіч Калеснік назваў берасцейскага рускамоўнага пісьменніка Аляксандра Авечкіна «чалавекам рамантычных прафесій». У 2014-м спаўняецца 20 гадоў, як пакінуў нас Калеснік, мінула амаль 30, як няма Авечкіна, а сёлета ў лёсавырашальны наш чорны дзень 22 чэрвеня яму было б 100.**



Аляксандр Авечкін з памежнікамі

На жаль, мае асабістыя стасункі склаліся так, што шмат каму з адораных Божай іскаркай старэйшых сваіх паплечнікаў не паспеў зірнуць сумленна ў вочы і шчыра падзякаваць за шчырае слугаванне слову, літаратуры. Адным з іх быў і Авечкін, найстарэйшы, найболей вядомы (і не толькі ў Беларусі) празаік.

Іх, сівавалосых і яшчэ густачубых «аксакалаў», што са зброяй у руках прайшлі праз вайну, было шмат у нашай гаманкой сям'і (Засім, Калеснік, Стэльмашук, Ласковіч, дзядзя Федзя Ляўчук, палкоўнік Затульскі, начальнік вайсковых майстэрняў на той час, архітэктар Сурскі, адданы сын Украіны Мыкола Тэлычко, масквіч родам Дзмітры Васільеў). І мы, падшыванцы вайны, гарнуліся да іх — франтавікоў, партызанаў, падпольшчыкаў, а яны да нас, прыпухлагубых студэнтаў і нават яшчэ вучняў гарадскіх і вясковых школак. Амаль усіх успомніў у сваёй распрамененай паэме «Літаратурны чацвер» адданы пяюн палескае старонкі Міхась Рудкоўскі. А вось Авечкіна ў ёй няма. Чаму? — думалася не аднойчы нам, сённяшнім, ужо на шмат сівейшым і лысейшым за аратых той вялікай вайны. Адказ, як і на шмат што, знайшоў у Калесніка.

Ваяваў сын вяліканоўгарадскай зямлі ў начной авіяцыі, якую фрыцы ахрысцілі «чортавымі млынамі». Вось што гаворыць пра баявога лётчыка з чатырохгадовым франтавым стажам Авечкіна, які вучыў сыноў нашае неабдымнае Радзімы біць немчуру ў нашым і ягоным небе і падрыхтаваў амаль 100 лётчыкаў, у тым ліку трох Герояў Савецкага Саюза, наш слынны крытык: «Далікатна перабірае добрыя прыгаршчы ордэнаў сваімі буйнымі пальцамі, спакойна, не ўзвышаючы голасу, гаворыць, але бровы прыкметна ссоўваюцца, і твар ягоны прымае велічны выраз».

Во дзе яно, во дзе сабака зарыты. Якім цудам нам, вясковай басоце, адчулася ў гэтым прыгожым і станам, і тварам чалавеку нейкая «барская» косточка, Бог яго ведае. А, далібог, мне падалося нешта ў ім ад Траякурава. Страшнавата было побач з ім. І, галоўнае, яму падабалася тая адлегласць між намі, якую ён не жадаў скараціць. Таму, пэўна, і чытанне ягонай, адшліфаванай таленавітай рукою дакументальнай прозы, як ён сам вызначыў, «для сярэдняга школьнага ўзросту», прыпала на сталыя мае ўжо гады.

Не першы раз лаўлю сябе на думцы, што літаратурнае пакаленне «бацькоў» нашых пісала, кожны ў моц свайго таленту ці вершам, ці прозаю, дзённік змагання ці з панам (Засім, Ляўчук, Ласковіч), ці з фашыстам (усе астатнія з вышэй пералічаных).

Першую аповесць Аляксандра Аляксеевіча «Саломка» Калеснік вызначыў як займальную, вострасюжэтную, насычаную прыгодамі, хочацца дабавіць — надзвычай шчырую, праўда, адзначыўшы ў ёй «некаторую псіхалагічную прастату».

Перабраўся Авечкін да нас у Брэст у 1951 годзе і пісаў, акрамя журналістыкі, толькі тое, што дасканала ведаў. А ведаў ён да драбніцаў лётную і баявую справу, ведаў маладое пакаленне краіны, узгадаванае на рэвалюцыйнай героіцы, на сумленні і сапраўдным сяброўстве, любові да роднай зямлі. Героі ягоных аповедаў — прыгожыя душою, адданыя да апошняй кропелькі крыві народу і радзіме юнакі, падлеткі, што цаною ўласнага жыцця ратуюць жыцці тых, хто трапляе ў пасткі катаў.

І Васька Асокін з абразка «Выпадак на возеры», і Рыгорка Шчаглоў з «Асобага задання» , і Клім Петушкоў з «Наперад, Буран!..», і Настачка, і Юрка з аднаіменных навэлаў, і асабліва наш палешучок Васілёк Саўчук з «Салдаты ішлі на Берлін» разам з братамі Барыскам і Пашкам Рамашкінымі з «Хлапечыя песні», і шмат іншых юных герояў з кніжак «Подзвіг сігналіста» і «Асобае заданне» клічуць сённяшнюю моладзь на «славные и добрые дела».

Браты Рамашкіны, рызыкуючы жыццём, пад носам вартавых цешаць, падтрымліваюць асуджанага на смерць фашыстамі палоннага савецкага лётчыка баявымі песнямі бурапенных часоў, і ён адказвае ім надпісам галавешкаю на сцяне беларускае сялянскае лазенкі: «Дзякую, хлопчыкі, за песні. Жывіце ў спакоі і сяброўстве. Няхай жыве Радзіма!..»

І я вам шчыра дзякую, Аляксандр Аляксеевіч, за вашу іскрыстую, самаадданую песню, як ніколі, напэўна, патрэбную нашчадкам сёння. Светлая памяць вам назаўжды. Няхай жывуць і ваша Расія, і мая Беларусь!

**Аляксей ФІЛАТАЎ**

# ЛЯЛЬКА

*Аляксандр АВЕЧКІН*

Красавік сорак пятага. Месяц лотаці і пралесак. Ранне волкае, вільготнае. Сонца ледзь цярэбіцца з клочча густога чырвонага туману, змешанага з парахавым дымам. Цішыня. Упартыя прамяні ўсё часцей прасякаюць цяжкае мроіва. Па толькі што праклюнутай зялёнай травіцы ўспыхваюць яркія плямы. Туман з дымам сплываюць за ветрыкам — заўважаюцца хмызы і дрэвы.

Батальён гвардыі лейтэнанта Кашына замацаваўся паперад гарадком Дольгелін. Да Берліна кіламетраў з паўсотню. Наспела патрэба папоўніцца патронамі, снарадамі, мінамі. Не спазнілася кухня. Падыходзяць машыны з боепрыпасамі. Байцы снедаюць, увесь час пазіраючы на дамы па супрацьлеглы бок дарогі, дзе хаваўся вораг.

Туман нарэшце стаяў. У блакіце весняга неба плывуць асляпляльна белыя аблокі.

Лейтэнант метр за метрам узіраецца праз бінокль у варожую пазіцыю. Ягонае спрактыкаванае вока заўважае дбайна замаскаваныя агнявыя кропкі немцаў. Але што там на дарозе? Ля раструшчанай варожай гарматы, сярод друзу гарматных гільзаў ляжыць на ўзарваным асфальце прыгожа апранутая лялька, раскінутыя ручкі, адарваная нага, бухматы ружовы бант у ільняных валасах. Кашын паклікаў нампаліта:

— Зірні, камісар, — перадаў яму бінокль.

— Вас іс дас? — здзівіўся нампаліт. — Лялька?! — усміхнуўся патрэсканымі вуснамі.

Кашын хітнуў галавою. Ягоны худы, парослы рыжай шчэццю твар пасвятлеў, падабрэў.

— Доню ўспомніў? — камісар паклаў руку на счарнелы пагон камбата.

— Так. Успомніў... — цяжка выдыхнуў лейтэнант.

У гэты момант падбег да камандзіраў невялічкі салдат з двума кацялкамі гарачай, апетытна паруючай кашы і звонка гукнуў:

— Сняданак прынёс!

— Дзякуй, Алёша, — камандзір не адарваўся ад бінокля.

...У той дзень, калі войскі Першага Беларускага фронта вызвалілі Брэст і з баямі рынулі за пагранічны Буг, Алёшка Саўчук, хлопчык з надбужскае вёсачкі Прылукі, прымастаколіўся да батальёна, якім камандаваў тады капітан Рубцоў. Батальённы старшына выявіў незапланаванае папаўненне і дамагаўся адправіць дабраахвотніка назад у вёску, ды салдаты адваявалі рызыканта-палешучка. Нейк адразу пацяплелі салдацкія душы ад хлапечых шэрых з весялінкаю вачэй, кірпатае бульбінкі-носа на шчыра-наіўным тварыку, густога, непаслухмянага чуба, якога ўпарта не слухалася лоўка ўшытая салдацкая пілотка.

Замацавалі Ляксейку на батальённай кухні памагатым кухара.

На пераправе праз Одэр загінуў капітан. Ягоны пераемнік Кашын меркаваў узяць рахманага падшыванца сабе ў ардынарцы, але передумаў: на кухні спакайней крыху...




...Зазумерыў палявы тэлефон. Капітан схапіў слухаўку. Спахмурнеў тварам, слухаючы загад атакаваць Дольгелін.

— Падрыхтавацца! — сцішана прагучала каманда і пакацілася рэхам па шчылінах, акопах, кулямётных гнёздах, па ўстрывожаных сэрцах салдацкіх.

Перш чым загадаць артылерыстам і мінамётчыкам адкрыць агонь, камбат яшчэ паглядзеў у бінокль і адразу заўважыў, як з пад'езда трохпавярховіка выскачыла дзяўчынка, гадкоў пяці. Хуценька падбегла да разбітай гарматы, узняла ляльку, умасцілася на станіну і пачала дбайненька прыхарошваць сваю цацку.

Камандзірскае сэрца памлела.

— Чор-рт ведае што такое! — скрозь зубы прабурчэў камбат, замарудзіўся.

— Што здарылася? — устрывожыўся нампаліт.

— Дзяўчо на дарозе. Адкуль толькі ліха на нашу галованьку?..

Зноў адгукнуўся тэлефон. Строгі, раздражнёны голас прагудзеў злосна:

— Чаго марудзіш? Не бачу дзеяння! Наступаць!!!

Камбат, заікаючыся, растлумачыў. Пасля паўзы адказалі: «Сам прымай рашэнне, але сарвеш атаку — я цябе асабіста сам...»

Алёшка сваім кемлівым розумам нейк усенька ўсёк. Ягоныя вострыя вачаняты бачылі тую нямецкую дзяўчынку з лялькаю. Ён разумеў: марудзіць нельга, але нейк само вырвалася з грудзей:

— Таварыш камбат, дазвольце, напрамілы Бог!

— Што?! Кантузіла цябе недзе ля катлоў? — але ад бінокля не адрываўся.

— Ды я кіндэр тую, кляйнэ фраў у адно імгненне сюды прывалачу!

Калі Кашын апусціў бінокль, Алёша ўжо імчаў праз калдобіны, вужом поўз ад варонкі да варонкі, пішчом церабіўся да мэдхэн. Толькі цяпер даўмеў камбат, якога дазволу дамагаўся юны чырвонаармеец — заходнік-беларус.

Фрыцы, напэўна, таксама назіралі за дарогаю, ды пакуль маўчалі. Кашын скарыстаў момант, загадаў тэрмінова адкрыць агонь дымавымі снарадамі. Праз секунду чорныя стаўбуры затулілі Алёшку. Немцы ачомаліся, усчынілі гвалтоўную страляніну. Але снайперы не бачылі Алёшу. А ён ужо дапяў мэты, ды не заўважыў дзяўчынкі. «Дзе ты, «атароччэ» германскае? — замітусіўся з боку ў бок. Навокал зумкалі кулі, рэзка рэкашэцілі на жалезе. Дым паліў вочы... — А вось ты дзе! — седзячы на кукішках за гарматным колам, дзяўчынка туліла да грудак лялечку. Алёшка ўхапіў іх на рукі, куляю кінуўся да сваіх. Але малая ўпусціла з рук ляльку, у адчаі залямантавала:

— Пу-пе!.. Пу-пе!.. — рвалася з рук.

— Ціха, ціха, дурненькая. На якога д'ябла трэба табе тая лялька? Дык забіць жа могуць нас абодвух. Э-эх, дурненькая!

Калі Алёша дамкнуў да пазіцыі, батальён пад прыкрыццём магутнага артылерыйска-мінамётнага агню ўзвіўся ў атаку. Вораг драпаў са ўсенькіх ног.

На вуліцы нямецкага мястэчка, пад ласкавым веснім сонейкам на станіне скалечанай крупаўскай гарматы зноў сядзела нямецкая дзяўчыначка і цішэнька люляла сваё «дзіцятка»...

Да канца вайны заставаліся лічаныя дні.. Савецкія салдаты ішлі на Берлін.

**Пераклад з расійскай**
**Аляксея Філатава**

НАЧНЫЯ НАТАТКІ

# НЯВЫЗНАНЫЯ ШЛЯХІ...

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

## Таксідэрміст

З дзівосным чалавекам, з земляком з ліку тых, кім варта ганарыцца, пазнаёміла мяне Галіна Іванаўна Аніскевіч, аўтарка кнігі «Жодино: история и современность». Гісторык паводле адукацыі, былая школьная настаўніца, кіруе яна цяпер групай па стварэнні жодзінскага (грувастка, але так пазначана чыноўнікамі ў працоўнай кніжцы!) краязнаўчага музея. Пасля таго, як паказала мне сваю гаспадарку — будынак былога гарадскога савета, дзе мяркуецца размясціць экспазіцыю, а таксама ўжо назапашаныя экспанаты, яна запыталася: «А да Пузанкевіча не жадаеце з'ездзіць?»

Дзіва што! Пазнаёміцца са спадаром Генадзем хацеў даўно — катэдж майго стрыечнага брата Ігара з паўгода ўпрыгожвае твор гэтага майстра. Таму неўзабаве шлях наш ляжаў у вёску Судабоўка, якая ўключана цяпер у гарадскія межы. Колісь хлапчукамі няраз ездзілі паўз яе на роварах, калі выбіраліся па карасёў на возера Судабле. Можа, нават закідвалі вуды поруч з Генам, а цяпер Генадзем Канстанцінавічам, бо мы з ім амаль што аднагодкі...

Праехалі лабірынтам вуліц і завулкаў дый патрапілі да адметнай сядзібы, што ледзь не на самым беразе Плісы. Ужо па аздобе франтона з салярным знакам было відаць, што жыве і працуе тут чалавек творчы, неабыякавы да прыгажосці. На дзвярах, прымацаваны на вяровачцы, вісеў як абярэг, просты аловак.

«Надзвычай карысная рэч, — павітаўшыся, патлумачыў русабароды гаспадар. — Асабліва выручаў, калі яшчэ не было тэлефона. Той, хто не заспяваў мяне дома, мог напісаць запіску, а калі меў яшчэ што пакінуць, дык ведаў, што камора ў мяне заўсёды адчыненая».

А найчасцей спадару Генадзю прыносяць свае трафеі паляўнічыя. Нярэдка загінулых птушак, галоўная небяспека якім — высакавольтныя электралініі, што цягнуцца ад цеплаэлектрацэнтралі, прыносяць і падлеткі.

Справа ў тым, што акрамя прафесій лесніка, пчаляра, цесляра, садоўніка, фотамастака авалодаў гаспадар сядзібы і вельмі рэдкаю — майстра таксідэрмічных скульптур. А калі расшыфраваць, патлумачыць мудрагелістае слова «таксідэрміст» (ад грэч. taksis = будаўніцтва + дэрма), дык вырабляе ён пудзілы птушак і жывёлаў. Прычым настолькі па-майстэрску, што проста дзівуешся! Дый не проста пудзілы, а нярэдка з «разынкаю», са знаходкаю ў кампазіцыі, з мяккім гумарам. На пакручастай сасновай галіне суседнічаюць самая вялікая і самая малая совы, якія вядуцца на Беларусі, — барадатая кугакаўка і вераб'іны сычык. Ліса ўпалявала і моцна трымае ў пашчы курапатку, а тры зайцы застылі ў вобразе паляўнічых — са стрэльбамі, патранташамі, у заліхвацкіх капелюшах!




Помнік Хансу Крысціяну Андэрсэну ў Цэнтрал-парку ў Нью-Ёрку

Цяжка даць веры, але ў гэтым своеасаблівым музеі дзвесце шэсцьдзясят (!) экспанатаў! Сто шэсцьдзясят прадстаўляюць айчынную фаўну, але нямала й «гасцей»: птушкі, экзатычныя рыбы і нават алігатар.

Паказаў спадар Генадзь і святая святых — майстэрню, у якой шчыруе разам з жонкай Тацянаю. Адны пудзілы робіцца тут з нагоды, другія — для душы, але нямала і па замовах музеяў, лясніцтваў, запаведнікаў, паляўнічых гаспадарак і навуковых установ. Сярод прыватных замоўцаў — найчасцей паляўнічыя і рыбаловы, прычым не толькі з Беларусі або суседніх краін. Бывала, што адпраўляліся Генадзевы творы (язык не паварочваецца казаць — вырабы!) у Італію, у Нямеччыну, на Кіпр.

Уразілі таксама энцыклапедычныя веды гаспадара ў галіне арніталогіі. Ураджанне, што пра птушак, прынамсі, пра беларускіх, якіх з нядаўнім з'яўленнем стэпавага арла, налічваецца трыста адзінаццаць відаў, ведае ён усё. І не толькі ведае — ахвотна і захоплена ведамі тымі дзеліцца. Праводзіць па сваёй сядзібе экскурсіі ад школ і прадпрыемстваў, кансультуе кнігавыдаўцоў і нават збірае навуковыя дадзеныя акадэмічнаму Інстытуту заалогіі! Прычым робіць усё гэта бескарысліва.

Можна было б спытацца, адкуль тыя веды ў выпускніка ўсяго толькі Барысаўскай лясной вучэльні — СПТВ-42? Адказ вельмі просты: апантанасць, цікаўнасць і штодзённая самаадукацыя. А калі дадаць сюды фенаменальную працавітасць і працаздольнасць, дык становіцца зразумелым, чаму сёння на падворку і пры садзе суседзяцца, да прыкладу, вальеры з фазанамі залацістым, срэбным і зялёным румынскім, а ледзь не поруч са свойскімі жывёламі някепска пачуваецца і... нільскі кракадзіл! Здавалася б, невялікае дзіва — сажалка з карпамі, карасямі, лінамі ды шчупакамі. Але ж трэба было выбіць пад яе дазвол гарадскіх уладаў, а калі сажалку тую Пузанкевічы выкапалі, дык і ўдзячныя суседзі паразбівалі свае грады на месцы былой балаціны.

А колькі дзівосаў у аранжарэі: семдзесят пяць відаў раслінаў! Уражвае і сад, дзе можна пабачыць пасадкі кедрача, дзялку з радыёлай ружовай (падобную маю сам на Лысай Гары!), грушы, прышчэпленыя на рабіне, яблыню, што прыносіць плады трынаццаці гатункаў! А ў двары — кветнікі, пярголь з некалькімі вінаградными лозамі, альпійскія горкі, а неўзабаве, упэўнены, можна будзе ўбачыць фантанчыкі і водаспадзікі, бо старэйшая дачка Алена ўжо год як адвучылася ў тэхналагічным універсітэце па спецыяльнасці «Ландшафтны дызайн». Старэйшы сын Віктар пайшоў бацькавай сцяжынай, скончыў Барысаўскі прафесійны экалагічны ліцэй. Нават здалёк было чуваць ягоную сякеру — намерыўся будавацца поруч. Відочна, Пузанкевічавы абсягі пашыраюцца.

Малодшыя, прыёмныя дзеці, школьнікі Вольга з Сашам мудрагелілі на кухні, а потым частавалі сваім печывам і шарлоткай з адмысловай гарбатаю.

А яшчэ за пачастунак былі... фотаальбомы. Прытым не аматарскія падборкі, а цэлыя фаліянты-справаздачы пра падарожжы па Беларусі, па Архангельскім краі і Карэліі, па Паволжы і Сібіры, па Прымор'і і Далёкім Усходзе. А яшчэ па выключна багатай раслінным светам выспе Шры Ланка. Па далёкай Кеніі, знакамітай сваімі запаведнікамі з мноствам найцікавейшых прадстаўнікоў фаўны, якія абсалютна індэферэнтна ставяцца да турыстаў і падарожнікаў. А непалахлівыя яны таму, што ў той экватарыяльнай афрыканскай краіне паляваць забаронена. Хаця не, ёсць два выключэнні. Турысты могуць паляваць з фота- і відэакамерамі, а плямёны тубыльцаў кшталту знакамітых масаяў, што жывуць па-за сучаснай цывілізацыяй, — з коп'ямі і стрэламі.

Каментары да некаторых здымкаў, бывала,ператвараліся ў мініяэвэлы. Напрыклад, дзеля таго, каб некалькі разоў шчоўкнуў затвор старога незаменнага «Зеніта», спадару Генадзю даводзілася часам маскавацца і нерухома праседжваць на дрэве не адну гадзіну.

Дарэчы, на час трэба было зважаць і нам, тым болей, што залева, падчас якой мы раскашавалі ў хаце, скончылася.

Выбіраліся ад ветлівых і гасцінных гаспадароў, і мімаволі прыгадваў я вёску Мосар на Глыбоччыне, дзе за некалькі гадоў тамтэйшы пробашч Язэп Булька з дапамогаю вернікаў ператварыў у рукатворны Эдэм не толькі прыкасцёльную тэрыторыю, але і ўсё наваколле...

Хацелася яшчэ раз вярнуцца ў Судабоўку ў дружную сям'ю і на дзівосную сядзібу Пузанкевічаў. Вярнуцца, каб яшчэ раз убачыць надзіва прыязныя, з вясёлымі праменьчыкамі зморшчынак, вочы, каб яшчэ раз адчуць моцны поціск рукі жодзінскага цудадзея...

**21 кастрычніка 2007 г.**

## Бог не роўна дзеліць

Пасля дванаццатай гадзіны пайшоў доўгачаканы дождж, а следам прыляцела нечакана-трагічная тэлефонная вестка, што ў Цвяры на сваім 71 годзе памёр ад інсульту дзядзька Коля, матулін брат. Нарадзіўся ён на Каляды злавеснага 1937-га.

Год найбольшага размаху сталінскага тэрору закрануў і ягонага бацьку, а майго дзеда Кузьму, на той час вясковага пісара — за неасцярожнае крытычнае слова на адрас старшыні калгаса той патрапіў на пензенскі лесапавал. Але пашанцавала — адпусцілі парадавацца сыну, якому і запісаў шчаслівы бацька за дату нараджэння 9 студзеня 1938 года, каб, як тады казалі, падчас прызыву ў войска не ішоў год наперад.

Дзядзька Коля быў самы малодшы ў сваёй сям'і, але па горкай іроніі лёсу адышоў у іншы свет раней за ўсіх трох сясцёр, якія трываюць, нягледзячы на даўні паралюш найстарэйшай Вольгі дый усе іншыя хворасці.

Цяжка мэнчыўся я, покуль не ўсвядоміў адной з прычынаў, чаму так і не змаглося паехаць на хаўтуры: не хацеў убачыць васковую мумію, а хацеў запомніць яго жывым. Хай сабе й не маладым, а хаця б такім, якім бачыў апошняга разу, пазалетась.

**24 жніўня 2008 г.**

## «Нам не дано предугадать, Как наше слово отзовется...»

Найвялікшага дацкага літаратара Ханса Крысціяна Андэрсэна (Christian Andersen, 1805–1875) спецыялісты-філолагі ведаюць і як паэта, і як празаіка, і як драматурга. Але чытачы ва ўсім свеце, як дарослыя, так і дзеці, ведаюць і цэняць яго найперш як казачніка. Хто не чытаў або не слухаў такія ягоныя шэдэўры, як «Брыдкае качаня», «Дзікія лебедзі», «Дзяўчынка, якая наступіла на хлеб», «Дзюймовачка», «Новая каралёва світка», «Прынцэса на гароху», «Русалачка» ці «Снежная каралева»?! Гучаць яны і сёння, да прыкладу, у нью-ёркскім Цэнтрал-парку каля помніка пісьменніку.

Але сам Андэрсэн недалюбліваў і недаацэньваў казкі, якія прынеслі яму заслужаную славу, марна стараўся праславіцца як раманіст і аўтар п'ес. Больш за тое, менавіта дзякуючы сваім казкам пісьменнік стаўся ці не самым знаным у свеце датчанінам. Поруч з Андэрсэнам можа стаць хіба што паўлегендарны, услаўлены якраз драматычным талентам Уільяма Шэкспіра Гамлет, прынц дацкі.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

Ірландзец паводле нацыянальнасці, шатландзец паводле месца нараджэння, брытанец паводле выхавання — англійскі празаік, драматург, паэт і публіцыст Артур Конан Дойл (1859–1930) выдаў тры кнігі паэзіі, некалькі гістарычных і прыгодніцкіх раманаў, тамы аўтабіяграфічных нарысаў, філасофскія творы, напісаў паўдзясятка п'ес, ахвотна працаваў у новым на той час жанры навуковай фантастыкі («Прыхаваны свет» пра таямнічае плато з дапатопнымі яшчарамі пасярод Амазонскай сэльвы, «Маракотава бездань» пра Атлантыду, якая апусцілася на акіянічнае дно). Ён здолеў стварыць запамінальныя вобразы пірата Шаркі, няўрымслівага прафесара Чэленджара, брыгадзіра напалеонаўскага войска Жэрара. Але ніводзін з ягоных герояў не быў настолькі папулярны, як прыватны дэтэктыў Шэрлак Холмс — ад «Эцюда ў барвовых танах» (1888) да «Архіва Шэрлака Холмса» (1927). Дзякуючы сваім творам Артур Конан Дойл стаўся не толькі знаным ва ўсім свеце літаратарам, якому наследавалі многія дэтэктыўшчыкі, але і выперадзіў некаторыя прыёмы і методыкі ў крыміналістыцы. Да свайго героя аўтар ставіўся досыць скептычна і нават «забіў» яго ў двубоі з каралём злачыннага свету прафесарам Марыярці. Аднак праз дзесяць гадоў Дойл вымушаны быў «уваскрасіць» Шэрлака Холмса, які неверагодна палюбіўся чытачам.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

Беларускі пісьменнік Алесь Якімовіч (1904–1979) пісаў пераважна для дзяцей. Ён выдаў некалькі кніжак вершаў і апавяданняў, літаратурныя казкі ў вершах і ў прозе «Каваль Вярнідуб», чытэльныя аповесці «Канец сервітуту» і «Кастусь Каліноўскі», быў аўтарам падручнікаў і складальнікам чытанак, выступаў і як перакладчык. Але наўрад ці мог ён увесці, што самымі запатрабаванымі з ягонай творчай спадчыны, надрукаванымі мільённымі накладамі, акажуцца... апрацоўкі беларускіх народных казак.

«Каток — залаты лабок» (1955), «Бацькаў дар» (1957), «З рога ўсяго многа» (1959), «Андрэй за ўсіх мудрэй» (1983) — ад сярэдзіны пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя і да сённяшніх дзён зборнікі казак менавіта ў ягоных перавыданнях выходзяць з зайздроснай рэгулярнасцю.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

**19 чэрвеня 2013 года**

АПОВЕД

# ЦЫРУЛЬНІК

## КАЗКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ І ДЗЯЦЕЙ

Валеры ГАПЕЕЎ



Вы ці сустракалі ў якім правінцыйным гарадку мужчыну-цырульніка? І я даўно нідзе не бачу такога. Дзіўна, праўда: некалі толькі мужчыны і былі цырульнікамі…

У нас гарадок невялікі, тысяч пяць жыхароў. Ёсць цырульня. Тады там дзве жанчыны працавалі: адна кабеціна мажная, цыцкі з мужчынскую галаву, мужчын стрыгла, а яе напарніца, хударлявая, нярвовая, як карова першы раз пасля зімы на пашы, — жанчын. Ну, маладзейшыя нашы жыхары за моднымі прычоскамі ездзілі ў суседні горад.

Гарадок наш — як усе, звычайна-змрочны, і людзі звычайныя: стомленыя, прыгнечаныя…

Адной вясной, толькі пачало з-пад бруднага снегу паказвацца ўсё пахаванае ім за зіму смецце, прыйшоў у цырульню мужчына сярэдняга веку. І кажа: я цырульнік, вазьміце мяне на працу. Тут і двайм працы асаблівa няма, але нешта ў цырульніц настрою гэтак не было, што яны рашылі: а няхай і ён сябе адчуе такім вось няшчасным, як яны самі, хай пачакае днямі сваіх кліентаў… Мо і людзі стануць прыходзіць, дзівіцца на такі цуд: мужчына-цырульнік.

І праўда, мужчына-цырульнік доўга чакаў свайго першага кліента. Ім сталася адна наша вядомая хворая на галаву жанчына. Ну, не тое, каб зусім хворая, на каханне хворая. Як вясна — так яна закохваецца. У наступнага жанатага. І праследуе днямі і начамі. Ёй жанкі і твар дралі, і валасы выдзіралі, і на галаву масла аўтамабільнае лілі. З яе мужыкі, у якіх яна закохвалася, смяяліся, каторыя смялейшыя. Іншыя пабойваліся, уцякалі. Каму трэба такая любоў?

Дык вось, прыйшла гэтая жанчына ў цырульню. А тут вясна, трое кліентаў: двaіх стрыгуць жанчыны, мужчына адзін чакае. А цырульнік толькі вінавата ўсміхаецца — сядзіць без працы.

Наша закаханая жанчына раптам да яго.

— Вы таксама стрыжаце?

— Канешне.

— Пастрыжыце мяне! Я зараз пайду труціцца.

Ну, гэта таксама не навіна: кожную вясну нашу небараку ратавалі дактары.

— Гэта вельмі правільна, — кажа весела цырульнік. Падхапіўся з месца, пасадзіў жанчыну, новенькай яе накрыў. — Вельмі правільна паміраць прыгожай — на тым свеце такая прыгажосць, як Вашая, вельмі дорага каштуе!

Тут у цырульні натапарылі вушы — што гэта такое сказаў цырульнік?

— Якая такая прыгажосць? — аж зніякавела закаханая жанчына.

— Звычайная! — усклікнуў майстар. — Зараз мы яе толькі самую крышачку прыадкрыем… Вось гэтую пасмачку валасоў падрэжам і сюды павернем, вось тут крышачку падбярэм… Ай, якое вушка — такое мілае! Трэба нам і яго прыадкрыць… Вось, і Вашая завушніца проста зайграла, ай якія ў Вас вушкі…

А сам вакол жанчыны з нажніцамі: шысць-шысць, цак-цак.

Ціха ў цырульні стала. Жанчыны-майстры сваіх стрыгуць і паглядваюць, паглядваюць… А глядзець ёсць на што: жанчына ўвачавідкі мяняецца! У вачах замест хваравітага агеньчыка тугі імклівa разгараецца загадкавае святло жаноцкай таямнічасці, разгладжваюцца тонкія маршчынкі адзіноты і суму, прыкрасці і незадаволенасці ля вачэй, ля вуснаў…

Закончыў цырульнік, адкінуў накрыўку, а жанчына глядзіць на сябе ў люстэрка і кажа:

— Гэта ж і па-праўдзе шчасце, калі я магу кахаць, так жа?

— Канешне! — кажа майстар. — У Вас вялікае сэрца. І яго абавязкова нехта пачуе!

Вось так у нашым горадзе з'явілася першая шчаслівая жанчына. Першая жанчына, якая ішла вясновым днём — і ўсміхалася сонцу і сустрэчным людзям.

А назаўтра цырульнік прывёў аднекуль з вуліцы бамжа і пасадзіў яго ў крэсла. Гэтага бамжа ведалі ўсе ў горадзе, бо ён прасіў грошы на выпіць ва ўсіх і па некалькі разоў. Бомж быў брудны і ад яго тхнула непрыемна, але майстрыхі змаўчалі, бо ўсё адно ў цырульні нікога больш не было.

Калі майстар закончыў і раскрыў бамжа, усе раптам пабачылі, што яго галава і твар чужыя для яго тулава. І бомж тое зразумеў. Ён глядзеў на сябе ў люстэрка і бязгучна плакаў. А потым пайшоў, не падзякаваўшы. Праз гадзіну за расчыненым акном (выветрывалі бамжacкі дух) жанчыны пабачылі, як ён самаробнай мятлой з бярозавых галінак вымятае чыста-чыста ўсё вакол цырульні. Бліжэй к вечару ён прынёс аднекуль вядро з белай разведзенай вапнай і стаў мазаць самаробным квачом шэрыя сцены цырульні. Назаўтра ён быў ужо ў прафесійнай форме работніка камунальнай службы, чыста паголены, цвярозы, як шкліна — і мёў усю вялізную прывакзальную плошчу, збоку якой месціцца цырульня.

Трэцім кліентам нашага цырульніка стаў муж той самай грудастай майстрыхі (жанчыны першыя аб усім здагадваюцца). Гэта быў ціхі, забіты мужычок. Некалі ён працаваў на заводзе інжынерам, пакуль той не закрылі. Казалі, што ён быў вельмі разумны, але ж гэткі баязлівы, нерашучы.

Цырульнік падстрыг мужа майстрыхі. Ён доўга сядзеў у крэсле пасля таго, як майстар сказаў: «Усё!», узіраўся ў сябе так, быццам разглядаў не свой твар, а свае мазгі. Падзякаваў, расплаціўся і пайшоў. Назаўтра ён узяў крэдыт у банку, выкупіў пусты цэх завода. Потым прыехалі грузавікі і прывезлі станкі. Загула там праца…

І скемілі хутка ў горадзе, што за майстар-цырульнік у нас з'явіўся. Жанкі вялі да майстра сваіх мужоў-п'янтосаў, мужы — сваіх раўнівых жонак, бацькі — неслухмяных дзяцей.

Шысць-шысць, цак-цак, — чулася музыка нажніцаў з адчыненага акна цырульні, і развіталіся з чарговай галавой няўпэўненасць і лянота, падалі долу злосць і зайздрасць, усцілалі падлогу абрэзаныя абыякавасць і раўнадушша, церушыліся чорным ды русым сняжком дзіцячыя непаслухмянасць, задзірыстасць, грубасць, агрэсіўнасць.

Чарга да майстра дзень і ноч стаяла. То тады па іншаму яго праца пайшла: ён толькі пачне і кажа:

— А вось зараз Настачка закончыць, лепш чым я, зробіць… А вось цяпер лепш Вам да Галечкі, у яе зграбней атрымаецца для Вашай галоўкі…

Аднойчы сабраў усе абстрыжаныя валасы цырульнік і стаў паліць іх прама ў двары цырульні. Гэткі смурод накрыў горад… І ўспомнілі мы ўсе, якія бываюць смуроды… І памяць наша вярнулася — аж да дваццаць першага калена.

Што тут вам далей казаць? Не пазнаць стала наш горад. Усмешкамі расцвіў, ветлівасцю свеціцца, шчасцемззяе. Хто за што добрае ні возьмецца — усё атрымліваецца, справы ладзяцца. Урэшце і наш гарадскі галава да майстра схадзіў. Назаўтра ж загадаў усе будынкі, што пустымі сталі з-за зачыненых прадпрыемстваў, за капейкі людзям раздаць, каб ладзілі там свае справы. Сам у вобласць паехаў. Інвестараў адшукаў — новы завод у нас пабудавалі, вялікі і сучасны. Турма ў нас у горадзе была — то яе далёка за лес перанеслі, а той самы касцёл, што на яе тэрыторыі разбураным ад часоў вайны стаяў, узнавілі, служба там цяпер ідзе святочная. І кляштар, у якім кабінеты сабе яшчэ энкавэдысты парабілі, аднавілі, і ён не пустуе…

Вось… Да нас людзі сталі ездзіць на гарадскі кірмаш, як у музей: не столькі купіць, колькі па горадзе пагуляць, у светлых ад ветлівасці кафэ пасядзець, на простых шчаслівых людзей падзівіцца. А мы свой сакрэт беражэм, харонім ад чужынцаў — ведаем, што кожнаму ў час пастрыгчыся трэба. Бо як стануць аднекуль яшчэ ездзіць, дзе ў майстра-цырульніка часу хопіць на такую грамаду?

А потым з'явілася ў нашай цырульні абвестка: «Вазьму ў вучні хлопца. Цырульнік».

Доўга яна вісела, цэлы месяц. Ды дарма. Хто ж сёння з маладых хлопцаў думае пра працу цырульніка ў нейкім правінцыйным горадзе? Гэта ж не недзе ў Мінску ў якім мадняцкім салоне рабіць прычоскі тлустым цёткам і іх лялечным сабакам…

Мінуў той месяц. І адным цёплым восеньскім ранкам не пабачылі мы майстра ў нашай цырульні. Разгубленыя Галіна і Наста згадвалі ўсім тое, што сказаў ім пры развітанні майстар — на іх просьбу пакінуць свае чароўныя нажніцы: «Справа не ў нажніцах, а ў жаданні іх трымаць».

Наш гарадок сёння — такі ж, якім быў некалі… яшчэ да майстра. І таму я пытаюся ў вас: ці сустракалі вы ў якім правінцыйным гарадку мужчыну-цырульніка?

Разгубленыя Галіна і Наста згадвалі ўсім тое, што сказаў ім пры развітанні майстар — на іх просьбу пакінуць свае чароўныя нажніцы: «Справа не ў нажніцах, а ў жаданні іх трымаць»

АПАВЯДАННЕ

# МАТЫЛЁК З НЮРНБЕРГА

Анатоль САНАЦЕНКА

**Успаміны пра яе займаюць самы пяшчотны перыяд майго жыцця.**

Я быў малады, свежы, адзінокі і яшчэ патрабаваў ад свету паразумення.

Мая журналісцкая кар'ера развівалася ўдала: праз два гады працы я быў пасланы ў Норск галоўным рэдактарам рэгіянальнага дадатку «Часу». Кватэра, машына, пад'ёмныя — прыкладаліся.

І ўвесь час, пакуль я ехаў на новае месца, пад радасны перастук колаў цягніка маё сэрца замірала ад прадчування немагчымага шчасця…

На новым месцы я ўзяўся за справу з цікавасцю, з густам, знайшоў слабыя месцы ў бюджэце газеты і праз паўгода прыкметна павялічыў яе прыбытковасць.

Наш рэгіянальны дадатак рыхтаваўся адзначыць сваё дзесяцігоддзе. Акрамя ўсяго іншага, гэта была выдатная магчымасць умацаваць і пашырыць чытацкія шэрагі.

Цэнтральны офіс ухваліў падрыхтаваны мною план урачыстых мерапрыемстваў. За дапамогай у складанні сцэнара і правядзення свята я звярнуўся ў аддзел культуры мясцовай адміністрацыі. Там мне парэкамендавалі загадчыцу літаратурнай часткі мясцовага тэатра — «надзвычай адоранага чалавека», як сказалі ў адміністрацыі.

Я паслухаўся іх парады.

— Тацццяна Царова, — праспявала юная істота, падаючы мне сваю цёплую далонь. Я разгублена патрымаўся за яе далікатную, даверлівую руку, якую мне неяк адразу не захацелася адпускаць, затым прадставіўся.

— А я вас ведаю.

—?

— Так, так. Не здзіўляйцеся. Я — адданая чытачка вашага выдання, вашых выдатных артыкулаў…

— Не, я вас нікому б не аддаў… — перапыніў я яе, каб скаламбурыць з такой нагоды, якую я, па сваёй колішняй звычцы, стараўся ніколі не прапускаць.

Яна замерла на імгненне, уважліва паглядзела на мяне і засмяялася, залілася смехам, зазвінела званочкам…

Мы пасябравалі.

Яна была таленавіта прыгожая. Чыстая лінія яе твару заставалася ў сэрцы раз і назаўсёды.

Кожны яе рух быў геніяльным! І тое, як яна ішла па вуліцы, і тое, як уваходзіла ў памяшканне, і як прысядала на краёчак крэсла, — усё гэта было незвычайна, незвычайна… Вядома, я закахаўся…

Юбілейныя святкаванні прайшлі выдатна. Норск ніколі не бачыў нічога падобнага. Урачысты вечар у тэатры, званы вечар для мясцовай эліты ў рэстаране, назаўтра — канцэртная праграма ў гарадскім парку з удзелам сталічных зорак, увечары — вулічны карнавал, тэатралізаваныя паказы, конкурсы, латарэі…

І ўсе гэтыя дні Тацццяна была побач. Калі яна, у святле сафітаў, падымалася на сцэну тэатра, я — у думках — кідаўся на доўгія захопленыя погляды, пасыланыя ёй з залы іншымі мужчынамі. Што ім незразумела: яна — мая!.. Мая!..

Да канца ўрачыстасцяў Таццяна, — яе вобраз, яе голас, усё яе быццё — пранiклі ў мяне настолькі, што, здавалася, сталі арганічнай, прыроднай часткай маёй істоты.

А што ж яна? Якія пачуцці былі ў яе?.. Гэта да пары да часу было для мяне загадкай.

Лічачы сябе спецыялістам па частцы жаночай псіхалогіі (як потым аказалася — неразважліва), я ўсё не мог зразумець, не мог разабрацць, што рухае ёю. Хоць потым мы і сталі блізкія…

Так, здавалася б, яна была ветлівай са мной, спрыяла мне як мужчыне… (Назаўжды застаўся ўва мне «вадзяным малюнкам», бачным толькі на прасвет памяці, наступны шэдэўральны сюжэт: яна і я ў пустым паўцёмным зале тэатра, у якім больш нікога, бо вартаўнік захварэў; яна са сцэны чытае Шэкспіра, з чароўнай усмешкай паступова вызваляецца ад адзення і ў фінале падае ў партэр, да мяне на рукі…). Але калі я спрабаваў завесці гаворку аб сваім пачуцці, аб тым, што я жадаю быць з ёй побач — і ў смутку, і ў радасці, і ў хваробе, і ў здароўі, — Тацццяна рабілася сумнай і спыняла мяне.

«Не трэба пра гэта», — ціха прасіла яна. І дадавала: «Ты зусім мяне не ведаеш». — «Ну дык раскажы пра сябе, каб я ўсё-ўсё-ўсё ведаў пра маю радасць», — казаў я, абдымаючы яе, імкнучыся перавесці размову ў жартоўную танальнасць, паколькі гэтая яе змрочнасць чамусьці мяне палохала. «Другім разам», — без усякай надзеі абяцала Тацццяна.

Падпускаючы да сябе, яна не дазваляла мне пранікнуць у яе душу. Пакідаючы сваю душу (я адчуваў гэта выразна) свабоднай.

Між тым пачуццё маё расло не па днях, а па гадзінах. Валодання яе цалам мне было недастаткова, я хацеў валодаць ёю цалкам. Я хацеў увайсці ў яе душу і застацца ў ёй назаўжды. Але, дзелячы ложак, яна не хацела дзяліць са мною сваё жыццё. І гэта я таксама разумеў.

І ўсё ж я быў шчаслівы. Няхай шчасце маё і мела прысмак горычы, я быў шчаслівы з ёй, навучыўшыся жыць імгненням, не думаць пра будучыню… Памятаю, як яна, узбуджаная нейкімі падзеямі, без званка ўрывалася ў маю кватэру (я забяспечыў яе дублікатам ключоў), — шумная, жудасна мілая ў сваёй эмацыйнай ускудлачанасці… Я супакойваў яе доўгім пацалункам у вусны, садзіў на канапу — і мы аддаваліся ўсім тым пяшчотам кахання, на якія толькі былі здольныя… Успамінаю таксама, як часам, утульна цёплымі летнімі вечарамі, у канцы працоўнага дня, яна прыходзіла да мяне ў рэдакцыю. Застаўшыся адны, мы былі няструмныя ў сваіх памкненнях…

Здзіўляла і трывожыла мяне ў ёй таксама тое, што яна ніколі не заставалася ў мяне на ноч, нібы яе ночы былі прызначаны камусьці іншаму. Я быў упэўнены ў тым, што, акрамя мяне, у яе нікога няма. Але зразумець гэтай яе асаблівасці — не мог.

Узяўшы ў ліпені адпачынак, я павёз яе за мяжу.

Некалькі дзён у Варшаве, некалькі дзён — у Берліне.

Употай я хацеў мацней прывязаць яе да сябе, адчуваючы набліжэнне чагосьці драматычнага, што можа яе забраць…

У Варшаве мы жылі ў невялікай утульнай гасцініцы, недалёка ад цэнтра. Сілкаваліся ў кітайскім рэстаранчыку. На абед заказвалі італьянскае віно, суп з крэветкамі, складана запечаную рыбу…

Аб'ездзіўшы і абышоўшы пешшу ўвесь горад уздоўж і ўпоперак, мы любілі вяртацца ў Стара Място, на сярэднявечную ціхую плошчу, акружаную з усіх бакоў рознакаляровымі дамамі, якія пяшчотна туліліся адзін да аднаго.

Мы прысаджваліся на чыгунную лаўку і паволна выпівалі ўсё навокал. Мінакі, вулічныя мастакі; гэтыя, быццам цацачныя, домікі, — іх фасады, дзверы, вокны; краму антыкварыяту; уваход у музей Адама Міцкевіча…

«Уяўляеш, тут жылі — нараджаліся, любілі, паміралі — за пяцьсот гадоў да нашага з'яўлення на свет, — дзівілася яна і летуценна клала галаву мне на плячо. — Цікава, а як гэта — жыць у такім вось доме, з такой вось старажытнай гісторыяй?» — гаварыла яна, гледзячы на жанчыну, якая ключом адчыняла дзверы насупраць нас, каб увайсці ў будынак. (Потым я даведаўся, што гэтыя дамы — толькі прывід будынкаў, разбураных падчас вайны…).

У цягніку «Варшава–Берлін» яна раптам стала маўклівай. А затым, пільна пагляддзеўшы на мяне доўгім позіркам, прызналася. Яна ва ўсім прызналася …

Яго завуць Аляксандр Куракоў. Ён — прафесар, яе інстытуцкі настаўнік. Цяпер у Нямеччыне, на гастролях, — са сваім тэатрам-студыяй, які стварыў, калі Таня вучылася ў яго…

Я выйшаў з купэ, апусціў у тамбуры акно. Цёплае начное паветра не астуджала майго палаючага твару. Калі вярнуўся, яна спала, зтарнуўшыся абаранкам.

Раніцай мы не прамовілі ні слова…

У Берліне мне стала зусім дрэнна, невыносна дрэнна.

Пакінуўшы Тацццяну ў гасцініцы, я гадзінамі блукаў па горадзе.

Усё прычынялa мне пакуты: шкляныя вітрыны крам на Кюрфюрстэндам, жыццярадасна страляючыя сонечнымі прамянямі; пяшчотнае вуркатанне закаханай парачкі, якая абагнала мяне на павароце вуліцы; глыбокі ўздых двух'ярусннага аўтобуса, што ветліва адчыняў свае дзверы, ветліва схіляўся да тратуара…

За паваротам аднаго з дамоў — чорныя, гладкія, бліскучыя панэлі — нечакана выйшаў да Шпрэе, і задыхнуўся — ад болю, ад сонечнага прастору, які адкрыўся вачам… Пакутлівыя, сухія рыданні вырваліся з маіх грудзей. Стрымліваць іх у мяне ўжо не было сілаў. Закрыўшы твар рукамі і прыціснуўшыся да сцяны нейкага дома, я бязгучна ўздрыгваў усім целам у спазмах бясслёзнага плачу.

**Валодання яе целам мне было недастаткова, я хацеў валодаць ёю цалкам. Я хацеў увайсці ў яе душу і застацца ў ёй назаўжды. Але, дзелячы ложак, яна не хацела дзяліць са мною сваё жыццё**

Мяне кранулі за плячо. Светлавалосы пажылы немец спагадліва пацікавіўся, што са мной. Зрабіўшы міжнародны жэст, які азначаў: «Усё ў парадку», — я пайшоў уздоўж ракі. «Мая бедная зялёнавалосаяЛарэлея! Я гіну ад тваіх чараў»…

У гасцініцы яе ўжо не было. На пісьмовым стале, — вось так проста, звычайна, будзённа — ляжала запіска. «Ён у Берліне. Мая душа належыць яму. Прабач».

Сяк-так сабраўшы рэчы ў дарожны чамадан, паехаў на вакзал.

Цягнік адпраўляўся праз сорак хвілінаў. Чакаючы пазначаны ў білеце час, без мэты блукаў па вакзале, — сядзець на адным месцы было невыноснай пакутай…

Наткнуўшыся на газетны кіёск, купіў свежы «DER TAGESSPIEGEL», пачаў аўтаматычна праглядаць яго.

У раздзеле «Культура» пісалі пра гастролі эксперыментальнага тэатра пад кіраўніцтвам Куракова. Як я зразумеў, пісалася там шмат пахвальнага. Гэта было зусім ужо нясцерпна. Я скамячыў газету…

Абвясцілі пасадку. Увайшоўшы ў купэ, я зачыніў за сабою дзверы, але праз хвіліну ў іх ветліва пастукалі.

Аказалася, мой суайчыннік; вяртаецца на радзіму.

Ніякага жадання размаўляць у мяне не было, але мой сусед па купэ, на няшчасце, быў п'яны і гаваркі. Нейкі час я не ўпускаў яго балбатню ў сваю свядомасць, якая была аглушана сапраўдным чалавечым горам. Затым стаў няўцямна прыслухоўвацца…

З яго маналогу я зразумеў, што ён — акцёр, пасварыўся з рэжысёрам — з-за дробязі, але для яго — прынцыповай рэчы. Разарваў кантракт і цяпер вяртаецца дадому. Нагаманіўшыся, ён змоўк. Сядзеў за сталом, падпёршы галаву кулаком. Затым дастаў з сумкі пляскатую бутэльку з каньяком, наліў сабе і прапанаваў мне. Я адмовіўся.

Выпіўшы, ён папрасіў паглядзець газету, якую я, з-за няўважлівасці, прыцягнуў з сабою ў купэ.

Расправіўшы і пагартаўшы яе, ён нечакана ўсклікнуў: «А-а-а, і тут спадар Куракоў!» — «Вы яго ведаеце?» — зацікавіўся я. — «Як жа, як жа, ведаем-с. Яшчэ як ведаем-с! — Чамусьці старамодна адказаў ён мне. — Сволач прыстойная». — «Што так?» — «Ды вось так! Доўга тлумачыць, але калі вы хочаце… » — «А ці ведаеце вы Тацццяну Цараву? — перапыніў я яго. — Яна быццам бы мае нейкае дачыненне да тэатра Куракова…» — «І самае непасрэднае. Яшчэ тая штучка, скажу я вам. Мала таго, што, яна — актрыса тэатра Куракова, — два гады таму ледзь не разбіла яго сям'ю (зрэшты, я не моцна перажываю з гэтай нагоды), дык, уявіце сабе: на днях зноў заявілася да яго — тут, у Берліне. І паміж імі зноў пачалося… Каханне, разумееце. Пачуццё! Між тым розніца ва ўзросце — дваццаць гадоў!..»

Вярнуўшыся ў Норск, я адчуў нясцерпнае жаданне здзейсніць які-небудзь гвалт над сабой, над сваім лёсам…

Я звольніўся з газеты і падаўся ў сталіцу. Там і заспела мяне вестка аб яе гібелі ў аўтамабільнай катастрофе, — на горнай дарозе ў Швецы, у машыне Куракова, які, між тым, застаўся жывы.

А праз два тыдні пасля гэтага па пошце прыйшоў вялікі жоўты канверт, упрыгожаны маркамі тых месцаў, дзе ён, у пошуках мяне, паспеў пабываць.

Яе рукой на ім старанна было выведзена маё імя і адрас.

Нічога не разумеючы, я, у смутку і жаху, разарваў яго і тут жа здрыгануўся ўсім целам, усёй душою: да ног з канверта выпырхнуў велізарны, яркі матылёк.

Гэта была акуратна выразаная з нямецкай паштоўкі крапіўніца (яна памятала пра маю любоў да прозы Набокава).

На адваротным баку несмяротна дарагім мне почыркам… «Мілы Сашанька, гэты матылёк паспеху прыляцеў да цябе з Нюрнберга. Будзь шчаслівы. Прашу цябе, будзь шчаслівы…»

Я не змог выканаць гэтую просьбу…

ВЕРШЫ

# УСЛЕД ЗА ДЫМАМ

Юрка ГОЛУБ



## Пра кветкі

*Кветкі. Жарсць. І блёкат.
Гоны і загоны.
Васількам — аблокі.
Дзьмухаўцам — адхоны.*

*У дрымотнай сельве,
Мабыць, кветка — прышчык.
Блішча.
Блешча.
Хлышча.
Кветнік места Зэльва.*

*Цешыла дзяўчына
Прызбу.
Просьбу.
Прызму.
І былі прычыны
Для такой харызмы.*

*Дзе ў пялёстках крама,
Ці на хвалі лотаць,
Кветку не карайма —
Клікнем да палёту.*

*…Сэнс прыцьмелы кветак?
(Звернемся да назвы.)
Глянь, жыццё — не ветах.
Вабна. Непралазна.*

## Даўно

*Стаяў старчма круты віхор.
Ляцелі іскры з-пад падэшваў.
Быў не жаданым недабор,
А перабор яго завершваў.*

*Гуляла шапка набакір
Ды не губляла раўнавагу.
Гаі гучалі, як клавір,
А ў бубен бухала адвага.*

*Ручай апоўначы не спаў,
І захлыналася прадвесне.
На ганку загрудкі хапаў
Свайго суперніка равеснік.*

*Сякера гахала з-за плеч:
Прасіла літасці калода.
Крышыў яе хлапечы меч,
Як крышыць дзень камлыгу лёду.*

*Нас нудны порсткімі назваў,
Маўляў, кідайце гульні… Досыць!
Ды як жа хочацца назад
Вярнуць памылкі маладосці.*

## Вайсковыя фрагменты

*Калі гісторыю за фалды
Хапаў захоплены дзівак,
Дык атрымаў адказ кувалдай,
А тая з вывадку падзяк.*

*Калі на фоне эскадрона
Круціў вусы, як зух, швейцар,
Дык думаў, што сядзіць на троне,
Адкуль нядаўна шуснуў цар.*

*Калі па ходніку цывільным
Ішоў з марозівам салдат,
Тады яму лагодна Вільня
Дарыла ўсмешку акурат.*

*Калі агонь жагнаў акопы,
А палітрук — «Вперед!» — гарлаў,
Дык захіліў сабой Еўропу
Аднак не грузны генерал.*

*Калі задуха касмадрома
Душыла воблакі і стэп,
Салдацік юны трызніў домам,
А свет круціўся, як вяртэп.*

*Пісака, маю перавагу:
Зашыцца ў поцемкі не гож.
У танку лёгка мець адвагу,
А паспрабуйце — басанож…*

## Пахвалёнка калгасніку

*Наперад нёс узорны лёс.
Каб зоры на грудзях не згаснулі,
Дык клічнік стос праграмаў трос:
Любіў ён лозунгі з калёс,
Найболей — прагна і ўзасос! —
Любіў у поцемках калгасніка.*

*І бразгацелі рот і дрот:
Віват, шаноўнаму таварышу!
І браўся дрот у абарот —
У абарот наадварот —
Каб дакумекаць — дык запарышся.*

*Неверагодна! Але факт:
Сабе з калгаснага кубельчыка
І штат, і сват, і апарат,
Самтрэст, сампіт і самвыдат
Грунтоўна, бач — не напракат —
На сале жытку забяспечылі.*

*Ды вобзем бразнуўся калгас,
Бы ў дамавіну злегла класіка.
Не варухнуўся ласы клас.
Не заікнуўся, хто пагразь.
Цішком рыхтуе вестку час:
«Знайшлі, як маманта, калгасніка!»*

*Навошта пошук днём з агнём?
З Бераставіцы і да Мёршчыны
Такое смачнае загнём,
Што страсянецца зноў загон,
А Збаўца ўсхліпне над майном,
Яшчэ дарэшты не заморшчаны.*

*Яму, каб смаку паспытаць,
Недастаткова лашчыць зычныя.
На дзірах вунь страха, пята…
Даўно халодная пліта…
Адной уцехі: ёсць пятак —
Ён у калгасніка пазычаны.*

## Прытча з ручаём

*Ручай згубіўся ў ценю стром,
Не даўся ў рукі спёкі, вёрткі.
Вось так накрылася хвастом
Вогнепаклонніца-вавёрка.*

*І згубу збегліся шукаць
Ганцы ўстрывожанага бору.
Сасны старэйшае шчака
Была пад колер каленкору.*

*А з верхатуры іншых дрэў
Абсягі мерыў крэч варонін.
І стала ясна: справа дрэнь —
Лёс ручая — хай Бог бароніць…*

*На вуснах рэчышча пагас
Апальнай лотаці гарлачык,
Бо неспрыяльным стаўся час,
Як дзень раз'юшана гарачы.*

*Ніхто не ўзгадваў пра выток,
Бо ўсе імкнуліся да вусця.
Між тым, ручай зрабіў віток
І да вытоку сам вярнуўся.*

## Услед за дымам

*Нябітым шляхам сходзіць дым:
Сабраў даніну з галавешак.
За плечы кайстру кінуў. Дый
Памкнуўся ў далеч полем вешчым.*

*Халодны верад. Дзіды рос.
Капытны след па-за ірвамі.
І прывід капішча ўваскрос —
Нядрэмным вокам пазірае.*

*Паводка сцежак. Абярэг
Збярог над людскасцю апеку.
Яму — ніштo — дзікунскі брэх,
Хоць сам падобны на калеку.*

*І раскатурханы палац,
І абыякавы гадзіннік
За часам мусяць паляваць,
А той сплывае, як ільдзіна.*

*Дзе глуха дыхае палын
І разарвала хмары ў клочча,
Гучыць трагедыя пілы,
Стаката буслава стукоча.*

*Ды не змарнела ўсё ж шана,
Не адарваная ад строяў.
Як таямнічая жаўна,
Або сасонніца на строме.*

*Вунь накрывае свята стол,
Дзе не кідаюць слоў на вецер.
Шпурляюць воклічы пад столь —
І дым каромыслам віецца!*

## Сцежка, дзе зіма…

*Калодзеж. Сцежка, дзе зіма.
Снягір нагрэты начырвона.
Яму даніна — задарма
У перавагу над варонай.*

*У бранявежы з лёду звон
Часова сцішыў камертоны.
Дзе лось прайшоў, як рабінзон,
У ствол залеглі два патроны.*

*Чакае печка мёрзлых дроў,
А цюцька ставіць на завею.
Калядных звычак і дароў
Нішто на свеце не заменіць.*

*Вятры быльнёг загналі ў сон,
І коўдра з інею пашыта.
Каб згадак варушыўся сойм,
Дзе нос прыплюснуты да шыбы.*

## Назіранне над сюжэтам

*Зняважа часу — не ілгаць!
У зморы шоры і маторы.
На даме мусіць палягаць
Сюжэт наступнага мінору.
Завязка: на мяжы пакут.
І смага зуб на прагу гострыць.
З герояў: першы — шалапут,
Другі — гастрольны Каліёстра.*

*А на кішэнных кірмашах
Кішыць разгневаны мурашнік.
Панадна аўтару змяшчаць
Свае задумы ў рукапашнай.*

*Знянацку ў дамы — інтарэс
Да Каліёстра страсна-востры,
А шалапут са смакам спрэс
Падлічыць рэбры Каліёстра.*

*Але і загадзя фінал
Галоўка ўсё ж не пралічыла:
Герояў аўтар даканаў…
Бо сам, няйначай, як лаўчыла.*

## Стыхія

*У заплечча гахаў ураган
Сухазем'ю рэшткамі паселішч.
Хмары непрытомныя віселі.
Уздымала моры ў берагах.*

*Раздзімала храпы сатана.
Апраметнай зніклыя кляліся.
Асачыў качэўнік закулісся,
Ці стаіць у стэпе Астана.*

*А стыхію прагнлі супыніць
Маргіналы з шэрагам рэгалій.
Не схапіць за цуглі ураганы —
Бачыць можна толькі са спіны.*



АПАВЯДАННЕ

# СТАРШАЯ МЕДСЯСТРА

## (З ЦЫКЛА «ЖАР КАХАННЯ. АПАВЯДАННІ ПРА ЖАНЧЫН»)

Генрых ДАЛІДОВІЧ

…Ён і яна сустрэліся ў санаторыі. Яго туды паслалі падлячыцца, а яна там працавала старшай медсястрой.

Той даволі лагоднай зімою Сяргей раптоўна за кароткі час зведаў збег нечаканых выпадковасцей. У адзін заснежаны, з лёгкім марозікам, яшчэ без ліхтаровага святла надвячорак, замроены сваімі думамі, крочыў уздоўж свіслацкай набярэжнай дахаты. І вось прыцемак змяшаўся з успыхнутым, яшчэ няяркім святлом з лямпаў на бліскаватых слупах ды аддаленых акон жылых дамоў, і ў праёміне рачной бетоннай сценкі-адгародкі, дзе былі сходкі да ракі, ён спачатку пачуў гучны гоман, а потым убачыў траіх: юных двух хлапчын і дзяўчыну. Штурхаліся, ускіпвалі крыкамі, а да яго, Сяргея, як з неба зваліліся нечаканасць у парыве дзяўчыны: «Дзядзечка, памажыце! Ратуйце ад наркаманаў!». Яму б непарушна абмінуць незнаёмую кампанію, але не дазволіла, як кажуць, шляхетнасць. Калі гукнуў, каб юнакі адступіліся, як палічыў, ад ахвяры, то крайні злева абсек яго зусім не па-шляхецку. Калі выкінуць «трохпавярховае», то на яго гаркнулі: такі-сякі, пайшоў прэч, пакуль жывы-здаровы!

Заўважылі: дастаў з кішэні курткі мабільнік. Зразумелі, куды і каму будзе званіць. Не паспеў яшчэ ўчуць з апарацыка, што яго слухаюць, як голагаловыя, з паўрасшпіленымі курткамі, з шаленствам у вачах хлопцы борздка выскачылі і абступілі яго: адзін кінуўся наперад, другі — за спіну. Уцячы не было як. Дый не чакаў ад нашмат маладзейшых бойкі, а слоўнай злосці. Памыліўся. Першы акулачыў па шыі. Калі з абурэннем хацеў павярнуцца да хулігана, то другі ўвішна ўдарыў нагой у жывот, ад чаго ён не мог не сагнуцца. А яны скарысталі гэта, пачалі бязлітасна лупцаваць, зганяючы на ім незразумелую яму сваю лютасць, а ён нават не здагадаўся кінуць долу партфель і таксама не цырымоніцца, не шкадаваць бэйбусаў. А калі займеў дзьве вольныя рукі і добра-такі тыцнуў аднаму ў пашчэнку, што той паляцеў з ног, то другі абрушыў яго так, што ён уцяліў правай скроняю на вызваленую ад снегу падвышаную над праходам бетонную акаймоўку.

Колькі ляжаў, не запомніў. Ад жанчыны, якая на вяровачцы прагульвала віславухага і лахматага спаніэля і раскатурхала яго, пачуў: непрытомнеў нямала. Яго шмат хто абыходзіў, лічачы, што валяецца п'яны (тых двух і дзяўчыну яна не прыкмеціла — значыць, усе збеглі), але, пабачыўшы, што аблеглы і скурчаны прыстойна апрануты, акрываўлены, рашыла памагчы. Пакуль ён, сапраўды, малацяны, жменяй снегу абтыцкваў кроў са скроні і шчакі, спагадная бабулька па мабільніку выклікала «Хуткую». Тая паблізу музея I з'езда РСДРП і падабрала яго, аслабелага і, галоўнае, паніклага тым, што яго збілі падшыванцы. У паліклініцы выявілі, што мае «лёгкае сатрасенне мозгу» — значыць, прыйшлося ўпершыню за свае трыццаць два гады зведаць бальніцу, дзе рану на галаве зацыравалі сям'ю радочкамі нітак…



«Во мардуленцыя! — гледзячы на бальнічным калідоры на яго выстрыжаную, памазаную зялёнкай лапінку на правым боку галавы, на заплылае вока з вялікай сіняй плямінай пад ім, ажно пацешылася нейкая жоначка. — Рыцар! — А тады зняважліва: — Абэлтус! Ты моцны на розныя ілюзіі, на так званую духоўнасць, але не на кулакі! Знайшоў з кім счэплівацца! З наркаманамі!..

Канечне, жыццё даражэй за страчаныя хай сабе і дарагія вушанку, мабільнік, партфель з паўмесячным заробкам музейшчыка. А жонцы вельмі палесціла, што яе пазналі некаторыя ўрачы і медсёстры, папрасілі ў «вядомай спявачкі» аўтограф. Дык шчыра ці мо і для ўхвалы сабе за клопат пра мужа (з ім яна, «беларуская дзіва», размаўляе не толькі на «слэнзе», але і з тымі дадаткамі, якіх ён пазбягаў нават у гутарцы з калегамі-мужчынамі), сходзіла да самога галоўурача і папрасіла, каб «моего мужа, защищавшего честь женщины и за это избитого хулиганами», пасля лячэння паслалі ў санаторый-прафілакторый («цена путевки не имеет значения»). Ён, хутка набіраючыся здаровасці ды маючы нямала не толькі службовых турботаў, не хацеў ехаць, але яна настаяла са сваёй у апошнія часы адкрытасцю: «Трэба прайсці курс далечвання, каб дурнем не стаў. Усё ж башку разбілі». — «А хіба я табе патрэбен і здаровы?» — «Не для цябе стараюся, а для дачкі. Толькі я сюды да цябе такога яе не пушчу: не трэба траўміраваць дзіця».

Вось яшчэ адна выпадковасць прывяла яго ў Н-і санаторый-прафілакторый, дзе раней у розных ваннах-басейне, лячэбна-працэдурных кабінетах бясплатна песціла сваё свяшчэннае здароўе эліта, а цяпер за аплату можна апынуцца там і простым смяротным.

…Яна зайшла ў іхнюю палату раніцай на другі дзень яго санаторнага жыцця-быцця, несучы для траіх пацыентаў градуснікі. Ёй недзе пад трыццаць, высакаватая, нават з некаторай мажнасцю, але ўсё роўна стройная ў зялёных штанах, кашулі і нагалоўніку на светлых загорнутых у кружок валасах. Не красуня, але мілавідная. Яна, гэтая вабнасць, была не столькі ад поўных светларужаватых шчок і роўнага даўгаватага носа, колькі ад хораша пакатых плячэй, высакаватай шыі, блакітнаватых добрых, але прытомленых вачэй, паўнагрудзя і асабліва ад ярка выдзеленых — не, не ад памады, — паўнаватых поклічных вуснаў.

— Новенькі? — павітаўшыся і яму першаму з краю («старажылы» выбралі ложкі воддаль ад дзвярэй) падаючы градуснік, усміхнулася, і ён здзівіўся, як ад простай усмешкі яе вочы ажывіліся і ахарашылі твар.

<…>

Назаўтра яны павіталіся ўжо як знаёмыя. Але Сяргей палічыў за лепшае не пачынаць новай размовы. Дый не ведаў, пра што гаварыць, што яму трэба ад гэтай Тамары. А яна ягоную ўвагу мо прыйме за заляцанне. І адзін Бог знае, як яна, канечне, замужняя жанчына, паглядзіць на залёты выпадковага чалавека. Ды яшчэ тут, у санаторыі, дзе не такі ён адзін. Маладая і вабная жанчына заўсёды і ўсюды не застаецца без мужчынскіх фліртаў. Ды не ўсе паддаюцца на іх (праўда, прыкмеціў, не адна тут, на калідоры, у басейне і сталоўцы кідае на яго асаблівы позірк, не супраць загаварыць).

Праз некалькі дзён заўважыў: Тамара шукае вачыма ў мужчынскім гурце якраз яго, а пры сустрэчы калі не зусім весялее, то выпраменьваецца лагоднай усмешкаю. А яшчэ праз дзень, калі ў «ціхі час» стаяў у калідоры каля акна і пазіраў на двор, дзе нечакана завіхурыла мяцеліца і зноў забяліла падчарнелы ужо сакавіцкі снег, яна падышла.

— Усё-такі не спіцца? — пажартавала.

— Не. А калі пабачыў вас, то хочацца прачытаць вам прысвечаны верш.

— Мне?

— Асабіста вам.

*Ідзі! Не марудзь, ідзі!*
*Іначай нельга ў жыцці.*
*Ідзі, белахалатая.*
*Ідзі да іх, да людзей,*
*Ідзі з палаты ў палату —*
*Суцеш, супакой, абнадзей.*
*Ідзі і цяплом адорвай.*
*Ідзі, бо патрэбна ты...*
*Не ўсе хочуць быць добрымі,*
*Ды хочуць дабраты.*

— Вы — паэт?

— Пішу і вершы, — сказаў без аніякай пахвальбы. — І мог бы мець нават сваю кніжку. Цяпер можна выдаць амаль усё, абы грошы. Мо і выдамся калі. А чуты верш называецца «Белахалатая», і напісаў яго мой знаёмы паэт Анатоль Вярцінскі. Мабыць, у бальніцы. Праўда, вы ў зялёным халаце.

— У нас белыя халаты носіць белая косць, — відочна была настроеная на размову. — Мы, чэлядзь, носім зялёныя. Альбо іншага колеру. Тое, што дадуць. Праўда, і я апрануваю белы, калі прымаю хворых.

— Тамара, выбачайце, канечне. Але мне здаецца: вы нечым прыгнечаная...

— Чаму вы так думаеце?

— Вы, бывае, так сказаць, звычайная, — сказаў і адразу ж спахапіўся, што вырвалася не тое. Ды не вернеш прамоўленае ўголас. — Калі ў вас лёгка на душы і вы звычайна ўсміхаецеся, тады на вачах расцвітаеце. А калі вас апаноўвае нейкая горасць, вы маркоціцеся...

Яна слухала і пазірала на яго пільна і засяроджана.

— Вы хто — псіхолаг?

— Не. Працую ў літаратурным музеі. Адшукваю ў сем'ях памерлых пісьменнікаў рукапісы, пішу юбілейныя і звычайныя артыкулы, ладжу літаратурныя вечары, чытаю лекцыі. Нават невялікі начальнік. Загадчык аддзела.

— Ясна, — прамовіла. І тут жа ўжо з эмоцыяй. Ды з халаднаватай: — Вы — тут наш пацыент. Для таго, каб падлячыцца. Дык ці варта вам стамляцца разгадкамі пра душэўны стан медперсаналу? І ці кожны з яго зажадае дзяліцца з пацыентам сваім, асабістым?

Што ні кажы, пстрыкнула яму па носе!

— Выбачайце, — зноў папрасіў. — Я зусім не хацеў сапсаваць вам настрой. Вы мне неабыякавая...

— Ясна, — паўтарыла. І далей нечакана строга, ушчувальна: — Ці не падаеце намёк на санаторны раман? Ведайце: у нас гэта забаронена... — Пабольшыла вочы, пахітала галавою: — Вось так, паэт...

Павярнулася і пайшла. Пасля гэтага пры сустрэчы віталіся, але яна не мела намеру для гаворкі, апускала вочы і адыходзілася. Цяпер — мо толькі ў іхнюю палату? — і градуснікі пачалі прыносіць іншыя. А ён не ведаў, што рабіць. Апраўдвацца? У чым і як? Не заўважаць яе?..

Пагоршыўся сон і ўночы. Ён, як раней міла жартавала, а цяпер злосна кпіла жонка, — «стараэрэжымнік» — значыць, найперш прыхільнік моцнай сям'і. Спачатку так у іх усё і складвалася, калі яна была радая патрапіць хоць у малавядомы, дык і малаграшовы ансамбль, калі з прыватнай кватэры перайшла ў яго двухпакаёўку (яе яму запісала ў наказе цётка), калі была заадно ў тым, што цяпер грэбліва называе «так званай духоўнасцю». Ён радаваўся, што падарыла дачку. Па яго просьбе адзін ужо вядомы кампазітар, часты госць музея, памог ёй выбіцца на сцэну. І спачатку паводзілася там сціпла, у многіх рэпетыцыях, у стоме, прыдзірках кіраўніка ансамбля, кампазітараў старалася не занядбаць і яго з дзіцем. А потым... Асабліва тады, калі патрапіла ў сіло розных модных і багатых шоўмэнаў ды менэджэраў, якія вучылі яе найперш забаўляць слухачоў, а пасля і тэлегледачоў не столькі голасам (ён у яе не лепшы, але і не горшы, чым у многіх іншых), колькі маладым, стройным целам. Для гэтага ёй зноў, але па-новаму ўжо прыйшлося пацярпець — на аперацыях, калі ёй павялічвалі грудзі (ёс грудзі сталі, а гарбузы), выпраўлялі нос і губы. І пачаліся ў іх спрэчкі, калі ўцягнулася да «папсы» і заяўлялася перад людзьмі і камерай паўголай. «Каму трэба твая вясковая сціпласць?» — абуралася на яго дакоры. — Яна — доля няўдачнікаў. Для сваёй нішы, для вялікіх мані-мані нам, эстрадзе, трэба папулярнасць. А вядомасць — адметнасць, выклік, нават скандалы». — «Скандаламі можна дабіцца папулярнасці, але не вядомасці. Яна, вядомасць, а за ёю слава, легендарнасць — штосьці больш значнае і даўгавечнае». — «Даўгавечнае-даўгавечнае!» — Перадражніла. — Мне цяпер патрэбныя лаўры!» — «Шум? Пена?» — «Хай сабе і гэта. Абы гучала маё імя. Абы сёння, заўтра вытрымаць канкурэнцыю, быць у фаворы».

І трэба сказаць, у сваім намысле ці па нечыяй падказцы праявілася не проста летуценнасць, а халодны разлік. Паволі выбілася са шматлікасці такіх, як сама, пачала заяўляцца побач з мінскімі зоркамі. Затым — гастролі, запросіны на закрытыя забавы багацеяў; таксама дабілася, як і той-сёй, займець на тэлебачанні сваю праграму — вучыла, як рабіць розныя прысмакі (хоць дома даўно ўжо не кухарыла і не пральнічала; ён глядзеў сам сябе; дачку апошнім часам найбольш гадавала цешча, якая пайшла на пенсію, каб паспрыяць даччынай «кар'еры»), здымалася ў самай рознай рэкламе. Стамлялася, стала нярвовай, часамі нават істэрычнай, але не адступалася ад свайго. «Нам трэба свяціцца і свяціцца, інакш — канцы, выплывуць іншыя. А за гэтым — забыццё, галеча». Калі зрэдку сустракаўся з яе калегамі ў адной кампаніі, то не мог не жахнуцца: колькі ў іх сама- і славалюбства, пагарды, непрыязні да іншых! У іх гавэнда пра адно і тое ж. Хто і праз што выбіўся, хто з кім «займаецца сэксам», жэніцца-перажэньваецца, хто п'яніца, наркаман альбо «блакітны»... Многія кампазітары, спевакі свядома пазбягалі знацца з вершамі беларускіх паэтаў, гналіся за рускамоўнымі, каб лягчэй «выбіцца». Некаторыя, марачы пра славу і вялізныя заробкі маскоўскіх эстрадных «прымадоннаў», «імператрыц», «каралёў», «залатых галасоў Расіі», рванулі ў Маскву, але там ім падставілі падножку, на іхнюю думку, «акулы шоў-бізнэсу», ды ім, «нацыяналам», перабеглі дарогу вядомая латышка, некалькі грузінскіх эстраднікаў і асабліва ўкраінскія «папялушкі». А якія былі хітрыкі, змовы, выкрунтасы, подкупы, каб патрапіць на песенны конкурс Еўрабачання! Звадамі, скаргамі пакрыўджаных займаўся нават Ён, нібы ў яго было зашмат вольнага часу і не мелася іншых, больш важных турботаў...

Праўда, ва ўсім гэтым пакуль што была адна жончына перавага: не з яго, а з яе заробкаў перабраліся ў чатырохпакаёўку, набылі «прэстыжны» легкавік, гараж, маглі марыць аб «прэстыжным» загарадным катэджы. Пакуль што Святлана набыла толькі двухпакаёўку ў горадзе. І ўпотай ад яго, зрабіўшы гаспадаром свайго бацьку. Значыць, ён, муж, у выпадку чаго не будзе мець права на тую маёмасць...

…На трэці альбо чацвёрты дзень у «ціхі час» у іхнюю пала-

ту зайшла маладая медсястра і запынілася каля яго.

— Вы — Сяргей Адамавіч?

— Я.

— Вы не будзеце спаць?

— Не.

— Тады старшая медсястра запрашае вас на намечаныя працэдуры.

Не юнак, а захваляваўся. Ніякае лячэнне яму не было прапісана ў Тамарыным кабінеце — значыць, яна кліча яго на размову. Але якая будзе гаворка? Пра што?

Каб не ўчыняць шуму, зайшоў без стуку. Седзячы за сталом у белым халаце (а як жа, прыём!), гаспадыня акінула яго не маркотным і не строгім, а ўважліва-вывучальным позіркам. І ў гэтай уважлівасці было штосьці новае. Здаецца, даверлівае.

— Вы пазбягаеце мяне, — калі ён сеў і апусціў галаву, пазіраючы толькі на тое, што стаяла і ляжала на яе стале, загадкава прамовіла яна.

— Яшчэ раз выбачайце, — прыклаў руку да грудзіны і падняў галаву: вочы яе былі засяроджаныя на ім, быццам хацела зазірнуць у ягоную душу. — Што праўда, то праўда: я тады быў нетактоўны.

Замаўчала. І цяпер, здаецца, яе позірк быў ужо далёкі, паўз яго.

— Не, гэта вы мне выбачайце, — ціха сказала. — Нетактоўная была я... Вы глыбока спазналі стан маёй душы... І я не знайшла нічога лепшага, як гаварыць вам рэзкае...

Цяпер замоўк ён.

— Усё з-за свайго...

Калі жанчына закранае сваё сама балючае, то трэба ўмець яе паслухаць.

— Быў чалавек як чалавек. Журналіст. Пісаў смела, часамі рэзка. Часта друкаваўся, начальства яго цаніла, паставіла загадчыкам аддзела. Няблага зарабляў. Ад газеты нам і кватэру далі. Але потым яго не толькі рэзкасць, але і смеласць не спатрэбіліся. Ад яго пачалі патрабаваць ухвальнага, падаючы за ўзор «Советскую Белоруссию». Ён не паддаваўся, хацеў «вялікай журналістыкі». А значыць, трапіў у лік падазроных, «нячэсных». Яго перасталі друкаваць, а пасля як «неадпаведнага сучаснасці, значнасці» перавялі ў радавыя супрацоўнікі-рэдактары. Усё больш і больш заліваў сваю асечку, а то і зрыў гарэлкаю. Калі быў п'яны, то хадзіў сварыцца да галоўнага: «Вы прадалі ганаровае званне журналіста!». «Бяздарнасці!». «Прыстасаванцы!». Цярпелі-цярпелі за яго былыя заслугі, а затым звольнілі. Ды адкуль яго потым толькі не звальнялі! Нават доўга не патрымалі дворнікам. Я спачатку спачувала яму, прасіла хоць не траціць чалавечую годнасць, пачакаць лепшых часоў. Але дарма. Спіўся. Адна ў яго турбота: выпіць! Абы чаго! Рэчы з кватэры зносіць... Канечне, нічога добрага паміж намі не можа быць. Які ўжо час мы як чужыя людзі. Ён па сабе і я па сабе. А на днях падала на развод. Вось і перажывала. А некалі любіла, ганарылася... Сама цяпер не ведаю, чаму так напала на вас. Нават за тое, што... Ну, за ваш камплімент...

— Каб жа я ведаў пра гэты ваш стан! — пакаяўся.

— Вам не трэба каяцца, — супакоіла. — Якраз вы паводзіліся тактоўна. Не ў прыклад іншым, якім адно толькі трэба...

— Тады на ваш давер адкажу і я сваім даверам, Тамара. Я таксама паўхаласцяк.

Ад ледзь прыкметнай усмешкі варухнуліся яе паклічныя вусны:



— Як гэта зразумець? Паўхаласцяк?

— Я жанаты, але, лічы, не жыву з жонкай, — на яе прызнанне адказаў сваім. — Яна — эстрадная спявачка, — назваў яе імя і прозвішча, ад чаго ў Тамары прыўзняліся бровы. — І ў яе новы бойфрэнд. Дык хіба цярпець гэта бясконца, быць пасмешным?

— Вось што... — паспачувала. — Але па вас не відаць, што вы перажываеце. Значыць, умееце добра хаваць свае нягоды.

— А я, Тамара, перажыў ужо ўсё. Вярнуся адгэтуль і, як вы, падаю на развод.

— Дзеці ёсць?

— Дачка.

— І ў мяне дачушка.

— Вам то яе пакінуць, а вось мне — наўрад ці. Найперш цешча не саступіць.

— Значыць, Сяргей, мы з вамі... — Пахітала галавою. — Пабрацімы ці што...

— Выходзіць, — адказаў. — Хоць...

Напружылася.

— Мо і не выпадковая наша сустрэча. Дарэчы, дзе вы жывяце? У гэтым пасёлку?

— Не, у Мінску. Сюды езджу аўтобусам або маршруткай. Бывае, начую тут. У дзяжурства. А то і каб п'янюгу не бачыць.

— Тады давайце памяняемся тэлефоннымі нумарамі, — шчыра папрасіў, паклаў сваю далонь на яе руку. Тамара рукі не забрала. — Як кажа адзін мой знаёмы: «а ряптам?..».

— Чаму не, — пацiснула плячыма, — можна.

— Паслязаўтра, Тамара, я ад'язджаю.

— Ведаю, — усміхнулася. І хітравата: — Як і тое, што вы па бацьку Адамавіч.

— Значыць, заўтра ў нас тут развітальны дзень.

— Значыць... Праўда, я мо і не буду тут.

Ён сціснуў яе руку, а пасля павярнуў тую так, каб іхнія далоні былі адна да адной; Тамара адказала непарушнасцю, а неўзабаве паддалася, і іхнія пальцы самі па сабе спляліся, ад чаго ў Сяргея пыхнула цяплынь у падушачках далоні і пацякла-паплыла па ўсім целе, а Тамара ўздрыгнула, прыплюшчыла вочы і дробненька затрымцела вуснамі. Ды калі ён ужо асмялела прыпадняўся, каб пацалаваць іх, дык не страціла пільнасці, вольнай рукой не дапусціла блізка:

— Ну-ну!.. Давайце мяняцца тэлефонамі.

...Назаўтра ён быў прыемна ўражаны і ўсхваляваны: вяртаючыся з вячэрняй прагулянкі на свежым паветры, на сваім калідоры, каля стала дзяжурнай сярод некалькіх медсёстраў убачыў і Тамару. Яна размаўляла з калегамі і знарочыста гучна, мо каб адолець хваляванне, падвясельвалася і раз-пораз азіралася іменна на ўваход з пляцоўкі ад ліфта. Вось позіркі іх сустрэліся — яна не запыніла ўсмешкі, толькі ў яе вачах разам з радасным бляскам цяпер мільганула адценне ніякаватасці, а то і сарамлівасці. Падышоўшы браць у апошні раз прапісанае яму лякарства, ён марудзіў, каб перш зрабілі гэта іншыя, а каб яму паболей застацца тут. Яна цяпер, здаецца, не пазірала на яго, прадаўжала маладзіцца, весці пачатую бяседу са сваімі калегамі, але як толькі ўзяў загорнутыя ў папяровую сурвэтку таблеткі, адразу ж павярнулася і па-змоўніцку плюснула вачыма і паказала позіркам на калідор: ідзі да сябе. І рушыла першая. Ён хутка яе дагнаў.

— Дзякуй, — сказаў па-маладому ўзбуджана.

— Адна медсястра папрасіла падмяніць, — спакойна патлумачыла.

— Дык вы будзеце тут, на пасту?

— Не, у сваім кабінеце.

— Калі мне прыйсці да вас?

Яна быццам не зважала на гэты яго зусім не двухсэнсоўны запыт, паварочвала галаву то ў адзін, то ў другі бок, з некім віталася, да кагосьці загаворвала, а пасля ўлучыла хвіліну і яшчэ больш захвалявала паўшэптам:

— Пасля адбою. На калідоры будзе адна дзяжурная. Мая лепшая сяброўка...

«Адбой». Ён спазнаў, што гэта такое тут. Ёсць падпісаны галоўурачом распарадак, ён надрукаваны і вывешаны на дошцы аб'яў, але мала калі яго шануюць. Хворыя хоць і хворыя, але ж жывыя людзі, нямала з іх такіх, якія не толькі глядзяць, але ўжываюцца ў вячэрнія даўжэзныя серыялы, таму сядзяць у холе каля тэлевізара доўга. Каб іх вярнуць у палаты, бывае, пстрыкаюць святлом — выключаюць-уключаюць: адбой. Ды людзі просяць дазволіць даглядзець. Як адмовіш тым, хто незадаволена сыйдзе, але пасля ім стане горш? Дык вось яму прыйдзецца чакаць яшчэ не адну гадзіну таго адбою.

Яго аднапалатнікі, інфарктнік і інсультнік, таксама пачыльгікалі ў хол, куды ён мала зазіраў, каб марна не траціць час і не задавальвацца тым эфірным словаблуддзем, чым нацешваюцца ці суцешваюцца іншыя. Спрабаваў чытаць... Разпораз пазіраў на гадзіннік на руцэ: стрэлкі паўзлі вельмі марудна.

Па тым, у які час звычайна шумнавата разыходзяцца гледачы, Сяргей урэшце дачакаўся: хвілін дзесяць да гэтага. Лічачы, што цяпер ніхто не пазважае на яго, не вытрываў, падхапіўся і, папраўдзе нікім не заўважаны, рушыў да запаветнага кабінета, што быў непадалёку дзяжурнай. Турзнуў за чорную ручку замка — замкнёна. Яшчэ раз-другі паўтарыўся — тое ж. Зноў настойліва — урэшце шчоўк, дзверы прачыненыя (адразу кінулася ў вочы, што там няма святла), ён — туды. Тамара — збоку, пры вушаку. І пры тым дасветку, што падаў з-за акон, было відаць: яна цяпер не ў бальнічным халаце, а ў чорнай спадніцы крыху вышэй кален і ў белай, туга напятай на поўных грудзях блузцы, а на спіне рассыпаныя доўгія светлыя валасы. Яго сустракае не медсястра, а Жанчына! Не зусім вядомая яму — зрэшты і няхай! — але ўпадабаная маладзіца!

Яна прыхілілася спіной да сцяны і моўчкі стаяла.

Ён ужо ўпаўнена раней заўважаны тут ярлычок на дзвярах павярнуў убок, шчоўкнуў на замыканне. Абняў яе, прыціснуўся. Яна не варухнулася. Але калі памкнуўся да яе вуснаў, адвяла іх:

— Сяргей, ну... Як лепш сказаць... Не трэба лічыць, што калі я прыйшла, то... Хоць мне хацелася пабачыць вас іменна сёння...

— Я не магу інакш.

— Давайце пасядзім, вып'ем кавы, пагаворым.

— Гаварыць могуць рукі і вусны. Мае — дык вельмі.

— Пашкадуйце, — папрасіла, але не адхілялася.

— А што значыць — пашкадаваць маладую, прыгожую, палюбленую і жаданую жанчыну?

— Гэта — прызнанне ці...

— Не «ці», а самае што ні ёсць шчырае прызнанне, — перапыніў. — Цяпер толькі магу паўтарыць тое, што напісаў наш Купала: «Нядаўна з табою мне спаткацца прыйшлося...». І гэтае спатканне падняло, узнесла маю спакутаваную душу.

— Паэт ёсць паэт, — пасміхнулася.

— І чалавек. Таму прашу: давай пяройдзем на ты і пачнем цалкам давяраць адно аднаму.

Загарэзіла:

— Наша сустрэча такая лёсаносная?

— Безумоўна. У кахання свае законы. Як і ў цябе, так і ў мяне яно яшчэ няспраўджанае. А яно хоча ажыць. І не толькі ў словах. «І слухаць нічога ўжо больш не жадаю, А толькі хачу цалаваць, цалаваць...» — пісаў пра такое Адам Міцкевіч (пераклад Міколы Аўрамчыка)...

Абгарнуў яе шчокі, скроні далонямі і прыпаў да яе вуснаў. На гэты раз яна саступіла. Нават у доўгім, але пакуль што не жарскім пацалунку. Толькі ўздрыгнула: за блізкім прытульваннем, пацалункам адчула і яго ўзбуджаную мужчынскую сілу. Канечне, ведала, што за гэтым бывае: яна, жанчына, можа быць супраць таго далейшага, але зусім ужо блізкага, а ён, мужчына, будзе настойлівы.

Адхіліла вусны і з перарывістым дыханнем:

— Мы зайшлі ўжо далёка...

— Але можам быць зусім блізка. І прашу: не аддаляйся. Сам лёс яднае нас.

Зноў пацалунак, за ім — усё большае змаганне рук; у твар хлынае гарачыня; доўгі пацалунак закружвае галаву; яна адкідвае яго рукі, але ўсё ж застаецца без спаднічкі, у расшпіленай блузцы, а ўрэшце і зусім без адзення. Цяжка, на ўсю душу, уздыхае.

— Пачакай, — кажа яшчэ з развагаю, нібы п'яная ідзе да шафкі, дастае коўдрачку, сцеле яе на падлозе, а паверсе белае прасціралда, апускае падушачку, кладзецца сама і, заварожваючы яго хараством бела-матавага багатага цела, асабліва поўнымі клубамі і грудзямі, закрывае далоняй вочы.

Ён, сямейнік, не першы раз бывае блізкі з жанчынай, але цяпер — незнаёма па-новаму і ўзбуджана. Яны, з хваляваннем спазнаючыся, абое трымцяць, нібы аглушана пазбаўляюцца і мыслення, і ўсякіх слоў, яднаюцца ў адно, а пасля жарска даюць-бяруць тое непаўторнае, чым можа ашчасліваць маці-прырода...

...Пазней, калі ўжо сядзелі на кушэтцы і перадольвалі пачуццё нейкай адметнай віны, Тамара падала голас першая і як бы з іроніяй:

— А цяпер кахаеш?

— Цяпер ты мне ўжо дарагая.

— Што ж... Але калі пакінеш сцены гэтай бальніцы і пастараешся забыць нейкую легкадумную медсястру, то дакараць не буду. Я таксама не святая... Вагалася, але прыйшла ж, упусціла цябе сюды...

— Я не пакрыўджу цябе, Тамара, — прытуліў яе ён. Не сакрэт, не заўсёды мужчыны шчодрыя на такія словы, якіх чакае жанчына пасля блізкасці, і калі яна можа дакараць сябе, што паспяшалася саступіць. Калі жадае ўжо іншай пяшчоты...

...Сяргей скасаваў шлюб са Святланай (некалькі газет напісала пра гэта са смакам; некаторыя з вялікай хлуснёй і бессаромна выдуманым папрокам яму: дэспат, тыран, не толькі не разумее «высокае мастацтва», але і груба глуміў тонкую душу спявачкі, нават «прымяняў фізічную сілу»), Тамара — са сваім. Сустракаліся з год па-халасцяцку, а пасля Тамара перабралася ў яго купленую былой жонкай двухпакаёўку (чатырохпакаёвік застаўся ёй). Пажаніліся. А яшчэ праз год Тамара ашчаслівіла яго сынам.

**2005, 2010**




ВЕРШЫ

# ПАЭТЫ-ПЕРАМОЖЦЫ

Макс ШЧУР



***

*Праз няведанне іншых мудрот,*
*у адказ на прынятыя санкцыі*
*дождж наклікаў на Прагу смурод*
*берасцейскай чыгуначнай станцыі.*

*І раптоўна распаўся асфальт*
*на ўгнанення авечага атамы,*
*і адчулі мінулага гвалт*
*над сапраўднасцю ніякавата мы —*

*нават купалу рымскі авал*
*з мінівежай-цвічком замест клапана*
*рукамыйнік цяпер удаваў,*
*і малітва ўгару з яго капала —*

*я калісь карыстаўся такім,*
*у дзяцінстве, на ўскраіне Берасця...*
*Падбярэце праўдзівейшы Рым,*
*калі гэтаму вершу не верыце.*

***

*У шынку, дзе французская мова на слых*
*ператвараецца ў беларускую,*
*я сяджу між інтэлектуальных малых*
*і паэзію, як крыжаванку, лузгаю.*

*На паўкулях жаночых экватар майткоў*
*увагі маёй зусім не прыцягвае —*
*гэта ў голаў каштанаў ударыла кроў*
*і эрэкцыю кветак робіць працяглаю.*

*Цыгарэта не можа напіцца агню*
*ад залішне слабой, недалужнае свечачкі —*
*неяк так я сябе спадзяваннем маню,*
*што мяне не цікавіць нішто, апроч вечнасці.*

***

*Я б хацеў, каб на Страшным судзе*
*гонар мой бараніла кіска —*
*пра мяне як пра гуманіста*
*лепш ніхто не апавядзе.*

***

*У ціхай вёсцы спіцца ўдзень, бы ў інтэрнаце,*
*што застаецца на вакацыі пусты.*
*Самота: мой прыватны ордэн Цынцынаці.*
*Скажу астатнім, што «падцягваю хвасты».*

*Ды насамрэч хачу пажыць, як ганаровы*
*прафесар, госць... Сфальшую сам сабе залік.*
*Я курс зямны прайшоў хіба што да паловы,*
*а ўжо экзамен выніковы заваліў.*

*Аднак ляную ісці на пераздачу —*
*мне не патрэбны анічый ужо дыплом,*
*я лепш пасплю — прынамсі ў сне цябе*
*пабачу,*
*далёкі менскі інтэрнат, мой родны дом.*

***

*З вагону ў вагон, праз жыццё, нібы праз*
*цягнік —*
*у трэцім утульней, чымся было*
*ў папярэднім.*
*Шкадуеш толькі, што той незваротна*
*знік —*
*але не часцей, чым раз на дзень, у сярэднім,*
*калі рассякае падушкі рука-плыўнік.*

*У кожным з вокнаў — прызвычны*
*сюррэалізм,*
*Раз-пораз кандуктар прыцісне адно*
*да сценкі.*
*Лятуць у паветры кулі ў вобразе клізм.*
*Усё цяжэй слухаць з рэйкаў чужыя енкі,*
*чакаць катастрофы — а прыйдзе зноў*
*катаклізм.*

*Куды ты лезеш? Хіба ў вагон-рэстаран?*
*Занятую прыбіральню? Да машыніста?*
*Паведамляюць: цягнік ідзе на таран.*
*Табе раптоўна лягчэй: усё заібіста,*
*і хочацца болей прайсці разы ў паўтара.*

## Птушкі

*Тані Скарынкінай*

*Паўлін: зялёная хваля хрыбта*
*ападае хвастом, заліваючы зрок і зямлю.*

*Маўчанне пугачоў за мурам змушае паўлінаў*
*да перадсмяротных крыкаў.*

*Галубы стракочуць, нібы механізм*
*прымітыўнага жалезнага дзіцячага*
*пісталета.*

*Ластаўкі лунаюць над галавой,*
*не зніжаючыся да драпежніцтва.*

*Чайкі пралятаюць святлом пражэктара*
*ў непарушнай канфігурацыі,*
*нібы адмысловае сузор'е,*
*паскараючы бег начы.*

***

*Якая розніца, дзе жыць!*
*Паўсюль гавораць па-расейску.*
*Не, не ўцячэш ты, вечны Жыд,*
*з табе прысуджанага Менску.*

*Па ружах кроч ці па лязу,*
*у свет упервай зрок лупаты —*
*так ці іначай павязуць*
*у вёску з назвай Курапаты.*

***

*Найлепей спалася на дзедавай падушцы*
*(бо ў школу раніцай не клікала трывога),*
*альбо на менскай інтэрнацкай раскладушцы*
*ў святле зялёных лічбаў радыё старога,*

*альбо ў чужых людзей пасля бадзяння*
*ў скверы,*
*на невідочнае з сусвету ціхай выспе —*
*калі жыццё ёсць толькі сон, то дайце веры:*
*я жыў так глыбака, што нават*
*неспач высніў.*

## Купала

*Не аб падлогу ўдарыўся — аб мур,*
*якому ўсцяж няма канца і краю.*
*Прычына — гонар, п'янства ці амур —*
*якая, зрэшты, розніца, якая?*

*Нібыта целу ўжо не ўсё адно —*
*яно, як аказалася, не з бронзы.*
*Не так і доўга пражыло яно,*
*хоць прычакала славы незайздроснай.*

*Што меў — пакінуў у руках чужых,*
*народу стаў нялюбым бацькам Лірам.*
*З гатэлю выпісаўся, і цяпер ляжыш*
*ля ботаў следчых зрынутым кумірам.*

*Дух быць маніўся песні ўладаром —*
*такой, якой гісторыя хацела.*
*Ён выканаў замову. На паром*
*у небыццё пагружанае цела.*

*Слых у гісторыі не гэтакі й благі,*
*ды памяць — карацейшая за розум...*
*Спазнаць цяжар уласнае вагі*
*магчыма толькі грымнуўшыся вобзем.*

## Зранку

*Трамваі звоняць у акно,*
*турысты ў дзверы.*
*Мяшае раніца ў адно*
*зялёны й шэры.*

*Паўтор заменяць на паўтор*
*у тэлескрыні.*
*Напаў-будзільнік, напаў-Тор*
*у вуху грымне.*

*Пралічаным кунг-фу-штуршком,*
*нібыта елку,*
*з грыбніц па дах асветляць дом,*
*глушыцель енку.*

*Ад пляшкі выпітае шкла*
*ўгары аскепкі*
*збярэ сляза, як і знайшла*
*вячор — услепкі.*

***

*Раней у нудзе абыходзіў пакоі*
*сяброў інтэрнацкія,*
*цяпер абыходжу наяўныя ў наваколлі*
*бары і рэстарацыі —*

*і ў самых далёкіх вісяць фатаграфіі*
*экзатычнага тут гістарычнага цэнтру:*
*пазнаць, што я адтуль, вы б патрапілі*
*паводле звычак, бы паводле акцэнту.*

***

*Я згадаў пра дзедава паліто,*
*што ўначы вісела на печы ў спальні,*
*і я, маленькі, прасіў бабулю*
*прыбраць яго, бо трымцеў ад боязі,*
*што гэта — прывід (дзед спаў у залі).*

*Калі раней мы нечага прагнулі, то*
*пазней гэта бачыцца недаравальным.*

*Здаецца, цану б заплаціў любую*
*за сустрэчу з прывідам, богу тоесным,*
*з якім мы столькі недаказалі.*

***

*Я жыццю абвясціў асабісты страйк*
*у чаканні заслужанага падвышэння.*
*Не, мяне не турбуе звальнення страх,*
*і не быць дабрабыту маёй мішэнню.*

*Я ўступаць не збіраюся ў прафсаюз*
*дзеля дзіўнага шчасця быць раўнапраўным —*
*там адно індульгенцыі прадаюць,*
*а не рай, дый з подпісам несапраўдным.*

***

*Паэты-пераможцы*
*не чулі пра ўласную перамогу.*
*Як смяяліся з ворагаў, так і смяюцца.*
*Як нідзе й ні на кога не працавалі,*
*так і не працуюць.*
*Нават выглядаюць молада, па-старому.*
*Вакол іх па-ранейшаму збіраюцца падлеткі,*
*у якіх яны пазнаюць саміх сябе,*
*пагатоў што некаторым з іх даводзяцца*
*бацькамі.*
*Паэтам кажуць, што гэта яны*
*«заснавалі падмуркі»,*
*але ім здаецца, што яны іх заўжды*
*разбуралі.*
*Некаторыя называюць іх у вочы*
*«жывымі класікамі» —*
*паэты толькі ўсміхаюцца, бо ведаюць,*
*што гэта няпраўда.*
*Класікі жывымі не бываюць, а паэты*
*— яшчэ жывыя.*
*Яны такія ж, як і ўсе, хіба крышку*
*болей таленавітыя,*
*ды можа яшчэ шанцавітыя.*
*І няхай гэта прагучыць як ерась,*
*але, гледзячы на іх, здаецца,*
*што бог усё-ткі па-свойму любіць*
*добрых старых паэтаў.*

***

*Фейерверкавы сезон*
*палявання на анёлаў*
*адкрываецца лязом,*
*быццам новы парасон*
*пакрывае храму голаў.*

*(Я б страляў стральцоў-назолаў.)*

*На вясельным караблі,*
*бы фігуркі на падстаўцы,*
*танчаць (ф)ракі й матылі,*
*танчаць бабы й бабылі,*
*мод — і так — заканадаўцы.*

*(Як адзін — прадаўцы Збаўцы.)*

*Побач з гэтым караблём*
*на байдарцы (ці каноэ)*
*ў бубен лупіць нейкі гном,*
*нібы ў Брэсце — метраном,*
*што палохае вайною.*

*(Чуеш, дурань, кінь дурное.)*

*Хоць ты гэты параплаў,*
*не з філосафамі баржу,*
*на сякеры пераплаў,*
*каб метал не прападаў!*
*Плюнуў б з моста — ды прамажу...*

*(Тут канец рачнога шаржу.)*

***

*Там, дзе мая паэзія — там Люнд,*
*бляск літар у начы сярэднявечча,*
*дзе ранак пераходзіць проста ў вечар,*
*не даўшы разгарнуцца шыхтам дню.*

*Там, дзе мая паэзія — Стакгольм,*
*закрытыя, нібы кварталы, строфы,*
*свабода на памежжы катастрофы,*
*святога Эльма прывідны агонь.*

*Там, дзе мая паэзія — там Менск,*
*у невядомае штоночны шпацыр,*
*адсутнасць перспектыў, кахання, працы...*
*Крыві і амбры жудасны замес.*

***

*Хто вясны хоча зараз, тут жа —*
*забываецца, што яе*
*заслужыць яшчэ трэба ў сцюжы,*
*што вясну толькі той заслужыць,*
*хто па ёй, як па снезе, тужыць*
*і чакаць не перастае.*

АПАВЯДАННЕ

# РАЗ НА ТЫДЗЕНЬ — НЕ СМЯРОТНА

Пабачыў сеціўны свет адзінаццаты нумар электроннага часопіса «ПрайдзіСвет» «Бітнікі шыбаў», прысвечаны літаратурнай контр-культуры сярэдзіны XX стагоддзя. Сярод гучных імёнаў нумара — прадстаўнікі Біт-пакалення: Джэк Керуак, Ален Гінзберг, Грэгары Корса, Генры Мілер, Кен Кізі, Рычард Бротыган, блізкія да іх па духу Курт Вонэгут, Чарлз Букоўскі, Джэром Дэвід Сэлінджэр, француз Серж Гензбур, расіец Венядзікт Ерафееў, украінец Сяргій Жадан.

«Літаратурная Беларусь» традыцыйна прапануе ўвазе чытачоў публікацыі з новага «ПрайдзіСвета» — і выказвае ўдзячнасць яго рэдкалегіі.

**Джэром Дэвід СЭЛІНДЖЭР (1919 — 2010)**



Ён трымаў цыгарэту ў роце, пакуль пакаваў рэчы, і жмурыўся, каб дым не трапляў у вочы, таму па твары немагчыма было зразумець, сумны ён, спалоханы, разлаваны ці ўжо проста абыякавы. Маладая жанчына сядзела ў вялікім фатэлі, як госця, на яе твар падаў прамень ранішняга сонечнага святла, і прыгажосці яе гэта не псавала. А найлепшымі былі, бадай, рукі — загарэлыя, поўныя, прыгожыя.

— Мілы, — гаварыла яна, — я сапраўды не разумею, чаму ўсё гэта не мог зрабіць Білі. Ну, то бок я...

— Што? — спытаў малады чалавек. У яго быў хрыплы голас заўзятага курца.

— Ну, я не разумею, чаму гэта не мог зрабіць Білі.

— Ён занадта стары. Уключы мо радыё. Цяпер могуць даваць някепскую музыку. Паспрабуй хвалю тысяча дзесяць.

Жанчына выцягнула назад руку з залатым заручальным пярсцёнкам, побач з якім блішчэў на мезенцы фантастычны смарагд, адсунула белыя створкі, штосьці націснула, штосьці павярнула. Потым адкінулася ў фатэлі і пачала чакаць, але раптам без дай прычыны пазяхнула. Малады чалавек паглядзеў на яе.

— Што за *жахлівы* час, каб ехаць, — сказала яна.

— Я ім перадам, — адказаў малады чалавек, перабіраючы стос насовак, — што мая жонка лічыць такі час жахлівым, каб ехаць.

— *Думаю,* мілы, я буду жахліва па табе сумаваць.

— Я таксама. Белых насовак, здаецца, было больш.

— Не, *праўда* буду. Насамрэч гэта проста *абуральна* і ўвогуле...

— Ну добра, — сказаў малады чалавек і закрыў валізу. Ён зноў закурыў цыгарэту, паглядзеў на ложак і паваліўся на яго. Але як толькі выцягнуўся, радыёпрымач разагрэўся, і ў пакой уварваліся ўрачыстыя гукі велізарнага духавога аркестра — гралі марш Сузы. Яго жонка адвяла за спіну прыгожую руку і выключыла радыё.

— Мусяць перадаваць штосьці яшчэ.

— Ну не ў такую ж *вар'яцкую* рань.

Малады чалавек пусціў пад столь крываватае колца дыму.

— Магла б і не ўставаць.

— Але я *хацела!* — яны разам ужо тры гады, а яна ніяк не навучыцца размаўляць з ім без гэтых перападаў інтанацыі.— Як тут не *ўстаць!*

— Паспрабуй хвалю пяцьсот семдзесят, — сказаў ён. — Мо там што-небудзь ёсць.

Яго жонка зноў уключыла радыё, і яны ўдваіх пачалі чакаць, ён — з закрытымі вачыма. Праз хвіліну зайграў варты даверу джаз.

— У цябе што, і праўда *столькі* часу, каб вось так ляжаць?

— Акурат столькі, каб вось так ляжаць. Яшчэ рана.

Раптам ёй у галаву прыйшла сур'ёзная думка.

— *Спадзяюся,* цябе возьмуць у кавалеры. Кавалеры — гэта так цудоўна! Я проста вар'яцею ад гэтых штуковін, якія ім чапляюць на каўняры! Ну, і ты ж *ездзіш* конна!

— У кавалерыю, — паправіў малады чалавек, не раскрываючы вачэй. — Але гэта наўрад ці. Цяпер усіх у пяхоту бяруць.

— Які *жах,* мілы! Чаму ж ты не патэлефанаваў таму чалавеку, вось з такой штукай на твары? Палкоўніку. Мы з ім на мінулым тыдні бачыліся ў Філа і Кені. Ён жа з разведкі і ўсё такое. Не, ну сапраўды, ты ж ведаеш французскую, *нямецкую* і ўсё такое. Ён, прынамсі, дапамог бы табе ўладкавацца ў *афіцэры.* Падумай, як цяжка табе будзе служыць шарагоўцам ці як там яго! Ты, шчыра кажучы, нават з людзьмі *размаўляць* не любіш.

— Калі ласка, — сказаў ён, — не трэба пра гэта. Я табе ўжо ўсё растлумачыў. Наконт узвядзення ў афіцэры.

— Я, *прынамсі,* спадзяюся, што цябе адправяць у *Лондан.* Не, ну там жа ёсць хоць нейкія *культурныя* людзі! У цябе ёсць нумар палявой пошты Бабі?

— Так, — схлусіў ён.

У яго жонкі зноў узнікла несумненна сур'ёзная думка.

— Мне б якую ангельскую *тканіну*... Цвід, напрыклад... ды *любую.*

Але раптам яна зноў пазяхнула і сказала тое, чаго не варта было казаць:

— Ты развітаўся з цёткай?

Муж расплюшчыў вочы і рэзка сеў, апусціўшы ногі на падлогу.

— Вірджынія, паслухай... Я ўчора вечарам не паспеў табе сказаць. Хачу, каб ты раз на тыдзень вадзіла яе ў кіно.

— У кіно?

— Гэта не смяротна, — сказаў ён і паўтарыў: — Раз на тыдзень — не смяротна.

— *Вядома ж,* мілы, але...

— Ніякіх «але», — сказаў ён. — Раз на тыдзень — не смяротна.

— Ну *вядома ж,* дурненькі! Я толькі хацела сказаць...

— Шмат ад цябе не патрабуецца. Яна не маладая ўжо, ну і гэтак далей.

— Але, мілы, ёй зноў *пагоршала,* праўда. Яна такая... *кранутая,* нават ужо не *смешна.* Ну і ўвогуле, ты ж цэлымі днямі з ёй дома *не сядзіш.*

— Ты таксама не сядзіш, — сказаў ён. — А яна наогул з пакоя не выходзіць, пакуль я яе куды-небудзь не павяду. — Ён нахіліўся бліжэй да жонкі, так што ледзь не зваліўся з ложка. — Вірджынія, раз на тыдзень — не смяротна. Я не жартую.

— *Вядома ж,* мілы. І праўда, калі ты так *хочаш...*

Малады чалавек раптам устаў.

— Скажы на кухні, што можна падаваць сняданак, — папрасіў ён, накіроўваючыся да дзвярэй.

— Спачатку *пацалуй* мяне, жаўнерык, — адказала жонка.

Ён нахіліўся, пацалаваў яе чароўныя вусны і выйшаў з пакоя. Падняўся на адзін лесвічны пралёт, пакрыты тоўстым кілімам, і павярнуў на пляцоўцы налева. Там пастукаў у другія дзверы — да іх была прышпіленая картка старога нью-ёркскага гатэля «Ўолдарф Асторыя» з надрукаванымі літарамі «Просьба не турбаваць». Наўзбоч была прыпіска выцвілым атрамантам: «Пайшла падпісваца на Пазыку Свабоды. Хутка буду. Сустрэнь Тома замест мяне — у вестыбюлі ў шэсць. У яго левае плячо вышэйшае за правае і ён курыць цудоўную маленькую люльку. Цалую. Я». Цыдулка была адрасаваная маці маладога чалавека, і ён упершыню прачытаў яе, калі быў маленькім хлапчуком, а потым яшчэ разоў сто. Чытае і цяпер, у сакавіку 1944-га.

— Заходзьце! Заходзьце! — пачуўся дзелавіты голас.

Малады чалавек увайшоў. Ля акна за картачным столікам сядзела вельмі прыгожая дама гадоў пяцідзесяці з гакам у зграбным бэжавым пеньюары і ў вельмі брудных белых кедах.

— Ну, Дзікі Кэмсан, — сказала яна, — навошта ты ўстаў так рана, лайдак ты гэткі?

— Ды сякія-такія справы, — адказаў малады чалавек, з палёгкай усміхаючыся. Ён пацалаваў яе ў шчаку і, паклаўшы адну руку на спінку фатэля, зазірнуў у велізарны альбом, разгорнуты перад жанчынай.

— Як твая калекцыя? — спытаў ён.

— Выдатна. Проста выдатна. Гэты альбом — ты яго і не бачыў яшчэ, бессаромны ты хлопча, — зусім новы. Білі і кухарка будуць аддаваць мне ўсё, што атрымліваюць, дый ты мог бы захаваць для мяне свае.

— Звычайныя амерыканскія гашаныя маркі за два цэнты? Цудоўна прыдумана! — ён агледзеў пакой. — Як радыёпрымач? Працуе?

Прымач быў наладжаны на тую ж хвалю, што і на ніжнім паверсе.

— Выдатна. Зранку я рабіла гімнастыку.

— Слухай, цёця Рэна, я ж прасіў цябе гэтай ідыёцкай гімнастыкі больш не рабіць. Ты ж ёй проста злоўжываеш. Які ў гэтым сэнс?

— А мне падабаецца, — упэўнена адказала цётка і перагарнула старонку альбома. — Мне падабаецца музыка ў эфіры. Усе старыя матывы... Было б несправядліва слухаць музыку і не рабіць практыкаванняў.

— Гэта справядліва. А цяпер выключы яе, калі ласка. Меней сумленнасці, — сказаў пляменнік. Ён крышку пахадзіў па пакоі, а потым цяжка сеў ля падваконня. Паглядзеў на парк, шукаючы сярод дрэваў сцежку, што падвяла б яго да патрэбных словаў пра ад'езд. Ён хацеў, каб яна была адзінай жанчынай у 1944 годзе, якая не сочыць за пясочным гадзіннікам чыйго-небудзь жыцця. Цяпер ён ведаў, што вымушаны паставіць перад ёй свой. Падарунак жанчыне ў запэцканых белых кедах. Жанчыне, якая збірае амерыканскія гашаныя маркі за два цэнты. Жанчыне, якая была сястрой яго маці і пісала ёй цыдулкі на картках старой «Ўолдарф Асторыі». Ці варта ёй гэта ведаць? Ці варта глядзець на дурны бліскучы пясочны гадзіннічак?

— Калі ты вось так моршчыш лоб, то выглядаеш як твая маці. Ага. Зусім як яна. Ты яе ўвогуле памятаеш, Рычард?

— Памятаю, — ён на момант задумаўся. — Яна ніколі не хадзіла. Яна заўжды бегала, а потым у якім пакоі раптам спынялася. Яшчэ яна заўжды насвіствала скрозь зубы, калі зашморгвала ў маім пакоі фіранкі. Амаль заўсёды адзін матыў. Я ўвесь час памятаў яго, пакуль быў дзіцем, але пасталеў і забыў. Потым у каледжы ў мяне быў сусед з Мэмфіса, аднойчы ён заводзіў старыя кружэлкі — штосьці з Бэсі Сміт, штосьці з Ці Гардэн, і там была адна песня, яна мяне проста агаломшыла... мелодыя, якую скрозь зубы насвіствала маці, так! Яна называлася «Не магу быць добрай у нядзелю, калі тыдзень я гарэжу спрэс». Але адзін хлопец, яго звалі Алтрыеві, наступіў у канцы семестра на кружэлку, і больш я яе ніколі не чуў. — Ён памаўчаў. — Вось і ўсё, што я памятаю, дурасць нейкая.

— Памятаеш, як яна выглядала?

— Не.

— Яна была што трэба! — цётка падперла падбароддзе худой зграбнай рукой.— Твой бацька не мог уседзець на месцы, калі маці выходзіла з пакоя. Ківаў як дурань, калі да яго звярталіся, а сам не адводзіў вачэй ад дзвярэй, з якіх яна выйшла. Ён быў дзіўны і нейкі грубы чалавек. Нічым не цікавіўся, толькі зарабляў грошы і глядзеў на тваю маці. Ну і катаў яе на той жудаснай яхце, што тады набыў. Ён надзяваў такую забаўную ангельскую матроскую шапачку. Гаварыў, дасталася ад бацькі. Твая маці заўжды яе хавала, калі яны збіраліся катацца.

— І гэта адзінае, што тады знайшлі, так? — спытаў малады чалавек. — Гэтую шапачку?

Але цётчын позірк ужо ўпаў на старонку альбома.

— О, якая прыгажосць! — сказала яна, падносячы адну марку да святла. — У яго такі мужны, валявы твар з перабітым носам. Гэта Вашынгтон.

Малады чалавек устаў.

— Вірджынія сказала на кухні, каб падавалі сняданак. Мне ўжо лепш ісці, — сказаў ён, але не выйшаў, а наблізіўся да картачнага століка і сеў. — Цёця Рэна, паслухай мяне хвілінку.

Яна падняла на яго разумны твар.

— Цёця... м-м-м... разумееш, пачалася вайна... М-м-м... Ну, ты ж бачыла ў кіначасопісах, так? Ну, чула па радыё і ўсё такое, праўда?

— Безумоўна! — фыркнула яна.

— Ну вось, я з'язджаю. Павінен. Еду сёння раніцай.

— Я ведала, што ты павінен, — сказала яна без панікі, без сентыментальнага плачу па «апошнім». Цудоўная жанчына, падумаў ён. Самая нармальная ў свеце.

Малады чалавек устаў, пакідаючы ёй свой пясочны гадзіннік без непатрэбнай далікатнасці — толькі так і правільна.

— Вірджынія будзе часта да цябе зазіраць, мілая, — сказаў ён. — І вадзіць у кіно. На наступным тыдні ў «Сатан» будзе стары фільм Філдса. Ты ж яго любіш.

Цётка таксама ўстала, але хуценька праслізнула міма яго.

— У мяне для цябе рэкамендацыйны ліст, — абвясціла яна. — Да майго прыяцеля.

Яна падышла да пісьмовага стала, не вагаючыся высунула левую верхнюю шуфляду і дастала белы канверт. Потым вярнулася да століка, дзе ляжаў альбом з маркамі, мімаходзь сунуўшы канверт пляменніку.

— Ён не запячатаны, — сказала яна. — Прачытай, калі хочаш.

Малады чалавек паглядзеў на канверт. Валявым цётчыным почыркам ён быў падпісаны нейкаму лейтэнанту Томасу Э. Кліву-малодшаму.

— Цудоўны малады чалавек, — сказала яна. — Служыць у шэсцьдзясят дзявятай. Ён прыглядзіць за табой, я нават не хвалююся, — і дадала выразна: — Я ўжо два гады таму ведала, што гэта здарыцца, і адразу падумала пра Томі. Ён будзе да цябе спагадлівы,— яна зноў павярнулася, цяпер хутчэй няўважліва, і ўжо марудней вярнулася да стала. Зноў высунула шуфляду і дастала вялікі фотаздымак у рамцы, на ім — хлопец у форме малодшага лейтэнанта ўзору 1917 года з высокім каўняром.

Хістаючыся, яна падышла да пляменніка і падала яму фатаграфію.

— Вось яго здымак, — сказала яна. — Здымак Тома Клiва.

— Трэба ісці, цёця, — сказаў малады чалавек. — Да пабачэння. Усё патрэбнае ў цябе будзе. Усё, праўда. Я табе напішу.

— Да пабачэння, мой мілы, мілы хлопча, — сказала цётка і пацалавала яго. — Абавязкова знайдзі Тома Кліва. Ён за табой прыглédзіць, пакуль ты ўладкуешся і ўсё такое.

— Так, так. Да пабачэння.

— Да пабачэння, мілы хлопча, — безуважна паўтарыла яна.

— Да пабачэння.

Ён выйшаў з пакоя і на лесвіцы ледзь не спатыкнуўся. На ніжняй пляцоўцы выцягнуў канверт і парваў напалам, яшчэ напалам і яшчэ напалам. Не ведаючы, што рабіць з абрыўкамі, засунуў іх у кішэню штаноў.

— Мілы, усё ўжо *астыла.* Яечня і ўвогуле...

— Ты можаш вадзіць яе раз на тыдзень у кіно, — сказаў ён. — Раз на тыдзень — не смяротна.

— Я ж не *супраць*... Хіба я штосьці гавару?

— Не.

Ён увайшоў у сталовы пакой.

**1944**

**Пераклаў з ангельскай Аляксей Арцёмаў**

АПАВЯДАННЕ

# DER ARME DOLMETSCHER[1]

**Курт ВОНЭГУТ**
**(1922–2007)**



Аднойчы ў 1944 годзе, калі я знаходзіўся на самай лініі фронту, пад пякельны грукат гарматаў мне паведамілі, што я прызначаны перакладчыкам (ці, калі вам так больш падабаецца, Dolmetscher'ам) для цэлага батальёна, пасля чаго мяне адразу засялілі ў дом бельгійскага бургамістра — туды не дацягваліся залпы артылерыі з лініі Зігфрыда.

Да гэтага мне ніколі не прыходзіла ў галаву, што я магу быць перакладчыкам. Але я быў прызначаны на гэтую пасаду акурат тады, калі чакаў пераезду з Францыі ў самае пекла фронту. Калі я быў студэнтам, мой сусед па пакоі ўвесь час паўтараў першае чатырохрадкоўе «Ларэляй» Генрыха Гайнэ, і так атрымалася, што я іх запомніў і меў дурасць паўтарыць яго на недазвольна блізкай адлегласці ад нашага батальённага кіраўніцтва. Палкоўнік (былы гатэльны дэтэктыў з Мобіла) спытаў свайго старшага памочніка (былы гандляр тканінамі з Ноксвіля), на якой мове гэты верш. Памочнік дачакаўся, пакуль я дамармычу «Der Gipfel des Berges foo-unk-kelt im Abendsonnenschein», і вынес прысуд:

— Здаецца, гэта нямецкая, палкоўнік.

Калі перакласці тое, што я ведаў па-нямецку, атрымаецца прыблізна так: «Не ведаю, што здарылася са мной, чаму мне так сумна. Я не магу забыць старую легенду. Халодна, робіцца цёмна, і павольна цячэ Рэйн. Горны пік ззяе, калі знікае сонца».

Палкоўнік адчуваў, што ў яго абавязкі ўваходзіць прымаць хуткія разумныя рашэнні. За вайну палкоўнік прыняў цэлы шэраг геніяльных рашэнняў, але тут, здаецца, пераўзышоў самога сябе. Прынамсі, я так лічу.

— Калі гэта нямецкая мова, што ён робіць тут? — захацеў даведацца палкоўнік. Праз дзве гадзіны наш ваенны клерк загадаў мне кінуць працаваць, бо я цяпер — батальённы перакладчык.

Неўзабаве прыйшоў загад пра перамяшчэнне. Кіраўніцтву было не да маіх заяваў пра ўласную некампетэнтнасць.

— Ты размаўляеш па-нямецку на дастатковым для нас узроўні. Мы з фрыцамі доўгіх размоваў весці не будзем, — сказаў мне старшы памочнік. — А гэта будзе твой слоўнік, — сказаў ён і паказаў на вінтоўку.

Памочнік, асноўнай крыніцай пазнання жыцця для якога быў наш палкоўнік, верыў, што амерыканская армія толькі што перамагла бельгійцаў, і цяпер я павінен пасяліцца ў бургамістра, каб мы былі ўпэўненыя, што ён не які-небудзь шпіён.

— І ўвогуле, — падвёў вынікі памочнік, — ніхто з нас, апроч цябе, па-іхнаму не шпрэхае.

У грузавіку, які вёз мяне да бургамістра, я пазнаёміўся з трыма змрочнымі пенсільванцамі — нашчадкамі нямецкіх эмігрантаў, — якія добраахвотна пайшлі ў перакладчыкі прыкладна месяц таму. Калі яны ўрэшце зразумелі, што я ім, мякка кажучы, не канкурэнт і што спадзяюся быць выгнаным з перакладчыцкай пасады цягам дваццаці чатырох гадзін, яны прасякнуліся сімпатыяй і нават паведамілі, што цяпер я называюся Dolmetscher. Яны нават пераклалі мне «Ларэляй». Цяпер у маім слоўнікавым запасе было каля сарака словаў (што пахвальна для двухгадовага дзіцяці), але ніводная іх камбінацыя не магла б забяспечыць мне нават шклянку вады.

З кожным паваротам грузавіка я задаваў новае пытанне.

— Як па-нямецку «войска»? Як мне спытаць «Дзе ванная?». Як будзе «мне дрэнна»… «добра»… «талерка»… «брат»… «чаравік»?..

Мае флегматычныя інструктары стаміліся, і адзін даў мне кніжачку, кшталту «Нямецкая мова для тых, хто ў акопах».

— Там у пачатку не хапае старонак, — сказаў мне на развітанне адзін з маіх «настаўнікаў» (я якраз злез з грузавіка ля цаглянага дома бургамістра). — Мы з іх самакруткі рабілі.

Раніца толькі пачыналася, калі я пагрукаў у дзверы бургамістра. Я адчуваў сябе акторам другога плана, які чакае выхаду на сцэну, у пустой галаве круцілася адна-адзіная фраза. Дзверы адчыніліся.

— Dolmetscher, — сказаў я.

Дзверы адчыніў сам бургамістр, высокі стары спадар у начнушцы, які адвёў мяне ў мой пакой на другім паверсе. Ён даволі гасцінна жэстыкуляваў і нешта казаў, так што час ад часу гаварыць «danke schön» падалося мне цалкам адэкватным. Я вырашыў забіць нашую размову загатоўкай: «Ich weiss nicht, was soll es bedeuten, dass ich so traurig bin» [2]. Ён бы пайшоў спаць, зразумеўшы, што яму трапіўся дасведчаны і поўны сусветнага смутку перакладчык. Як высветлілася, гэта было неабавязкова: ён сам хутка сыйшоў, каб я мог сабрацца з думкамі.

Галоўным маім скарбам у той момант была кніжачка. Я вывучаў кожную каштоўную старонку і дзівіўся, як проста ангельскія словы перакладаюцца на нямецкую. Усё, што ад мяне патрабавалася, — гэта знайсці ў левым слупку патрэбную ангельскую фразу, а пасля прачытаць бэссэнсоўны набор сімвалаў у правым. Напрыклад, «Колькі ў вас гранатамётаў?» гучала як «Віі філ грэнада ўэафэа хабэн зіі?» Выкшталцоная нямецкая мова ў фразе «Дзе вашыя танкавыя калоны?» гучала не складаней чым «Во зінт эрн панзэр шпіцэн?». Я шаптаў фразы: «Дзе вашыя гаўбіцы?», «Колькі ў вас кулямётаў?», «Здавайцеся!», «Не страляць!», «Дзе вы схавалі свой матацыкл?», «Рукі ўверх!», «З якой вы дывізіі?».

Кніжачка скончылася нечакана, а мой стан перайшоў з маніякальнага ў дэпрэсіўны. Пенсільванцы скурылі ўсю «ветлівасць», якая была ў першай палове кніжачкі, пакінуўшы мне з той ветлівасці толькі «асаблівасці рукапашнага бою».

Пакуль я ляжаў без сну, у маёй галаве разыгралася драма, у якой я мог бы паўдзельнічаць.

ПЕРАКЛАДЧЫК *(дачцэ бургамістра):* Не ведаю, што здарылася са мной, чаму мне так сумна *(абдымае яе).*

ДАЧКА БУРГАМІСТРА *(сарамліва):* Халодна, робіцца цёмна, і павольна цячэ Рэйн.

*Перакладчык бярэ яе на рукі і нясе ў свой пакой.*

ПЕРАКЛАДЧЫК *(пяшчотна):* Здавайся!

БУРГАМІСТР *(забягае з пісталетам):* Ах! Рукі ўверх!

ПЕРАКЛАДЧЫК І ДАЧКА БУРГАМІСТРА: Не страляйце!

*З кішэні бургамістра выпадае карта з дыспазіцыяй Першай амерыканскай арміі.*

ПЕРАКЛАДЧЫК *(убок, па-ангельску):* Навошта гэтаму прасаюзніцкаму бургамістру карта з дыспазіцыяй Першай амерыканскай арміі? І чаму я павінен перакладаць з нямецкай, калі ён бельгіец? *(выцягвае з-пад падушкі пісталет 45-га калібру і настаўляе на бургамістра).*

БУРГАМІСТР і ДАЧКА БУРГАМІСТРА: Не страляйце! *(бургамістр кідае пісталет, нервова ўсміхаецца).*

ПЕРАКЛАДЧЫК: З якой вы дывізіі? *(бургамістр маўчыць, да яго падыходзіць дачка, ціха плачучы. Перакладчык не пускае яе).* Дзе вы схавалі свой матацыкл? Дзе вашыя гаўбіцы? Дзе вашыя танкавыя калоны? Колькі ў вас гранатамётаў?

БУРГАМІСТР *(разумеючы сваё становішча):* Я… Я здаюся?

ДАЧКА БУРГАМІСТРА: Мне так сумна.

*Уваходзіць варта з трох пенсільванцаў, якія праходзілі ля дома і пачулі, як бургамістр і дачка бургамістра прызнаюцца ў тым, што яны фашысцкія агенты-парашутысты.*

Ёган Крыстаф Фрыдрых фон Шылер — і той не прыдумаў бы лепей, калі б мусіў карыстацца толькі словамі, якія былі ў мяне. У астатнім я не меў ніякіх шанцаў. Да таго ж, не самая прыемная штука быць перакладчыкам у снежні і нават не ведаць, як сказаць «Вясёлых Калядаў».

Я прыбраў ложак і вылез праз акно на двор.

Варта адправіла мяне ў штаб, дзе я сустрэў большую частку нашых афіцэраў. Некаторыя схіліліся над картамі, некаторыя чысцілі зброю. Атмасфера была досыць святочная. Памочнік нашага палкоўніка гуляўся з 18-дзюймавым нажом і спяваў «Are You from Dixie?»

— Халера! — закрычаў ён, убачыўшы мяне. — Гэта ж наш Шпрэхен-зі-дойч! Ну, расказвай, як там табе ў варожым доме!

— Нічога добрага, — сказаў я. — Яны размаўляюць на ніжненямецкай, а я — на верхненямецкай.

Гэта вельмі ўразіла памочніка.

— Ты занадта адукаваны для іх, так?

Ён прабегся пальцамі па лязе свайго страшэннага нажа.

— Думаю, хутка возьмем таго, хто можа размаўляць на любой нямецкай. — І дадаў: — Мы капітулявалі.

— Мы ім яшчэ пакажам, як зрабілі ў Тэнэсі, — сказаў палкоўнік, які на радзіме, у прыватнасці ў Тэнэсі, заўжды перамагаў на вучэннях. — Ты заставайся тут, хлопча. Тут нам спатрэбіцца перакладчык.

Праз дваццаць хвілін мне зноў давялося ператварыцца ў перакладчыка. Чатыры нямецкія танкі пад'ехалі да нашага штаба, і два тузіны немцаў з кулямётамі сагналі нас у кучу.

— А ну давай, скажы ім пару ласкавых, — звярнуўся да мяне палкоўнік, дзёрзкі да апошняга.

Я хуценька прабегся па сваёй кніжачцы, пакуль не знайшоў фразу, якая найлепш адлюстроўвала нашыя пачуцці:

— Не страляйце!

Нямецкі афіцэр падышоў да нас, каб паглядзець, каго злавіў. У яго руцэ была кніжачка, трохі меншая за маю. Ён спытаў:

— Дзе вашыя гаўбіцы?




[1] Der Arme Dolmetscher — бядак-перакладчык (ням.).
[2] Першыя два радкі з «Ларэляй» Г. Гайнэ: «Не ведаю, што здарылася са мной, чаму мне так сумна...».

**Пераклаў з ангельскай**
**Юрась Ускоў.**

ПУБЛІКАЦЫІ

# ЗАПАВЕТЫ ЯКУБА КОЛАСА

## ПАСЛЯЮБІЛЕЙНЫЯ РАЗВАГІ

Вера МІЦКЕВІЧ

**Мінулы год, багаты на літаратурныя юбілеі Янкі Купалы, Максіма Танка, Якуба Коласа, парадаваў шматлікімі публікацыямі, даследваннямі. Асобныя нумары рэспубліканскіх літаратурных часопісаў былі прысвечаны народным паэтам. На пачатку студзеня выйшаў з друку апошні 20-ы том Збору твораў Якуба Коласа...**

«Verba volant, scripta manent» — «Словы адлятаюць, запісанае застаецца», — казалі старажытныя рымляне. Так, напісана шмат, але некаторыя моманты ў публікацыях выклікаюць здзіўленне, недаўменне ці нават абурэнне.

Першае, што мяне ўразіла, — гэта досыць свавольнае абыходжанне з выключным па сваім змесце і магутнасці гучання публіцыстычным творам Я. Коласа «Мой запавет». У газеце «Народная Воля» ад 21.08.2012 г. у рубрыцы «Асобы» змешчаны матэрыял Георгія Чыгіра «Я прыйшоў дзеля Вас...» — грунтоўнае і цікавае інтэрв'ю, якое заканчваецца ўзятым у двукоссе тэкстам «Майго запавету». Праўда, уласна ад запавету там мала што засталося: назва і дата напісання адсутнічаюць, а па самім тэксце я налічыла каля 20 памылак... Вось такая «лыжка дзёгцю» на пасашок. Арыгінал твора знаходзіцца ў фондах музея песняра, была магчымасць удакладніць па першакрыніцы. Упершыню «Мой запавет» Я. Коласа быў надрукаваны ў газеце «Рэспубліка» ад 31.10.1992 г. на першай старонцы ў факсімільным варыянце. Можна было звярнуцца і да гэтай публікацыі...

Але ж сапраўдная кульмінацыя непавагі да выдатнага твора чакала мяне, як і ўсіх прысутных, на заключным юбілейным мерапрыемстве ў Белдзяржфілармоніі 15 снежня 2012 года, дзе ўжо са сцэны ўрачыста гучаў «Мой запавет» з такім жа мноствам памылак!

Сорамна, спадарства! На вялікі жаль, не абышлося без памылак, праўда, у значна меншай колькасці, і ў 16-ым томе апошняга Збору твораў Я. Коласа, куды быў уключаны «Мой запавет» упершыню. Гэтыя памылкі, як і іншыя, знойдзеныя ў 1-19-ым тамах, былі выпраўлены ў раздзеле «Заўважаныя памылкі і недакладнасці» ў апошнім 20-ым томе.

Што датычыць Збору твораў у 20-ці тамах — гэта прадмет асобнага даследвання. Была зроблена велізарная праца па ўкладанні, стварэнні навуковага каментара, якая вялася на працягу многіх гадоў цэлым калектывам тэксталагаў, музейшчыкаў, архівістаў, выдаўцоў, сяброў Рэдакцыйнай рады. Былі розныя думкі, спрэчныя пазіцыі, не заўсёды ўдавалася даследаваць тую ці іншую сітуацыю, ды і калектыў тэксталагаў мяняўся. І, безумоўна, памылкі будуць яшчэ знаходзіцца і ўдакладняцца. Для прыкладу: так і не была выпраўлена памылка тлумачэння значэння слова «ворчык» у кантэксце паэмы Я. Коласа «Новая зямля»: «Прывёў ён дзядзьку ў карыдорчык // (Абодвух іх трымае ворчык)». У 8-ым томе Збору (падрыхтавала тэксты і каментарыі 8-га тома Э.А.Золава) у каментарыі пададзена: «ворчык — прыстасаванне для прыпрэжкі каня ў дапамогу каранніку; барак; тут: у пераносным значэнні», у папярэдніх двух Зборах твораў — «пастронак». У кантэксце «Новай зямлі» слова «ворчык» — невялікі мяшок, торба, ад польскага worek — woreczek — мяшочак, сумка з тканіны. Сэнс тут адзіны: дзядзька Антось едзе на цягніку ў Вільню «зайцам», у «торбе з кутасамі» трымае «хабар», каб аддзячыць кандуктару, і кандуктар цудоўна пра гэта ведае. Так занатавана — звяртаю ўвагу — у прыжыццёвым! Зборы твораў класіка ў 7-тамах (т. 4, с. 496), калі сам народны паэт праглядаў паэму, рабіў заўвагі па тэкстах. Пацвярджэнне знаходзім у «Матэрыялах для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» пад рэдакцыяй М.Жыдовіч (Мінск, выд-ва БДУ, 1974, с. 35): ворак — мяшок.

Далей — публікацыя ў газеце «Комсомольская правда» ад 29 лістапада–5 снежня 2012 г. Надзеі Белахвосцік з доўгай назвай «Якуб Колас неохотно платил партийные взносы, но помогал деньгами Анне Ахматовой», дзе ёсць, на першы погляд, дробныя, але нядбайныя памылкі. У пераліку псеўданімаў Я. Коласа: КуКодесник — памылка друку, трэба — Кудесник; псеўданімы Марцін, Марцін з-за рэчкі — Я. Коласу не належаць. Цытата з тэксту: «...огромное впечатление произвело стихотворение народовольца Якубовича-Мельшина «Колос». У сапраўднасці размова ідзе пра пераклад Пятром Якубовічам-Мельшыным на расійскую мову з польскай верша «Батрак» польскай паэтэсы Марыі Канапніцкай, які ў арыгінале называецца «Wolny najmita» (гл. часопіс «Полымя», 1994, № 7, с. 245). Нарэшце, у апошнім сюжэце вядзецца размова пра ўжо шырокавядомы ліст Я. Коласа аб стане беларускай мовы, які ён прыносіў у ЦК КПБ у апошні дзень свайго жыцця. І зусім не «сложно сказать, когда оно было написано» — 25.05.1956 г., калі пазнаёміцца з дакументамі і матэрыяламі ў кнізе «Купала і Колас, вы нас гадавалі» (кніга другая, частка другая, укладальнікі В. Селяменеў, В. Скалабан, Мінск, 2012, с.194–201).


2 IV 1946 г.
Мой запавет.
Я — рыба, выкінутая на пясок. Калі-б хто захацеў, каб рыбу пакінуць жывою, то ён-ці той — дагадаўся-б зараз-жа кінуць у вядро з чыстаю, халоднаю вадою. А ту рыбу. Такіх добрых душ няма. А я і не крыўджуся: я — часовы вандроўнік, чые гадзіны адлічаны, я — той, каму пара сказаць: я — ваш нядоўгі госць!.. Надыходзіць вясна. Жыццё абуджаецца з новаю сілаю, а я так моцна звязаны з жыццём, што мне не хочацца пакідаць вас, мае сябры, мае лясы, мае лугі, мае рэчкі, мае крыніцы і чорнагаловыя баравікі!
Я прыйшоў у жыццё не для сябе самога — я прыйшоў дзеля

Вельмі хацелася б, каб такія неабходныя кожнаму творцу рысы, як этычнасць, дакладнасць, выверанасць фактаў, адказнасць за пададзеныя звесткі ў друку заставаліся галоўнымі ў іх дзейнасці

Летась пабачыла свет кніга слонімскага краязнаўцы, пісьменніка Сяргея Чыгрына «Па слядах Купалы і Коласа» (Мінск, Кнігазбор, 2012), якую складаюць літаратурна-краязнаўчыя артыкулы і вершы. Вельмі добра, што пад адну вокладку сабраны напісаныя ў розныя гады цікавыя артыкулы. Узбагачаюць кнігу раздзелы пра Уладзіслава Чаржынскага і Аляксандра Вазнясенскага. У раздзеле «Незабыўны Алег Лойка і яго згадкі пра песняроў» чытаю: «Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі [...] Жонка Якуба Коласа — Марыя Дзмітрыеўна — была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, аддана мужу». Ствараецца такое ўражанне, што Канстанцін Міхайлавіч толькі таму і ажаніўся з Марыяй Каменскай, што яна была багатай. І як жа гэта «багатая мяшчанка» пайшла замуж за простага настаўніка, сялянскага сына, які толькі год як выйшаў з турмы? Для параўнання прывяду іншыя цытаты. З перапіскі родных братоў Марыі Дзмітрыеўны Івана і Міхаіла Каменскіх, Іван піша брату ў 1911–1912 гадах: «К празднику [Вялікдня. — В.М.] купил Маруси шляпу за 8 р. и дал ей 10 р. на шитьё жакета...» (прыватны архіў). З кнігі Данілы Міцкевіча «Любіць і помніць» пра побыт сям'і на Куршчыне ў 1917-1920-х гадах: «Памятаю, як зусім знясіленая хваробай і голадам мама апусціла на падлогу школьную дошку, паклала на яе мяне і майго меншага брата Юрку і сама, зняможаная, легла з намі. Прыйшоў бацька, пабачыў нас у такім стане і заплакаў. Кінуўся ратаваць...». Такое было багацце! Так, Марыя Дзмітрыеўна была багатай — сваёю душою, светапоглядам, чуллівым сэрцам, светлымі думкамі. Дарэчы, пры жыцці сам Алег Антонавіч не падаваў гэтыя эпізоды ў друку. Тое ж датычыць яго выказванняў у кнізе С. Чыгрына «Па слядах Купалы і Коласа» пра пляменніцу Янкі Купалы Ядвігу Юліянаўну Раманоўскую. Куды цікавейшай і патрэбнай мне падаецца пошукавая праца па лініі прататыпа коласаўскай Ядвісі: знайсці яе сляды ў Польшчы, нашчадкаў, удакладніць біяграфічныя звесткі. Вядома, што Ядвіга Ігнатаўна Баранцэвіч жыла ў Слоніме, пасля пераехала ў Польшчу. У запісках Данілы Міцкевіча пазначана, што яе прозвішча па мужу — Бушынская...

У «Летапісе жыцця і творчасці Якуба Коласа», складзеным Міхасём Мушынскім (апошняе выданне 2012 года, больш чым 1120 старонак), Я. Колас «аднойчы застаўся на тыдні два» на Валожыншчыне. Адзін-два дні — яшчэ можна дапусціць, а не паўмесяца. Але далей сюжэт становіцца падобным на фантастыку: Я. Коласа ў вёсцы Палачанка наведвае і жыве побач у палатцы, вядзе з песняром размовы...Уладзімір Дубоўка. Дубоўка, які па апошнім прыгаворы быў рэабілітаваны позняй восенню 1957 года і ўпершыню за 26 гадоў прыехаў з высылкі ў Беларусь у снежні 1957-га! Дзе быў Я. Колас у той час — тлумачыць не трэба: на Вайсковых могілках. Дакументальна вядома іншае. У 1955 годзе Я. Колас вёў з У. Дубоўкам перапіску, пісаў у Пракуратуру СССР, каб хутчэй вызваліць з няволі таленавітага пісьменніка. На вялікі жаль, сустрэцца ім ужо не давялося...

«Дзе густа, а дзе пуста»... Такое ўражанне склалася ад знаёмства з кнігай «Гісторыя Пінска. Ад старажытнасці да сучаснасці» (Мінск, Вышэйшая школа, 2012), падрыхтаванай аўтарскім калектывам. Безумоўна, гэта вельмі патрэбнае выданне, у якім, як пазначана ў анатацыі, «упершыню на вялізным дакументальным матэрыяле са шматлікіх айчынных і замежных архіваў даследуецца гістарычнае аблічча горада Пінска ад старажытнага часу да сучаснасці». Зацікавіла інфармацыя пра гісторыю Палескіх чыгунак, пра грамадскае жыццё горада, перыядычныя выданні, пра перыяд Першай сусветнай вайны. Там жа жыў Я. Колас у 1912–1915 гадах, у Пінску працаваў настаўнікам, развіваўся як творца, стварыў сям'ю, прызываўся ў войска, сыходзіў з сям'ёю ў бежанства. Лагічна было б убачыць падраздзел, прысвечаны песняру, у 4-м раздзеле кнігі «Пінск у складзе Расійскай імперыі». Тым болей, што ў кнізе ёсць падраздзелы 5.5 («Палескія дні Аляксандра Блока») і 6.4 («С. Булак-Балаховіч у Пінску»). І якое ж чакала мяне здзіўленне, калі на 70 старонках 4-га раздзела адшукаўся ўсяго адзін абзац: «Свае замалёўкі аб жыцці простых пінчукоў пакінуў Якуб Колас, які ў 1912 г. жыў у Пінску і выкладаў у прыходскім вучылішчы». І далей прыведзены ўрывак з трылогіі «На ростанях» пра палешукоў. Вывады напрошваюцца самі сабой...

На двары — XXI стагоддзе, новае тысячагоддзе, свет валодае навейшымі інфармацыйнымі тэхналогіямі і магчымасцямі. Знаходзяць, ствараюць, апрацоўваюць гэтую інфармацыю далёка не механічныя робаты, а прафесійныя журналісты, навукоўцы, пісьменнікі, гісторыкі. І вельмі хацелася б, каб такія неабходныя кожнаму творцу рысы, як этычнасць, дакладнасць, выверанасць фактаў, адказнасць за пададзеныя звесткі ў друку заставаліся галоўнымі ў іх дзейнасці. У большасці сваёй сучасны чытач — абывацель, які верыць таму, што і як напісана, і не ўнікае ў дэталі і сэнс. Матэрыялы ж, пададзеныя на высокім прафесійным узроўні, даюць магчымасць чытачу граматна арыентавацца ў велізарнай сучаснай інфармацыйнай плыні.

ДРУК

# «НЕ ЗРОКАМ, А СЭРЦАМ…»

ЛеГАЛ

**Аналізуеш літаратурныя разборкі на сайтах і каментары ў сацыяльных сетках і думаеш: кранты беларускаму пісьменству, а ты яшчэ спрабуеш выстройваць нейкія пражэкты… Ніхто даўно нічога вартага не піша на гэтай сялянскай і літаратурна недаспелай мове, на якую ўжо і ў аграгарадках моршчацца… Словам, ні твораў, ні чытачоў.**

Нацыянальны ступар. Але, адсопшыся, чытаеш на тых жа сайтах і ў друкаванай перыёдыцы рэцэнзіі на новыя кнігі нашых пісьменнікаў — і наноў шызееш, бо, аказваецца, што мы на новым вітку творчага ўздыму і нарэшце дараслі да еўрапейскіх мастацкіх каштоўнасцяў! І ў Тані — талент, і ў Мані — дар, і Валодзя — геній, і Альгерд — прарок…

Адкуль раптам такі кантраст?! Я вам скажу: ён з аднаго месца — з-пад пыльнай клавіятуры. Менавіта там ашываецца заразны вірус, які з цягам часу дарэшты забівае творчую патэнцыю літаратараў. За кампутарам (ці наўтбукам) чалавек ужо цалкам не аддае сябе мастацкаму тварэнню (суперажыванню пражытага — цяжкай і нярэдка пакутнай душэўнай і духоўнай працы), а ўскладвае надзеі на дапамогу штучнага электроннага інтэлекту (і гэта робіцца ўжо на падсвядомым узроўні і часам нават незалежна ад нашых намаганняў)…

На гэтым фронце ўсё трошкі іншае — і пісьменнік, і тэкст, і чытач. Усе яны эвалюцыянавалі ў бок сучасных нанатэхналогій, пакінуўшы не паспяваючую следам за імі прыроду сутнаснага зямнога чалавека (яго тонкія пачуцці, перажыванні, боль і слёзы, што робіцца ўсё больш і часцей абыякавымі, незразумелымі і непрымальнымі — проста лішнімі — для машыннага мыслення). Пара б ужо літаратарам, літаратуразнаўцам і крытыкам сабрацца за круглым сталом ды сур'ёзна і грунтоўна, а не похапкам і ў раздрай, абмеркаваць гэтую праблему — развіццё сучаснай беларускай нацыянальнай літаратуры. А самае істотнае з таго апублікаваць у літаратурнай перыёдыцы для шырокага кола чытачоў і падвядзення нейкай, няхай і няпэўнай і часовай, рысы…

Гэта вось такая набалелая запеўка для чарговага агляду «Дзеяслова», у якім, дарэчы, ёсць што пачытаць і адзначыць.

Любоў, спагада, развага, сповядзь і спадзяванне ў лепшых радках вершаў вядомага паэта **Васіля Зуёнка.** Даніна душы ўсяму паміраючаму і смяротнаму… Васіль Васільевіч, як сёння модна казаць, не такі раскручаны (ды проста ніколькі не раскручаны), як, скажам, яго калегі па пакаленню Барадулін, Бураўкін ці Гілевіч, аднак вядомы выбітнымі сваімі творамі, пачынаючы ад помнага многімі: *«Ніхто не пачуў: яблык упаў дасвеццем — ля Халопеніч, на Беларусі. Ніхто не пачуў — ні людзі, ні травы, ні вецер… Ніхто, а свет зямны здрыгануўся…».* Новыя вершы паэта, як лірычнае (а значыць, шчырае) апраўданне пражытага — не перад людзьмі, умоўнымі чытачамі, а перад той таямнічай апошняй іпастассю, што ёсць тут над усім сутнасным…

*Гары, згарай, мая душа.*
*А можа, покуль змрок агорне, —*
*Няхай не з зорнага каўша*
*Святло пальецца — хай спярша*
*Камусьці ў беспрасветнай зборні*
*На кропельку — а стане зорней…*




Працягнута друкаванне рамана «Грэх» **Алеся Усені.** Можна было б, у пэўным сэнсе, лічыць першую палову рамана пашыранымі літаратурнымі ілюстрацыямі да яго глыбокай гістарычнай архіўнай канвы, калі б не ідэйная лінія, якая, па аўтарскай прадмове бачна, нейкім чынам звязваная з эпохай (напоўненую цяжкай і няроўнай па сіле барацьбой іудзеяў з Рымскай імперыяй за суверэннасць Ізраіля, якая, на жаль, абярнулася поўнай паразай яўрэяў і адцягнула іх чаканую мэту дзяржаўнасці ажно да 1948 года) з сучаснымі рэаліямі жыцця ўжо ў другой кніжцы рамана… Вельмі просты і празрысты стыль пісьма дае нечаканы эфект — ён хвалюе непрадбачанымі падзеямі і ўчынкамі герояў і зацягвае ў хранікальна-таямнічы інтрыгуючы сюжэтны калейдаскоп аўтарскага стрыманага расповеду…

Рэдкая публікацыя вершаў вядомага паэта **Алега Мінкіна,** які жыве ў Вільні, зарабляючы гастарбайтарствам на будоўлях Масквы, вылучаецца адметным лірызмам, душэўнай танальнасцю і ўнутранай мелодыкай. І хоць цяперашнія яго вершы «грашаць» палітычнай і сацыяльнай публіцыстычнасцю, але, як заўжды, іх празаічны змест укладзены ў шыкоўна-каларытную нацыянальную абгортку… Вобраз сучаснага беларуса Кукабакі прыцягнуты да хаямаўскага хмельна-лірычнага ўвасаблення… Такім чынам, можна лічыць, што па часе адбыўся пераход паэта ад стварэння самотна-замілаваных, пэўным чынам, настальгічных вобразаў беларускай нацыянальнай гісторыі да вобразаў сучасных, поўных скептыцызму, іроніі і паблажліва-крытычнай прыземленасці… Вось узор сінтэзу класічнага (кніжнага) з некласічным (грамадзянска-патрыятычным) лірычным вобразам сучаснага А. Мінкіна ў вершы «Васілёк»:

*Стракочуць зычна конікі ля ганку*
*«Салёна прыгажосці», дзе ад ранку*
*Дзяўчына з вёскі беларускай Петракі*
*Наколкі робіць і праколвае пупкі.*
*А недзе там лагодны ветрык вее,*
*Сінее васілёк і жыта палавее…*
*І ў забыцці выколвае рука*
*Замест пачвары кветку васілька.*

Прадоўжана публікацыя апавяданняў **Віктара Казько,** напісаных у эксперыментальным жанры, блізкім па стылі да антыўтопіі. Шматмерныя і неадназначныя вобразы Моці, утрыраваныя і гіпербалізаваныя, пераасэнсоўваюцца і дадумваюцца чытачом па ходу чытання, пісьменнік толькі робіць пэўныя намёкі, падказвае арыенціры, накіроўваючы ў правільны бок, каб неўпрыкмет вывесці на правільны шлях — у нашу сучасную па-свойму шчаслівую электаральную Беларусь… Складнікі расповедаў — іронія ды гумар — тут сябе апраўдваюць.

**Васіль Макарэвіч** вядомы як адмысловы майстар вершаскладання (асабліва вызначыўся ў паэмах) — адбойная рытміка, віртуозная рыфмоўка (напорысты публіцыстычны стыль паводле Маякоўскага). Яго творы вартыя прачытання найперш маладымі паэтамі, якім ёсць у чым папрактыкавацца ў Васіля Сцяпанавіча.

Пульс часу адчувальны, гістарычная падаплёка непрыхаваная, патрыятычны напал відавочны… Паэзія таксама прысутная. Варта згадаць і не так даўно апублікаваны ў «Літаратурнай Беларусі» яго твор, прысвечаны памяці Васіля Быкава. Гэтыя публікацыі ў незалежнай літаратурнай перыёдыцы гавораць пра тое, што ў паэта ёсць праблемы з цэнзурай у дзяржаўных літаратурных выданнях, як у сябра «дзяржаўнага» СПБ… Ведома, такое там не надрукуюць:

*З нафтавымі*
*Шчодрымі ўсплёскамі*
*Дый гадоўлі нашай валацугамі*
*Прымяраюць знахары крамлёўскія*
*Дзеля нас аброць тугую*
*З цугглямі.*
*З вышынёй*
*Паднебнай і бяздоннаю,*
*Шэпчам мы заклён святы з замовамі –*
*Толькі б дома нам не быць бяздомнымі,*
*Толькі б з мовай нам не стаць*
*Бязмоўнымі!*

Вылаўленыя з жыцця і тонка падмастачаныя для літаратуры вясёлыя кароткія зацемы **Уладзіміра Сіўчыкава.** Не ўсяму паверыш, але ўсяму пасміхнешся.

Вершы стала замкнёнага ў сабе паэта, які не заяўляўся раней з публікацыямі, але ўрэшце з'явіўся ў нашай паэзіі ў паважлівым узросце з важкім мастацкім набыткам. Гэта я пра **Валеры Дубоўскага.** Тэмы ў паэта спрадвечныя:

*Ці то канчатак мы,*
*Ці то зачын?*
*Здалёку мы,*
*З апошніх далячынь.*

Друкуецца дзіўная навэла **Паліны Качатковай** «Люстэркі», застаючыся, як у маім прыватным выпадку, без уражлівых адлюстраванняў прачытанага…

Адметная лірыка **Ганны Аўчыннікавай,** але даволі статычная ў змястоўным плане.

*Я прымаю шаленства і грым.*
*У тэатры падзелены ролі:*
*Ты ніколі не будзеш маім,*
*Я тваёю не буду ніколі.*

(Нібы ў таго Вазнясенскага: *«Я тебя никогда не увижу. Ты меня никогда не забудешь».)* Аднак у паасобных вершах паэтка самасная і таленавітая (адзін з такіх яе радкоў я скарыстаў для назвы агляду).

Запамінаюцца мудрыя расповеды з афарыстычнымі высновамі ў публікацыі абразкоў **Віктара Сазонава.**

У традыцыйным рэчышчы напісаны вершы **Міколы Кандратава.** Лепшыя з іх вылучаюцца сталасцю думкі і тонкай далікатнасцю вычуванняў, шырокім наборам выяўленчых сродкаў. Але бывае, што *«сядае слова»* — і *«свет без паэтаў псее»*… Гэта паказвае на аўтарскую няўважлівасць пры канчатковым рэдагаванні ўласных тэкстаў. Але ёсць вершы, якія гавораць пра даволі высокі паэтычны патэнцыял аўтара…

Нічога для сябе новага і асаблівага не вычытаў я ў зацемках маладога дэбютанта часопіса **Яўгена Мартыновіча.** Аднак звярнуў увагу на яго творчае жаданне шукаць (і зрэдку знаходзіць) свой стыль і сваю літаратурную форму. Удачы!

А вось дэбют **Кірыла Мяцеліцы** — шматабяцальная заяўка на паэзію. Яго арыгінальнасць і адначасная прастасць даюць ёй (паэзіі) правы на жыццё, прынамсі, сучаснае.

Публікуецца палітычна-займальны раман украінскага пісьменніка **Віктара Баранава** ў перакладзе Валерыя Стралко. Твор з усімі сучаснымі праявамі лірыкі і агрэсіі, патрыятызму і цынізму. Падзеі адбываюцца ва Украіне, але для чытача не было б дзіўным, калі б аўтар перанёс іх дзеянне ў іншыя краіны былога СССР…

Друкуецца вельмі цікавая і нязмушаная (разгорнутая) гутарка **Зінаіды Гімпелевіч** з **Васілём Быкавым,** якая шырэй прыадкрывае характар гэтага вялікага нацыянальнага чалавека і творцы. Асабліва карысным будзе чытанне для маладых літаратараў. Да прыкладу, на цікавае пытанне Гімпелевіч пра магчымы пераход Быкава на расійскую мову пры такім цяжкім стане беларускага грамадства і самой мовы нацыі, каб займець у Расіі шырокага чытача, Васіль Уладзіміравіч адказаў так: *«Я ніколі гэтага не зраблю. Канечне, мая расійская цалкам адпавядае таму, каб на ёй пісаць. Яна палепшылася дзякуючы маёй перакладніцкай практыцы. Але навошта мне гэта рабіць? Дзеля чаго? Я лічыў бы такі «пераход» жахлівай здрадай у адносінах да майго роднага слова і, канечне, у першую чаргу да сябе самога».*

Публікацыя артыкула **Міколы Нікалаева** «Першы японец у Савецкай Беларусі» разгортвае досвед і светапогляд беларусаў на сваю гісторыю — далей на Усход…

Пра ВКЛ і бітву з татарамі ля Сіняй Вады, што ў цяперашняй Украіне, піша **Мікола Ліннік.** Сёлета нашы паўднёвыя браты святкавалі 650-годдзе Вялікай бітвы.

Займальнае эсэ пра старыя рэчы друкуе **Міхась Булавацкі.**

Трошкі разбэрсаныя (несабраныя) урывачныя запісы пра Беласточчыну і «Беларускі трыялог» на радзіме Сакрата Яновіча ў Крынках публікуе мастак і эсэіст з Берліну **Алесь Тарановіч.**

Вядомы крытык **Сяргей Кавалёў** разважае над страчаным праектам пакалення драматургаў, што ядналіся ў «Бум-Бам-Ліце».

Друкуецца суплёт ужо вядомых у інтэрнэт-прасторы рэцэнзій на кнігі шортлістэраў прэміі Гедройца.

**Генрых Далідовіч** піша пра творчы плён вядомага пісьменніка, паэта і эсэіста Алеся Пашкевіча. Ёсць вельмі трапныя і раней не заўважаныя характарыстыкі і пазнакі, якія варта ведаць чытачам пры знаёмстве з літаратурным набыткам і жыццёвай планідай гэтага адметнага творцы.

Аўтар амаль прачытанага вамі агляду **(Леанід Галубовіч)** разважае над спробай літаратараў Гарадзеншчыны выдаваць свой штогодні альманах «Новы замак», над удачамі і хібамі першага незалежнага «бліна» ды параўнальным аналізам яго з берасцейскім альманахам «Жырандоль».

Завяршае публікацыі рубрыка **«Дзеяпіс»** з кароткімі анатацыямі новых кніжных выданняў.

Што ж, лета выдаецца гарачым. Пры вольным часе ад спёкі няблага схавацца ў зацененым месцы з чарговым нумарам «Дзеяслова». Я ўпэўнены, што вычуванне абгаворанага вышэй *«граху»* вас ахалодзіць, а лірычны *«гастарбайтар»* ацверазіць і не давядзе да дрымоты… Душэўнай гармоніі!

«КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА»

# АБРАНЕЦ ЛЁСУ, АБО «БЕГ ПА САМААДЧУВАННІ»

**Ходзяць чуткі, што ў найноўшай беларускай паэзіі ёсць два самыя прыгожыя і самыя запамінальныя хлопцы (якія, да ўсяго, яшчэ і лепшыя сябры) — Анатоль Івашчанка і Усевалад Сцебурака.**




Хто не верыць — палазьце ў інтэрнэце ў сацыяльных сетках, каб пераканацца ў гэтым. Гаворка вядзецца не толькі пра знешняе, але і ўнутранае. Звернемся да новай кнігі аднаго з вышэй згаданых творцаў — Усевалада Сцебуракі.

*Ніхто не мае права жыць*
*з Паэтам,*
*кахаць, пакутаваць і раўнаваць яго*
*не тыя дні, калі б ён дбаў пра гэта,*
*не той напой, які б ён піў нагбом.*

Чытаючы гэтыя радкі, якія належаць аднаму з самых трагічных і экстравагантных паэтаў нашай літаратуры ХХ стагоддзя — Анатолю Сысу, міжволі пачынаеш шукаць творцаў, што адпавядаюць апісанаму ім вобразу «вольнага мастака», у дні сённяшнім, у стагоддзі ХХІ-м. І знаходзіш.

Вось, прыкладам, паэт, празаік, блогер Усевалад Сцебурака. Любы літаратурны рэдактар (а, як вядома, у кожнай прафесійнай супольнасці ёсць свае сакрэты і адмысловыя азначэнні толькі «для сваіх»), сказаў бы: «Гэта той выпадак, калі паэт мае талент ад Бога, прычым прыродных здольнасцей настолькі багата, што творца можа нават не азадачвацца працаваць над сабой». Бываюць улюбёнцы лёсу, для якіх лічбы ў вядомым афарызме: «Поспех — гэта 1% таленту і 99% працы», мяняюцца месцамі.

У. Сцебураку шэраг самых розных заняткаў і захапленняў (прыкладам, прафесійны тамада або прыгажун, чыё фота трапляе на першыя палосы газет або глянцавую вокладку часопіса) ніякім чынам не замінае займацца сур'ёзнай паэзіяй. Бо здаровы эгацэнтрызм толькі становіцца адбіткам на вобразе лірычнага героя ягоных вершаў. А гістарычная адукацыя дапамагае аўтару ўпісацца ў нацыянальны кантэкст.

Узор таму — другая кніга Усевалада, якая нядаўна пабачыла свет у серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

І калі творца піша ў вершы «Пакрыўджанай Музе»:

*Ты крыўдзісься — я не пішу*
*табе вершаў,*
*Хоць, зрэшты, умею.*
*А ведаеш, я вызнаю цябе першай,*
*І ў вершах нямею.*

Як можна на такое нязмушанае паэтычнае маўленне і тонкі камплімент адначасна і субяседніцы, і самому сабе, пакрыўдзіцца? Харызматычнасць і ўменне быць асобай медыйнай — якасці, якіх многім моцна таленавітым творцам не стае. А ў нашага сённяшняга героя гэтага — з лішкам.

У новую кнігу ўвайшлі вершы (у тым ліку асобныя творы з папярэдняга зборніка «Крушня») і некалькі перакладаў А. Вазнясенскага) і празаічныя зацемкі, напісаныя цягам апошніх гадоў.

І на гэтых 96-ці старонках можна знайсці гарадскія («Здарова, мой горад!») і вясковыя («Восень — бурштын і мёд») пейзажы, філасофскую («Давай падлічым pro et contra») і сацыяльную («Зьмітру Дашкевічу да 31-га дня народзінаў») лірыку, не кажучы ўжо пра вечную тэму кахання або кароткія рыфмаваныя гісторыі з жыцця гараджаніна. І нават аповед пра «пакаленьне last» замест пасляслоўя. І выслоўі-«гемаркі» кшталту «Паміраючы, упэўніцеся, што вашае жыццё скончанае». Тут ёсць калі не ўсё, то многае, што дапаможа нам болей дазнацца пра У. Сцебураку — як пра асобу і як пра паэта.

*Распушчаецца цукар у каве,*
*сіняй хваляю плавае дым.*
*І аднолькавы прысмак гаркавы —*
*і ў душы, і ў кубку маім.*

*І паколваюць дробязі лёсу —*
*крошкі хлебныя на прасьціне,*
*і падносіць ізноў папяросу*
*цень да вуснаў на гладкай сьцяне.*

*І вісіць верасьнёўская поўня*
*ціхім шыбеньнікам нябёс.*
*Я б пакутную зьняў, ды няроўня —*
*не дарос.*

На вокладцы кнігі «Бег па самаадчуванні» — чырвоная мішэнь. Ці пацэліць Усевалад Сцебурака ў чытацкія сэрцы? Паглядзім. Але ў самы яблычак паэзіі відавочна патрапіў.

**Віка Трэнас**

# ВЫСАКАРОДНЫ РЫЦАР НАЙНОЎШАЙ ПАЭЗІІ

**Хто сказаў, што ў Беларусі няма сапраўдных мужчын — галантных, адукаваных і высокаінтэлектуальных? Магчыма, часы рыцарства і засталіся ў Сярэднявеччы, дый і джэнтльменства, можа, не ў модзе сучасных маладзёнаў.**

Але ў беларускай паэзіі пакалення трыццацігадовых высакародны рыцар, сімпатычны ва ўсіх адносінах, дакладна ёсць — Анатоль Івашчанка.

(Рэмарка: дзяўчаты, не спакушайцеся — Прыўкрасная Дама ў нашага творцы, як і трое цудоўных дзетак, ужо маюцца. Аднак ніхто не замінае чытачам і чытачкам адчуць смак паэзіі, надрукаванай у новай кнізе Анатоля, што выйшла ў серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.)




«Хай так» — так называецца другі паэтычны зборнік спадара Івашчанкі, куды ўвайшлі вершы, напісаныя цягам апошніх сямі гадоў. І творы ў выданні падзеленыя на сем раздзелаў. Выпадковасць ці вера ў магію лічбаў? Варта было б запытацца ў аўтара.

Творы ў рыфму і верлібры, каверы і пераклады, шэраг прысвячэнняў калегам-сябрам-сучаснікам і нават «незавершаныя вершы» (недапісанае, але вартае апублікавання) — многае ўвайшло ў гэтую кнігу. Ад кранальных паэтычных аповедаў пра дарагіх і блізкіх аўтару людзей — да тваяў вострасацыяльнай тэматыкі. Кожны знойдзе тут нешта адметнае для сябе.

***

*кнігу, што дасталася*
*ў спадчыну,*
*паклаў у кішэнь*
*гаспадар яе даўно спачыў*
*ён руплівa збіраў сваю вялізную*
*бібліятэку*
*недарма?..*

**Віка Трэнас**

# «У НОЧЫ — СВАЯ ЛОГІКА»

**Віктар Марціновіч з яго раманам «Сфагнум» (серыя «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў) працягвае традыцыі Яна Баршчэўскага і Юрыя Станкевіча.**




Ён даўно, ужо каторы год, прыглядаецца да міфаў і архетыпаў як сродкаў вытлумачэння ірацыянальнай рэальнасці цяперашняй Беларусі. Гэта відаць з яго публіцыстыкі, дзе інгрэдыенты — з аднаго боку, міфалогія, з другога — кавалкі заходняга сацыялагічна-філасофскага мыслення.

Раман «Сфагнум» (сфагнум — мох без каранёў, насення, кветак, пладоў) таксама напісаны праз гэтую, абраную аўтарам як вытлумачальны інструмент, прызму.

Раман злучае такіх, здавалася б, розных і разначасавых беларускіх пісьменнікаў, як Ян Баршчэўскі («Шляхціц Завальня») ды Юры Станкевіч («Любіць ноч — права пацукоў»). І гэтым замацоўвае тэндэнцыю, якую можна назваць тыпова беларускай, тутэйшай.

Чаму Баршчэўскі і Станкевіч, а не Іван Мележ з яго «Людзьмі на балоце»? Мележ — «меліяратар». А, як паказала практыка, трохі балатоў мо' і асушылі, дык балаты сышлі яшчэ глыбей. Глыбей — у душы, дзе меліяраваць не так лёгка. А Баршчэўскі і Станкевіч у тых балотах шчыруюць.

В. Марціновіч (следам, дарэчы, за літаратуразнаўцам Пятром Васючэнкам з яго «вокам тайфуна»), адлюстроўваючы рэальнасць публіцыстычна і потым рэзюмуючы яе ж пamaстацку, кажа: вы думалі, яно ўсё знікла? балота цяпер у нас, яно жывое, мы носім у сабе «сфагнум — душу балота»; тысячагадовая меліярацыя ляснула як праект; балота — гэта тое, што не вытлумачыш, гэта метафара невытлумачальнасці душы; нарэшце, «у ночы — свая логіка».

Ян Баршчэўскі яшчэ ў XIX стагоддзі паказваў дакладна такія ж карцінкі:

*«Тамаш падышоў да гаспадара, і калі той глядзеў на яго як непрытомны, пачаў казаць чарадзейныя словы. І тут можна было ўбачыць яшчэ страшнейшае відовішча: з усіх адтулін з галавы пана суддзі выляталі пухіры накшталт мыльных бурбалак і, лопаючыся пад столлю, пераменіліся ў жахлівых пачвараў — тут і крылатыя гадзюкі, і цмокі, і іншая брыдота, падобная да спарахнелых шкілетаў. Усё гэтае страхоцце лётала над галовамі, на падлогу падалі косці і галовы нябожчыкаў. Ад жаху ўсе самі нагадвалі трупаў, што паўставалі з магіл. Нарэшце Тамаш махнуў рукою: усе тыя гадзюкі, цмокі і шкілеты зніклі — і ён сам выйшаў за дзверы, пакінуўшы гаспадара і гасцей анямелымі ад страху».*

Аблічча «тыпова беларускай тэндэнцыі» ў літаратуры (і літаратуразнаўстве ж таксама), такое: ёсць бяспечны цэнтр (амаль Axis Mundi), у ім чалавек, навокал канцэнтрычна, як на вадзе, разыходзяцца колы хаосу, там ёсць жыццёвая «мана», па яе трэба туды ныраць і прыносіць.

У Баршчэўскага з цэнтра, з хаты, дзе сядзіць апавядальнік, людзі разыходзяцца ў думках, слухаючы аповеды. У Станкевіча (у якога і балота — сімвалічнае) той цэнтр разгайданы, але найчасцей месціцца ў самым чалавеку (такая спецыфіка аўтара — наяўнасць самотніка героя), які змяшчае цэнтр там, дзе знаходзіцца сам.

Дзе ў Баршчэўскага цэнтр па гэты бок (езуцкая адукацыя), дзе ў Станкевіча цэнтр перасоўны — там у Марціновіча цэнтраў два.

Хата ў паўжылой вёсцы Буда Глускага раёна — і выспа з дубам на камянях пасярод балота на траціну Глускага раёна.

І абодва яны функцыянуюць як мае быць! Хата стаіць пасярод «мінска-маскоўскага» хаосу, выспа — пасярод магічнага хаосу. І туды, і туды людзі едзяць па нешта важнае, хоць і рознае.

Можна яшчэ дадаць, што ў Марціновіча галоўны герой — Шульга — усё ж больш «станкевіцкі». Праз яго набываюць абрысы важныя «ідэалагічныя» рэчы (ён распавядае пра традыцыі замыкання хатаў, ён тлумачыць матывацыю вяскоўцаў, ён праяўляе не выпадковыя здольнасці ў ключавых «магічных» сітуацыях). Хоць менавіта наяўнасць гэтага героя, Шульгі, і зніжае даставернасць рамана «Сфагнум» да працэнтаў 70-80-і.

Бо ўсё іншае ёсць, тут маем — а пра такіх герояў не чулі. Але менавіта такі герой і злучае ўсю фрагментаваную рэальнасць (мянты, скарбы, балота, маскава, чужынцы, савок, чараўнікі) у адзіны наратыў, фактычна ствараe канву рамана. І гэты момант не можа не быць адзначаны: без такога героя ўсё гэта працягне заставацца фрагментаваным.

Такі герой — і ёсць той Сфагнум. Бадзяжнік-трыкстар з памяццю. Ён і ёсць душа балота і яго цэнтр. Кацігарошак беларускіх казак.

**Алесь Мікус**

## ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

### САМЫЯ-САМЫЯ...

Рассыпны набор з драўляных літар быў вядомы ў Індыі яшчэ за шмат стагоддзяў да Гутэнберга. А гліняныя літары ўжываліся ў Кітаі яшчэ ў XIII стагоддзі.

* * *

Самая вялікая ў свеце кніга знаходзіцца ў адным з музеяў Амстэрдама. Яна называецца «Збор марскіх правілаў». Вышыня кнігі больш сярэдняга чалавека, шырыня — 1 метр, таўшчыня — каля паўметра.

* * *

Самай цяжкай у свеце кнігай лічыцца геаграфічны атлас, які захоўваецца ў Брытанскім музеі ў Лондане. Атлас мае ў вышыню больш аднаго метра і важыць 320 кілаграмаў.

* * *

Адна з самых незвычайных у свеце кніг — гэта «Боская камедыя» Дантэ, напісаная на лісце паперы памерам 80 на 60 см бенедыктынскім манахам Габрыэлем Чэлані. Усе 14000 вершаў можна лёгка прачытаць няўзброеным вокам, а калі паглядзець на ліст з адлегласці, то бачыш маляўнічую карту Італіі. На гэтую працу Чылані патраціў чатыры гады.

* * *

Дванаццаць самых маленькіх кніг свету змяшчаюцца ў… адной сталовай лыжцы. Сярод іх ёсць мініяцюрнае выданне Карана, слоўнік ангельскай мовы на 12 тысяч слоў і Канстытуцыя Францыі.

* * *

Самай дарагой кнігай на свеце ў наш час лічаць унікальны «Апакаліпсіс», выдадзены французам Жозэфам Форы. Гэтая кніга ацэнена ў 100 мільёнаў «старых» франкаў. Яна выстаўлена ў Музеі сучаснага мастацтва ў Парыжы.

* * *

Італьянец Рыа Казэллі збірае сусветную калекцыю самых сумных кніг. У ёй каля 10 тысяч тамоў. Адзін італьянскі паэт-няўдачнік, даведаўшыся, што ўсе яго зборнікі знаходзяцца ў Казэллі, ледзь не стаў самагубцам.

* * *

«Адзіныя і найглыбокія сакрэты медыцынскага мастацтва» — такую назву мела тоўстая, у 100 старонак, кніга, знойдзеная запячатанай сярод рэчаў славутага галандскага доктара Германа Бурхавэ пасля яго смерці ў 1738 годзе. Кніга была прададзена на аўкцыёне за 10 тысяч даляраў золатам. Пасля таго, як пячатка была зламана, выявілася, што старонкі не былі… чыстымі. Толькі на тытульным лісце меўся надпіс: «Трымай галаву ў холадзе, ногі ў цяпле, і ты зробіш бедняком лепшага лекара».

### МАЛА ХТО ВЕДАЕ...

Мала хто ведае, што Адам Міцкевіч быў не толькі паэтам, але і празаікам-фантастам. І зазірнуў і ў наш «тэлескамічны» час. У рамане «Гісторыя будучыні» ён пісаў пра акустычныя прыборы, з дапамогай якіх, седзячы ля каміна, можна слухаць канцэрты з далёкага горада, а таксама пра механізмы, якія дапамагаюць насельнікам Зямлі падтрымліваць сувязь з істотамі, якія насяляюць іншыя планеты…

* * *

Бальзак, пачынаючы працаваць над новым творам, замыкаўся ў пакоі на адзін-два месяцы і шчыльна зачыняў аканіцы, каб праз іх не праходзіла святло. Пісаў ён пад свечкамі, апрануты ў халат, па 18 гадзінаў штодня!

* * *

Несправядліва лёс здаўна ставіўся да многіх пісьменнікаў. Сярод іх — ангельскі празаік XVI–XVII стагоддзяў Джон Стоў, які на схіле гадоў патраціў у страшную галечу. Ангельскі ўрад выдаў адмысловы ўказ, які абвяшчаў: «З прычыны таго, што Стоў патраціў сорак пяць гадоў на збіранне матэрыялаў для гісторыі Англіі і дванаццаць на апісанне гарадоў Лондана і Вестмінстара, мы даём яму наш міласцівы і каралеўскі дазвол прасіць літасціню ў нашых падданых».

* * *



Жуль Верн марнаваў шмат гадзінаў у дзень на вывучэнне навуковай літаратуры, выпісваючы цікавыя для яго факты на адмысловыя карткі. У яго картатэцы было больш за 20 тысячаў такіх запісаў. А што б ён рабіў у нашую эпоху інтэрнэту?

* * *

У «Рабінзона Крузэ» ёсць працяг. У ім Рабінзон ізноў трапляе ў караблекрушэнне і змушаны дабірацца ў Еўропу праз усю Расію. Восем месяцаў ён, зімой, жыве і чакае цяпла ў Табольску. У Расіі гэты раман не выдаваўся з 1935 года. Асцерагаліся алюзій на сталінскія лагеры?

* * *

Стваральніца знакамітага рамана «Авадзень» Этэль Ліліян Войніч была і кампазітарам, а свае музычныя творы лічыла больш значнымі, чым літаратурныя.

* * *



Жан Жак Русо быў аўтарам музычнага слоўніка і напісаў камічную оперу «Вясковы вядзьмак», якая стала родапачынальніцай французскіх опервадэвіляў і якая пратрымалася на французскай опернай сцэне больш за 60 гадоў.

* * *

Вальтэр адначасова пісаў некалькі твораў. Сядаючы да працоўнага стала, ён, у залежнасці ад настрою, браў рукапіс і працягваў над ім працаваць.

*Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў Newsru.ua, novostiliteratury.ru, РИА Новости і Deutsche Welle.*

---

КНІГАТЭРАПІЯ

## КНІГІ — ЛЕКІ СУПРАЦЬ СТРЭСУ

**Спецыялісты з Оксфарда высветлілі, што чытанне з'яўляецца лепшым спосабам пазбавіцца ад стрэсавага стану.**

У выніку шматлікіх даследаў навукоўцы-медыкі прыйшлі да высновы, што менавіта чытанне аказвае самы хуткі эфект на арганізм, апярэджваючы дзеянне лёгкага шпацыру, праслухоўвання любімай музыкі, чаявання ці нават прыёму алкагольных напояў.

Добраахвотнікам, якія прынялі ўдзел у навуковым даследаванні, давялося выконваць розныя практыкаванні, здольныя выклікаць у іх стрэс. А вось метады рэлаксацыі ўдзельнікі эксперыменту выбіралі самі.

Як паказала магнітна-рэзанансное даследаванне, у галаўным мозгу людзей, якія чыталі пра водары, смачныя стравы ці маляўнічыя ландшафты, пачыналі актывізавацца ўчасткі, адказныя за ўспрыманне. Прычым практычна гэтак жа, як і ў рэальнасці. Падчас кампутарных гульняў ці прагляду тэлевізара падобнага эфекту спецыялісты не назіралі.

Пры чытанні ўзровень стрэсу змяншаўся ў сярэднім на 68%, праз шэсць хвілінаў паслабляліся цягліцы і стабілізавалася сэрцабіцце.

Праслухоўванне музычных кампазіцый супакойвала ў 61% выпадкаў. Ужыванне гарбаты ці кавы змяншала стрэс у 54% удзельнікаў, а шпацыр — у 42%.

Эксперты таксама адзначылі, што выбар літаратурнага жанру ніяк не ўплывае на эфектыўнасць чытання. Усё, што неабходна для пераадолення наступстваў перажытага стрэсу, — зразумець сюжэт апавядання і цалкам у яго «пагрузіцца».

## НЯМЕЦКІЯ БІБЛІЯТЭКІ ДЛЯ СЛЯПЫХ

**Бібліятэкі для сляпых у Нямеччыне прапануюць чытачам аўдыёкнігі на CD, запісаныя ў адмысловым DAISY-фармаце.**

Іх прайграваюць і звычайныя MP3-плэеры, аднак усё ж зручней карыстацца DAISY-плэерамі, якія распазнаюць у файлах шматузроўневую навігацыю і маюць магчымасць выбару: агучванне аўдыёкнігі дыктарам ці праграмным маўленчым сінтэзатарам.

Каб запісацца ў бібліятэку, жыхару Нямеччыны досыць падаць адміністрацыі пасведчанне сляпога або медыцынскую даведку пра немагчымасць чытаць стандартныя друкаваныя выданні, а таксама аплаціць аднакратны рэгістрацыйны збор (сума складае 30–50 еўра, дзяржава выдае кожнаму грамадзяніну ФРГ, які слаба бачыць, штомесячную дапамогу ў памеры 567 еўра).

Кнігі з бібліятэкі заказваюцца па аўдыякаталогу, які рассылаецца на CD; афармiць замову можна па тэлефоне, e-mail ці на афіцыйных сайтах. Пасля гэтага бібліятэка адпраўляе кнігі па пошце (таксама на CD), і праз 4–6 тыдняў чытач павінен іх вярнуць. Бібліятэчны фонд падобных установаў досыць шырокі — так, у Баварскай бібліятэцы для людзей з аслабленым зрокам захоўваецца каля 8000 твораў, а ў цэлым каталог DAISY-запісаў аўдыёкніг, складзены з фонду бібліятэк Нямеччыны, Швейцарыі і Аўстрыі, уключае 30000 розных файлаў. Паказальна, што калі кнігі, якую замовіў чытач, няма ў бібліятэцы, у якой ён зарэгістраваны, аўдыёзапіс могуць даслаць з іншага фонду. Дарэчы, начытка аўдыёкніг вядзецца пераважна супрацоўнікамі бібліятэк; так, Баварская бібліятэка мае 3 студыі, у якіх працуе каля 20 чытальнікаў.

## ПРЭМІІ

### ДЗЯРЖПРЭМІЯ РАСІІ – ВАЛЯНЦІНУ РАСПУЦІНУ

З фармуліроўкай «за выбітныя дасягненні ў галіне гуманітарнай дзейнасці» дзяржпрэмія РФ у 2013 годзе была прысуджана пісьменніку Валянціну Распуціну. Дарадца кіраўніка Расіі па культуры Уладзімір Талстой, называючы імёны лаўрэатаў, адзначыў, што «гуманітарныя дасягненні» маюць на ўвазе не толькі мастацкія, але і «агульнагрмадзянскія» заслугі. Празаік В. Распуцін узначальвае расійскі рух за зберажэнне ў першасным выглядзе возера Байкал.

Дзяржаўная прэмія Расійскай Федэрацыі — персанальная. Ёй ганаруецца толькі адзін спашукальнік.

### НАЙБУЙНЕЙШАЯ НЯМЕЦКАЯ ПРЭМІЯ

Акадэмія нямецкай мовы і літаратуры абвясціла імя лаўрэата прэміі імя Георга Бюхнэра за 2013 год.

Узнагароду атрымала пісьменніца Сібіл Левічараў. Яе раманы адрозніваюцца «невычэрпнай энергіяй, магутным апавядальным уяўленнем і моўным багаццем», — падкрэслівае журы прэміі, якая ўручаецца штогод Акадэміяй нямецкай мовы і літаратуры ў Дармштаце.

Сібіл Левічараў нарадзілася ў 1954 годзе ў Штутгарце ў сям'і балгарына і немкі, аўтар сямі раманаў і некалькіх зборнікаў эсэ.

Грашовы памер гэтай самай прэстыжнай нямецкай літаратурнай прэміі, што носіць імя паэта і драматурга Георга Бюхнэра, складае 50 тысячаў еўра. Узнагароду ўручаюць з 1951 года. Яе лаўрэатамі былі Гюнтэр Грас, Генрых Бёль, Эльфрыда Элінэк, якія пазней атрымалі Нобелеўскую прэмію.

## РАЗЬБА ПА КНІГАХ

**Выразаць можна і… на кнігах.**




Мастацтва бук-карвінга, ці мастацкае выразанне па кнігах, некаторыя лічаць варварствам, — але некаторыя прыклады ўражваюць і матывуюць! Як, напрыклад, гэты замежны «эскіз», які заклікае марыць заўсёды і як… нагадвае выяву Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі…

## БІБЛІЯТЭКІ — БЕЗ КНІГ?

**Букрыдэры (чытары) заменяць у бібліятэках кнігі?**

У Сан-Антоніа (ЗША, штат Тэхас) увосень 2013 года з'явіцца першая ў свеце бібліятэка, у якой не будзе кнігасховішча ў класічным разуменні гэтага слова. BiblioTech — праект публічнай бібліятэкі, у якой традыцыйныя папяровыя кнігі цалкам заменяць іх электронныя варыянты.

Ініцыятыва стварэння «бібліятэкі без кніг» належыць мясцоваму суддзю Нэльсану Вульфу. На распрацоўку праекта BiblioTech яго падштурхнула біяграфія эксКіраўніка карпарацыі «Apple» Стыва Джобса аўтарства Ўолтара Ісааксана, былога старшыні тэлекампаніі «CNN» і рэдактара штотыднёвіка «The Time».

Мяркуецца, што на пачатковым этапе ў бібліятэцы будзе даступна 100 букрыдэраў для чытання электронных кніг, якімі можна не толькі карыстацца ў чытальнай зале, але і браць напракат на вызначаны тэрмін. У BiblioTech можна будзе прыйсці і са сваім букрыдэрам, каб загрузіць у яго ўпадабаную кнігу.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 2 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**11.00** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія-Вялікабрытанія). 5-я і 6-я серыі.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.50** Драматычны серыял «Маскоўскі панадворак» (Расія). Заключная серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 23.55** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.55** Трылер «Знакі» (ЗША).
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Вас чакае грамадзянка Ніканорава».



**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Драма «Дом».
**23.30** Фільм «Памерці маладым».
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінштына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэйімі у сябе дома».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Сувязь часоў». Расія, 2010г.
**15.50** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Пад абаронай».
**17.20** «Мінштына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Эліксір маладосці».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Наша вар'яцкае жыццё». Францыя, 2009г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Прэм'ера. Канцэрт групы «Машына часу».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь-Расія). 3-я серыя.
**10.10** Час футболу.
**11.00** Дак. серыял «Некранутая планета» (Чэхія-Вялікабрытанія). 4-я серыя, закл.
**11.35** Фантастычны фільм «Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі» (СССР). 2- я серыя, заключная.
**12.40** Дакументальны фільм «Ад зямлі, ветру і сонца» («Беларусьфільм»).
**15.10** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана» (СССР).
**16.35** Дакументальны серыял «Усе грані ўтрапёнасці» (Германія).
**17.15** Дача здароўя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Дарожныя прыгоды «Трыа» (Расія).



**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Фантастычны баявік «Суддзя Дрэд» (ЗША).
**23.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.10** Арэна.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Асаблівая нагода».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.10** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.00** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.40** Прэм'ера. «Крывое люстэрка».
**22.30** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** Фільм «Апошняя ахвяра». 2012 г.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.30** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**21.25** Баявік «Марскія д'ябла».
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** М/с «Смешарыкі».
**08.30** Т/с «Йохан ды Мар'я».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 00.30** М/ф «Шалёная золата».
**10.40** «На шашлыкі».
**11.10** Д/ф «У свеце цудаў».
**12.25** М/ф «Той, хто далікатней».
**14.15** «Сардэчна запрашаем».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** М/ф «Клініка».
**20.20** «Любімыя акцёры».
**20.50** М/ф «Трын-трава».
**22.30** М/ф «Атракцыён».
**02.10** М/ф «Маё каханне».
**03.35** «Народы Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 13 серыя.
**09.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Урок беларускай мовы», дак. фільм, 2006 г., Польшча.
**09.55** Невядомая Беларусь: «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**10.30** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 18 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 9 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Акварыум», серыял: 4 серыя.
**18.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «НКВД – Гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**19.55** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Форум (ток-шоу).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 1 серыя.
**23.00** «Дзяўчаты з Наваліпак», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**00.30** Лета з дэтэктывам: «Дэфект», тэлесерыял: 8 серыя.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.45** Студыя «Белсат».

## 3 ЖНІЎНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**05.50** Гераіка-прыгодніцкі фільм «Няўлоўныя мсціўцы» (СССР).
**07.05** Гераіка-прыгодніцкі фільм «Новыя прыгоды няўлоўных» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Прэм'ера! Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія). 1-я і 2-я серыі.
**11.10** Здароўе.
**12.10** Усё як мае быць!
**12.35** Прыгодніцкі баявік «Піраты XX стагоддзя» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.30** Каробка перадач.
**17.00** Меладрама «Кахаць па-руску» (Расія).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Сямейная камедыя «Дарагая, я павялічыў дзіця» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фантастычны баявік «Сурагаты» (ЗША).
**23.20** Дзень спорту.
**23.30** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія). 1-я і 2-я серыі.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** Прэм'ера. «600 секунд» і ўсё жыццё».
**13.55** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**16.50** «Форт Баярд».
**18.20** Фільм «Дублёры».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** Фільм «Асноўны інстынкт».
**01.05-02.30** Фільм «Жанчына, якая спявае».

### СТВ

**06.15** «Салдаты». Серыял.
**08.00** Фільм «Наша вар'яцкае жыццё». Францыя, 2009г.
**09.45** «Чыстая праца».
**10.35** «100 адсоткаў».
**11.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.35** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Вакол свету за 80 дзён». ЗША - Германія - Ірландыя - Вялікабрытанія, 2004г.
**22.30** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг». Дайджэст.
**23.30** Фільм «Танцы ў «Блакітнай ігуане». ЗША, 2000г.
**01.40** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.45** Мультфільмы.
**08.45** Фільм-казка «Чароўная лямпа Аладзіна» (СССР).
**10.05** Пазакласная гадзіна.
**10.25** Тэлебарометр.
**10.30** Дарожныя прыгоды «Трыа» (Расія).
**12.30** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.10** Дакументальны серыял «Усе грані ўтрапёнасці» (Германія).
**13.50** Дача здароўя.
**14.25** Дэтэктыўная меладрама «Пяць крокаў па аблоках» (Расія). 1-я і 2-я серыі.



**16.25** Прыгодніцкі баявік «Капітан Алатрыстэ» (Іспанія-Францыя).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «КЕНО».
**21.05** Рамантычная меладрама «Каханне і піца» (ЗША).
**22.50** Містычны трылер «Дзённік Алены Рымбаўэр» (ЗША).

### РОССИЯ

**07.00** «Крывое люстэрка».
**08.35** Фільм «Апошняя ахвяра» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Уся Расія».
**12.10** Фільм «Школьны вальс».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Краіна птушак».
**15.10** «Марына Голуб. Не прывыкай да дажджу.».
**16.15** Фільм «Цёмныя воды». 2011 г. 1-я серыя.
**18.05** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.30** Прэм'ера. Фільм «Нялюбая» (2012 г.).
**23.55** Фільм «Каханне па раскладзе» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Іх норавы».
**08.55** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Следства вялі.».
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.05** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**15.35** «ГРУ: таямніцы ваеннай выведкі».
**16.25** Вострасюжэтны серыял «Дэсант ёсць дэсант».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Дэсант ёсць дэсант».
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 00.00** Т/с «Час - грошы».
**15.10** Т/с «Дурнаватая».
**20.50** М/ф «Жаданне майго бацькі».
**22.25** М/ф «Еўропа - Азія».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы», «Пацюкі».
**08.45** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 8 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 15 серыя.
**09.40** «Машына зменаў», тэлесерыял: 3 і 4 серыі.
**10.40** Форум (ток-шоу).
**11.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.50** «Слуцкі збройны чын», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**12.20** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 12 серыя.
**13.05** «Час гонару», серыял: 44 серыя.
**13.50** «Дзяўчаты з Наваліпак», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**15.20** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Аперацыя "Фокслі"«.
**16.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 1 серыя.
**17.00** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 5 серыя.
**17.25** Хто ёсць кім?: «Басовішча-2013», рэпартаж, 2013 г., Польшча: ч. 2.
**17.45** «Таемны свет Уэлнэсу: старажытная Індыя», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**18.35** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў: «Няпісаныя законы», 1998 г.
**19.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Аўтастопам праз Беларусь.
**20.15** Невядомая Беларусь: «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць», 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Прысуд Францішку Клосу», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**22.55** Невядомая Беларусь: «НКВД – Гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**23.30** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 9 серыя.
**00.15** Аб'ектыў.
**00.30** МакраФон: «Рок па вакацыях–1996», канцэрт з удзелам Лявона Вольскага, Касі Камоцкай, гурта «Крама» ды інш.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 4 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.30** Прыгодніцкі баявік «Піраты XX стагоддзя» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія). 3-я і 4-я серыі.
**11.45** Нашы.
**12.10** Героіка-прыгодніцкі фільм «Няўлоўныя мсціўцы» (СССР).
**13.35** Героіка-прыгодніцкі фільм «Новыя прыгоды няўлоўных» (СССР).



**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Зона X. Вынікі тыдня.
**16.00** Эксцэнтрычная камедыя «Жандар у Нью-Ёрку» (Францыя - Італія).
**17.50** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**18.50** Прыгодніцкая драма «Белы палон» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Дэтэктыў «Здань» (Францыя-Германія-Вялікабрытанія).
**00.45** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія). 3-я і 4-я серыі.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** Музычны фільм «Сільва».
**14.25** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Івар Калныньш. Раман з акцэнтам».
**17.30** «Браты Карамазавы». Шматсерыйны фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вышка».
**23.00** Прэм'ера. Фільм «Сэрца на далоні».

### СТВ

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.50** Фільм «Вакол свету за 80 дзён». ЗША - Германія - Ірландыя - Вялікабрытанія.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**14.55** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Кармэн». Расія, 2003г.
**22.55** «Якія людзі!».
**23.50** Фільм «Свет, я цябе люблю». Аўстрыя-Люксембург-Сербія, 2008г.
**01.15** Прэм'ера. Дакументальны праект: «Джуна. Па той і гэты бок».

### Беларусь 2

**07.40** Мультфільмы.
**07.50** Фільм-казка «Залатыя рогі» (СССР).
**09.05** Пазакласная гадзіна.
**09.20** Пра мастацтва.
**09.50** Тэлебарометр.
**09.55** Прыгодніцкі баявік «Капітан Алатрыстэ» (Іспанія-Францыя).
**12.40** Рамантычнай меладраме «Пад сонцам Тасканы» (ЗША-Італія).
**14.50** Дэтэктыўная меладрама «Пяць крокаў па аблоках» Расія). 3-я і 4-я, закл., серыі.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Шахцёр - Нёман. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.10** Спорт-кадр.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Фантастычны трылер «Эфект матылька-2» (ЗША).



**22.55** Драма «Полымя страсці» (Вялікабрытанія-ЗША).

### Россия

**07.00** Фільм «Нялюбая» (2012 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.50** «У свеце жывёл».
**12.25** Фільм «Вусаты нянь».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**14.30** Сведкі.
**16.20** Фільм «Цёмныя воды». 2011 г. 2-я серыя.
**18.10** Прэм'ера. «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Мамчына каханне» (2013 г.).
**22.35** Прэм'ера. Фільм «Знарок не прыдумаеш» (2013 г.).

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**12.00** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Кулінарныя курсы: Італія. Таскана».
**13.00** Сёння.
**13.15** Мастацкі фільм «Грамазека».
**15.10** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**15.35** «ГРУ: таямніцы ваеннай выведкі».
**16.25** Вострасюжэтны серыял «Дэсант ёсць дэсант».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Дэсант ёсць дэсант».
**23.45** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.40** М/ф «Валькіны ветразі».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 05.25** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 21.50** М/ф «Сапраўдны герой».
**13.15** М/ф «Той, хто далікатней».
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 00.30** Т/с «Дурнаватая».
**19.55** М/ф «Тэатр».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «НКВД – Гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**07.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.40** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 2 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 18 серыя.
**09.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 9 серыя.
**10.05** «Тры шалёныя нулі», серыял: 4 серыя.
**10.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**11.00** «Глыбокая вада», серыял: 8 серыя.
**11.45** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 9 серыя.
**12.10** «Прысуд Францішку Клосу», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**13.50** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытная Індыя», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**14.45** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 9 серыя.
**15.30** «Акварыум», серыял: 4 серыя.
**16.25** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 2 серыя.
**17.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.15** Без рэтушы: «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**18.45** «Галерэя Ады», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**19.40** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**20.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Час паміраць», маст. фільм, 2007 г., Польшча–Германія.
**23.05** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**00.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр



БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «FEMEN» ТРЫМАЕ МАРКУ

Алег НОВІКАЎ

**Французскія правыя пачалі кампанію байкоту новай паштовай маркі з выявай Марыяны — сімвала Французскай Рэспублікі. Прычына байкоту — Марыяну малявалі з Іны Шаўчэнка, лідара руху «Femen».**




Дасюль гісторыкі не маюць канчатковага адказу, ці сапраўды існавала Марыяна? «Так», — сцвярджае адна фракцыя і спасылаецца на архіўныя дакументы, што кажуць пра нейкую Марыяну з Эльзасу, якая была адным з лакальных вулічных лідараў у часы Вялікай Французскай Рэвалюцыі. Іншая ж кажуць, што вобраз Марыяны ўзнік дзякуючы папулярнай песні «Garisou de Marianno», якую спявалі падчас тых жа падзей.

Нарэшце, трэція сцвярджаюць, што Марыяна стала алегорыяй рэспублікі, дзякуючы філалагічнай правакацыі — аб'яднанню імёнаў «Марыя» і «Ганна». У вачах арыстакратаў імя «Марыяна» гучала як нешта вульгарнае і прымітыўнае. Затое рэвалюцыйныя масы пабачылі ў ім сімвал замаху на стары феадальны парадак. Тое, што на прысвечанай рэвалюцыі карціне Эжэна Дэлакруа «Свабода, якая вядзе народ» (1831) у цэнтры кампазіцыі знаходзіцца менавіта жанчына ў фрыгійскім каўпаку, было цалкам зразумела сучаснікамі.

Увогуле, акрамя Марыяны былі іншыя прэтэндэнты на сімвал рэспублікі. Напрыклад, у часы Рабесп'ера і Дантона часта ў гэтых мэтах выкарыстоўвалі выяву дыядэмы або льва. Чаму ж сімвалам стала Марыяна? Адказ на гэта пытанне звязаны з праблемай інтэр'ера адміністратыўных памяшканняў пасля абвяшчэння Трэцяй рэспублікі ў 1871 годзе. Трэба было аператыўна нешта ставіць на падстаўкі пад бюсты імператара Напалеона Трэцяга, якія можна было сустрэць на кожным кроку. Хтосьці з рэспубліканцаў згадаў пра Марыяну. Так Марыяна пачала акупаваць візуальны вобраз краіны. Калі ў 1883 годзе французы вырашылі падараваць ЗША статую Свабоды, не было ніякіх пытанняў, вобраз каго будзе пакладзены ў аснову манумента.

Нарэшце, Марыяна дабралася і да філатэліі. Прычым фізіяномію дзяўчыны ў фрыгійскім каўпаку змясцілі не на марцы нейкай асобнай серыі. З 1944 года Марыяна красавалася на т. зв. timbres d'usage courant (стандартнай марцы). Стандартная марка — паштовая марка, якая выпускаецца масавым тыражом для працяглага паўсядзённага выкарыстання. Падчас кадэнцыі Жыскара д'Эстэна было вырашана, што кожны новы прэзідэнт краіны будзе ўводзіць свой дызайн маркі з Марыянай. Апошні раз такая цырымонія адбылася 14 ліпеня гэтага года. Франсуа Аланд урачыста прапанаваў новую версію Марыяны, якая адразу выклікала скандал.




Марка была створана двума маладымі ілюстратарамі, адзін з якіх, Давід Кавен (дарэчы, актывіст руху супраць дыскрымінацыі сэксуальных меншасцяў) прызнаўся, што яго на стварэнне малюнку натхніў вобраз лідара «Femen». Паводле яго слоў, Іна Шаўчэнка «лепш за іншых увасабляе каштоўнасці рэспублікі, свабоды, роўнасці, братэрства, да таго ж фемінізм з'яўляецца неад'емнай часткай гэтых каштоўнасцяў». Увогуле, спачатку мастак меркаваў пакласці ў аснову вобразу Марыяны выяву нейкай мігранткі з Магрыбу або з Паўднёвай Азіі.

Выбар Іны Шаўчэнка ў якасці мадэлі Давіду Кавену французскія правыя не прабачылі. Не прайшло і некалькі гадзін, як лідар партыі хрысціянскіх дэмакратаў заклікаў да байкоту новых марак.

**Галоўны аргумент супраць новых знакаў паштовай аплаты звязаны з тым, што жанчына, якая стала прататыпам новай Марыяны, не адпавядае прынцыпам рэспублікі**

Ініцыятыва адразу знайшла падтрымку, паколькі кансерватыўная частка французскага грамадства яшчэ не астыла пасля гучнай кампаніі супраць легалізацыі аднаполых шлюбаў, прыхільнікамі якой была групоўка «Femen». У дадатак Іна Шаўчэнка, каментуючы выхад новай маркі, прапанавала ўсім гамафобам з гэтага часу цалаваць сябе ў зад, калі давядзецца клеіць на пошце новыя маркі.

Праўда, галоўны аргумент супраць новых знакаў паштовай аплаты звязаны з тым, што жанчына, якая стала прататыпам новай Марыяны, не адпавядае прынцыпам рэспублікі. «Яна (Шаўчэнка) не паважае думкі іншых, і перш за ўсё каталіцкіх вернікаў», — гаворыцца на сайце хрысціянскіх дэмакратаў. Нарэшце, Шаўчэнка — іншаземка. У правых ёсць версія, што спачатку Марыяну сапраўды хацелі маляваць з французжанкі арабскага паходжання, аднак пасля вырашылі, што супольнасць да гэтага не падрыхтаваная. Вырашылі спачатку «абкатаць» на ўкраінцы.

Дасталася ад правых і асабіста Іне Шаўчэнка, якую шмат хто лічыць проста добрым маніпулятарам. Пры гэтым французскія правыя актыўна цытуюць украінскую прэсу. Ва Украіне ніякага фурору навіна пра перамогу іх суайчынніцы ў намінацыі на Марыяну не выклікала. Тон задаюць каментары накшталт: «Гэта плявок у твар грамадзянам Украіны».

Контраргументацыя левых, якія падтрымалі выбар Аланда, дастаткова забаўная. Акрамя ўсяго, яны спасылаюцца на згаданае вышэй палатно Эжэна Дэлакруа. «Хіба выяўленая на карціне Дэлакруа жанчына — сімвал свабоды, з аголенымі грудзямі, не падобная на актывістак «Femen»?» — піша ліберальная «Le Monde». «Liberation» смяецца з таго, як правыя носяцца з Марыянай, узгадваючы пра тое, што кансерватары заўсёды супрацьстаўлялі Марыяну Жанне Д'Арк, якая і ёсць, на іх думку, сапраўдны вобраз Францыі.

І, нарэшце, чаму правыя, крытыкуючы Аланда, забыліся пра конкурс Асацыяцыі мэрый? Гэта арганізацыя час ад часу абірае жанчыну, з якой лепяць бюст Марыяны, што пасля тыражуюць, каб паставіць у адміністратыўных будынках па ўсёй Францыі. У розны час у ролі натуршчыц выступалі Брыджыт Бардо, Мірэй Мацье, Катрын Дэнёў. З 2012 года скульптарам пазіруе вядомая актрыса Сафі Марсо. Тая ж Мірэй Мацье была ледзь не пратэжэ прэзідэнта-сацыяліста Франсуа Мітэрана, аднак ніхто з правых тады не патрабаваў аспрэчыць яе права быць скульптурным увасабленнем Марыяны.

Між тым, 22 ліпеня ўся гэтая гісторыя набыла новы непрадказальны паварот. Іна Шаўчэнка змясціла на сваім Twitter правакацыйны пост, у якім заявіла, што ў свеце няма нічога больш ідыёцкага, чым мусульманскае свята Рамадан. Нататка выклікала эйфарыю сярод правых, як правіла, ісламафобскіх выданняў. Такім чынам, падаецца, што ў гісторыі з маркай пачынаецца новы этап. А сама гісторыя яўна будзе не поўнай, калі не згадаць, што Дэвід Кавен атрымаў шэраг смяротных пагроз, а 21 ліпеня ў Парыжы невядомымі быў арганізаваны падпал офісу «Femen».

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У дыялогу з Беларуссю лепшага камунікатара, чым Літва, сёння дакладна няма. Пагадзіцеся, не кожны прэзідэнт еўрасаюзаўскай краіны знойдзе, пра што пагаварыць (прычым без перакладу) з Лукашэнкам на працягу трох з паловай гадзін. І не кожная еўрасаюзаўская краіна сцяміла скарыстацца сітуацыяй — палітычнай і эканамічнай, — якая склалася вакол Беларусі, каб хуценька арганізаваць прасоўванне свайго бізнэсу ў Беларусь. ...Адна з задач літоўскага старшынства ў ЕС — не паўтарыць вопыт Варшаўскага саміту Усходняга партнёрства, калі з Мінску для ўдзелу ў саміце ніхто не прыехаў. Самы аптымальны варыянт, лічаць у Вільні, пайсці па сцэнары саміту Усходняга партнёрства ў Празе. Тады, нагадаю, міністр замежных спраў Чэхіі Карл Шварцэнберг перадаў запрашэнне Лукашэнку, але пры гэтым прыгожа патлумачыў, што Аляксандр Рыгоравіч асабіста — не самы лепшы прадстаўнік, улічваючы вядомы набор фактараў. Такім чынам, і эга Лукашэнкі можна задаволіць (маўляў, усё ж такі запрасілі асабіста яго), і ўдзел высокапастаўленага прадстаўніка з Мінска рэальна забяспечыць.

**«Дзеркало Тиждня» (Украіна)**

Варта нагадаць, што ўсю мінулую зіму, да 15 сакавіка 2013 года, беларускаму абывацелю ўлады распавядалі бясконцую займальную казку пра мільярды долараў, якія неабходна ўзяць у Расіі на «мадэрнізацыю» беларускай эканомікі. Прычым памяркоўнасць Расіі разглядалася завочна, дый ніхто Маскву пытаць і не збіраўся. Запланаваны крэдыт ужо паспелі нават размеркаваць. Ён павінен быў скласці тую самую славутую «падушку бяспекі» для стабільнага курсу беларускага рубля. Аднак з размеркаваннем відавочна паспяшаліся. Масква грошай не дала. Пра мадэрнізацыю зараз, натуральна, ужо забылі. Не да яе, калі дэвальвацыя насоўваецца, як цунамі.

**politoboz.com (Расія)**

Сённяшняя сітуацыя пацвярджае правільную думку экспертаў і беспадстаўнасць упартасці ўладаў Беларусі. Літаральна за два тыдні кошт долара ў банках пераадолеў псіхалагічны бар'ер у 9000 рублёў (8630 на канец мінулага года). Пры гэтым у сістэме webmany і на рынку (пры пераліку кошту тавару) долар дасягнуў 9500. Навучанае горкім вопытам 2011 года, насельніцтва стала ў чэргі да абменных пунктаў. Прычына такіх паводзінаў — дэвальвацыйныя чаканні і адсутнасць у насельніцтва даверу да ўлады, каментуюць сітуацыю эксперты. Напярэдадні Аляксандр Лукашэнка з прадстаўнічай дэлегацыяй вярнуўся з Кітая. Афіцыйныя прапагандысты з экранаў дзяржаўнага тэлебачання і старонак газет распавядаюць пра паспяховасць гэтага візіту — каля 30 дагавораў на суму 1,5 мільярда долараў, ды пра эфектыўнасць беларускай эканомікі ў цэлым. Аднак мясцовае насельніцтва не здымае пасты ля абменнікаў.

**«Независимая газета» (Расія)**

Брусель зрабіў крок насустрач Мінску — прыпыніў візавыя санкцыі ў дачыненні да кіраўніка беларускага МЗС Уладзіміра Макея і запрасіў яго на працоўнае мерапрыемства кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў краін — удзельніц ініцыятывы ЕС «Усходняе партнёрства». Але сітуацыя з палітвязнямі ў Беларусі не змянілася. На што спадзяецца Мінск, зацягваючы вырашэнне пытання аб свабодзе для сваіх апанентаў? На тое, што, сказаўшы «а», Еўрасаюз павінен сказаць і «б», і ўсё ж пайсці на скарачэнне «чорнага спісу» на чале з ізгоем-прэзідэнтам. Таму ўлады Беларусі гандлююцца. Перамовы пра лёс палітычных вязняў будуць весціся і падчас візіту ў Брусэль кіраўніка МЗС Уладзіміра Макея. У той жа час з боку беларускіх уладаў было б вельмі неразумна ўпусціць дасягнутае ад вяртання да звыклай «палітыкі арэляў» у адносінах з Захадам. Як бы Мінск ні спрабаваў рабіць выгляд, што яго не цікавяць меркаванні еўрапалітыкаў, якія патрабуюць вызваліць крытыкаў рэжыму, палёт на адным расійскім крыле становіцца небяспечным.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Сноўдэн, які знаходзіцца цяпер у Маскве, атрымаўшы часовае пасведчанне ў Расіі, можа прыехаць у Беларусь, з якой у Расіі няма мяжы, а там ужо беларускія ўлады паспрыяюць адпраўцы яго ваенна-транспартным самалётам у Афрыку, а адтуль у Лацінскую Амерыку, дзе адразу тры краіны заявілі пра гатоўнасць даць Сноўдэну прытулак. Такі сцэнар разглядаюць у якасці магчымага і ў той жа час карыснага для Расіі. Расія не хоча быць відавочна ангажаванай у гісторыю са Сноўдэнам, каб не ствараць канфліктную сітуацыю з Вашынгтонам, які папярэдзіў пра сур'ёзныя непрыемнасці.

**«Radio France Internacional» (Францыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КЫРГЫЗСТАН. ЮБІЛЕЙ СОМА

У Кыргызстане з вялікай помпай адсвяткавалі 20-ю гадавіну нараджэння нацыянальнай валюты — сома. 3 мая 1993 года ўрад Кыргызстана прыняў адмысловую пастанову аб увядзенні нацыянальнай валюты. А ўжо 14 мая 1993 года нацыянальная валюта стала адзіным законным плацежным сродкам на тэрыторыі рэспублікі. У кіргізскіх падручніках па сучаснай гісторыі сому прыпісваюць ледзь не галоўную ролю ў перамозе над інфляцыяй. У першыя гады незалежнасці, калі ў Кыргызстане адбыўся глыбокі спад у эканоміцы, узровень інфляцыі дасягаў больш за 2000%. «І толькі дзякуючы ўвядзенню нацыянальнай валюты ў 1993 годзе ўдалося знізіць узровень інфляцыі. Ужо ў 1994 годзе інфляцыя знізілася да 62,1%, у 1995 годзе — да 32,1 працэнта», — нагадваюць кіргізскія гісторыкі. У гэтым ёсць частка праўды. Сярод валют краін СНД (уключаючы расійскі рубель) сом мае самы нізкі сукупны ўзровень інфляцыі за ўвесь постсавецкі перыяд. У адносінах да долара ЗША курс сома з 1993 года знізіўся ў 12 разоў. Калі ў 1993 годзе за 1 долар давалі 4 сома, то цяпер абменны курс складае каля 48 сомаў. Апазіцыя лічыць, што стабільнасць сома гарантуецца нізкім узроўнем жыцця насельніцтва, якому валюта амаль не патрэбная.

**Паводле кіргізскай прэсы**

### МАЛДОВА. УЛАДЗІМІР ВЫСОЦКІ ПАДЗЯЛІЎ КРАІНУ

Малдаўскія правыя крытыкуюць намер уладаў гораду Бельцы ўстанавіць помнік савецкаму барду Уладзіміру Высоцкаму. Так, мэр Кішынёва, адзін з лідараў нацыяналістычнай ліберальнай партыі, лічыць нелагічным узводзіць помнік чалавеку, які мала што зрабіў для Малдовы і, напэўна, тут ніколі не бываў. Дзякуючы разважанням мэра, тэма манументалькага ўшанавання Высоцкага імгненна стала палітызаванай. Камуністы, якія, натуральна, выступілі ў абарону помніка, адразу нагадалі мэру, што ў 1972 годзе Высоцкі наведаў Кішынёў і даў тут тры канцэрты, прычым у адзін дзень. Больш за тое, менавіта ў Кішынёве адзін з літаратурных часопісаў упершыню апублікаваў тэкст вершаў Высоцкага. Праўда, з усяго гэтага не зразумела, пры чым тут Бельцы, дзе Высоцкі дакладна не бываў. Пра гэта камуністы не кажуць.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. НОВАНАРОДЖАНЫ ПРЫНЦ ВЫРАТАВАЎ БРЫТАНСКУЮ САДРУЖНАСЦЬ



Тое, што ў прынца Вільяма і прынцэсы Кейт нарадзіўся сын, а не дачка, вельмі добрая навіна таксама для Даўніг-Стрыт. Як толькі цяжарную Кэйт адправілі ў раддом, брытанскі ўрад стаў ламаць галаву, як захаваць Брытанскую Садружнасці (асацыяцыю краін — былых калоній Вялікабрытаніі, фармальным кіраўніком якіх з'яўляецца англійскі манарх). У 2011 годзе правілы вызначэння караля Вялікабрытаніі (т. зв. Crown Act) змяніліся. Цяпер на троне можа таксама сядзець першая дачка ад шлюбу ў каралеўскай сям'і, нават пры ўмове, што ў дзяўчынкі пасля народзіцца малодшы брат. Раней пры такім раскладзе прыярытэт быў у хлопчыка. Аднак на гэты час толькі 3 з 15 краін Брытанскай Садружнасці, дзе брытанскі манарх ёсць кіраўніком дзяржавы, унеслі адпаведныя змены ў свае законы. Такім чынам, у выпадку нараджэння ў сям'і прынца Вільяма дзяўчынкі, мог пачацца сапраўдны хаос: англічане святкавалі б нараджэнне будучай каралевы, а большасць краін Брытанскай Садружнасці маладую прынцэсу ў якасці будучага нашчадка кароны не прызнавалі. Каб вырашыць гэты юрыдычны парадокс, Дэвід Кэмеран пачаў тэрмінова дамаўляцца з лідарамі краін Брытанскай Садружнасці пра тое, што бліжэйшым часам яны ўнясуць папраўкі наконт права дзяўчынак займаць трон. Чым заканчвалася гэта пякельная праца, цяжка сказаць, аднак пасля нараджэння ў сям'і Вільяма і Кейт сына патрэба ў тэрміновай карэкціроўцы законаў адпала. У Канады, Аўстраліі, Папуа — Новай Гвінеі і іншых краін Брытанскай Садружнасці ёсць час спакойна ўнесці папраўкі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. ПАГАНЦЫ ЗРЫВАЮЦЬ СВЯТКАВАННЕ ХРЫШЧЭННЯ РУСІ

Напярэдадні афіцыйнай праграмы святкавання 1025-й гадавіны хрышчэння Русі кіеўскія паганцы правялі акцыю. У нядзелю, 21 ліпеня, каля 200 чалавек прайшліся вуліцамі цэнтра горада, каб каля будынку Музея Кіева, дзе да прыняцця славянамі хрысціянства, паводле легендаў, знаходзіўся галоўны паганскі храм Кіеўскай Русі, устанавіць 6-метровую статую Перуна. Пасля ўсе прысутныя пачалі спяваць песні ў гонар галоўнага бога славянскай рэлігіі і танчыць. Міліцыя, якая прысутнічала на акцыі, актыўнасці не праяўляла. Дарэчы, год таму прыхільнікі паганства ўжо ставілі ідала на тым жа самым месцы, аднак былі збітыя мінакамі. Пярун прастаяў да ночы, калі міліцыя выклікала спецыяльную службу, якая яго дэмантавала. Цікава, што праваслаўная прэса піша, нібы паганцы ў Украіне карыстаюцца падтрымкай некаторых фракцый улады. Быццам, пра гэта сведчыць культ князя Святаслава, які фармуецца ва Украіне. Паводле легендаў, Святаслаў, хаця і быў хрышчоным маці — княгіняй Вольгай, заўсёды верыў у Перуна.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

З НАГОДЫ

# ІМПЕРЫЯ НАВАЛЬНАГА

*Алег НОВІКАЎ*

**Рост папулярнасці расійскага блогера Аляксея Навальнага выклікаў цікавасць да яго поглядаў. У тым ліку да таго, як лідар новай генерацыі антыпуцінскай апазіцыі бачыць месца Расіі ў постсавецкай прасторы.**



Праблематыка СНД, безумоўна, не канёк Навальнага. І, можа, у гэтым для палітыка вялікі пазітыў. Таму што папярэдніх нешматлікіх рэплік Навальнага на гэты конт цалкам хапіла, каб абрынуць на сябе каскад крытыкі.

Найбольш буйны скандал, звязаны з поглядамі Навальнага на праблемы СНД, адбыўся ва Украіне, калі ён выступіў у праграме «Вялікая палітыка» (вядучы Яўген Кісялёў). Адказваючы на пытанне пра адносіны Расіі да Украіны, блогер сказаў: «Я глыбока перакананы, што Украіна і Беларусь з'яўляюцца найбольш важнымі геапалітычнымі саюзнікамі Расіі. Наша знешняя палітыка павінна быць максімальна накіравана на інтэграцыю з Украінай і Беларуссю. (...) Фактычна мы адзін і той жа народ. Мы павінны ўзмацняць інтэграцыю». Каля вядучы нагадаў пра тое, што сённяшнія дзеянні Расіі накіраваныя на эканамічнае і палітычнае падпарадкаванне Украіны, і гэта не мае нічога агульнага з добраахвотнай інтэграцыяй, Навальны патлумачыў, што гэта «натуральны працэс».

Каментуючы выступ маскоўскага дэмакрата, вядомы ўкраінскі палітолаг Мікола Рабчук адзначаў: «Расійскі блогер не змог падняцца вышэй свайго ўласнай пункту гледжання і зразумець вопыт існавання «братэрскіх народаў», дамінавання Расіі і расійскага імперыялізму».

Напружаныя адносіны ў Навальнага і з казахскай элітай. Прычынай стаў заклік да сваіх аднадумцаў — сабрацца на акцыю каля помніка казахскаму асветніку Абаю Кунанбаеву, што на Чыстых Прудах. «Едзем на Чыстыя пруды да помніка незразумеламу казаху», — напісаў палітык у Жывым часопісе. Пасаж пра «незразумелага казаха» не зразумела нават частка расійскай інтэлігенцыі. Што тычыцца казахскай, дык яна папросту абурылася.

«Справа ж не толькі ў «незразумелым казаху», чыё імя — Абай Кунанбаеў. Я абсалютна ўпэўнены, што сп. Навальны мог паклікаць усіх жадаючых пайсці і да іншых прыкметных месцаў сталіцы — да помнікаў або перасячэнняў вуліц, якія носяць імёны «незразумелых» і, вядома ж, не вядомых яму грузінаў ці габрэяў, татараў ці ўкраінцаў. І, запэўніваю вас, рускіх таксама. Гэты малаадукаваны і кепска выхаваны юрыст, якому ў рукі дастаўся магутны інструмент пад назвай «інтэрнэт», мала каго шануе і паважае, толькі самога сябе», — напісаў у адкрытым лісце да расійскай грамадскасці адзін з казахскіх інтэлігентаў.

Прыхільнікі Навальнага парыравалі такога кшталту заявы вельмі арыгінальна: «Няхай казахі будуць задаволеныя тым, што Навальны хоць ведаў, што гэта помнік казаху, а не ўзбеку якому-небудзь».

Казахам яшчэ пашанцавала. Навальны не ведае іх класікаў, аднак не заклікае да ўвядзення віз для грамадзян Казахстану, як для таджыкаў, узбекаў і кіргізаў. Адпаведную рэзалюцыю ён праштурхнуў праз Аб'яднаны камітэт апазіцыі, што выклікала крызіс структуры. Такой жа візавай палітыкі, на яго думку, заслугоўваюць і жыхары Паўночнага Каўказа. Як вядома, Навальны — адзін з лідараў праекту «Хопіць карміць Каўказ».

Навальны падтрымліваў канцэпцыю жорсткай пазіцыі ў адносінах да Грузіі падчас каўказскай вайны 2008 года. На яго думку, Расіі варта было б арганізаваць поўную блакаду Грузіі, стварыць над Паўднёвай Асеціяй беспалётную зону і аказваць ёй і Абхазіі значную фінансавую дапамогу.

Такім чынам, Навальны — тыповы рускі нацыяналіст? А што тут дзіўнага, калі паглядзець на яго біяграфію. Ён — сацыяльны прадукт пуцінскай, нафаршаванай нацыяналізмам, сістэмы. Адсюль і яго наратыў. Дарэчы, з партыі «Яблоко» Навальнага выгналі ў тым ліку за тое, што ён у запале спрэчкі сказаў азербайджанцы: «А ты, чар…пая, наогул маўчы, тваё месца на рынку». Жанчына выбегла ў слязах.

Навальны вельмі слаба разумее палітычную культуру ў краінах перыферыі СССР, і нават не цікавіцца гэтым. Яго былая аднапартыйка прыгадвае: «Калі я прамаўляла словы «грузінская паэзія», ён смяяўся... Яго смяшыла само словазлучэнне «грузінская паэзія». Калі я казала, што грузіны прынялі хрысціянства на некалькі стагоддзяў раней, чым руськія, і што ў іх з'явіўся вялікі эпас сусветнага значэння пісьмовы помнік «Віцязь у тыгравай шкуры», калі ў Расіі былі толькі «Павучанні Уладзіміра Манамаха», ён прапускаў гэта міма вушэй. Зрушыць Навальнага з яго нацыяналістычных пазіцый было немагчыма. Асабліва пагардліва ставіўся ён да краін і народаў Поўдня і Паўднёвага Усходу».

Такім чынам, уплыў фракцыі Навальнага ў рускай апазіцыі, не кажучы пра прыход да ўлады, украінцам, беларусам, казахам нічога добрага не нясе. Аднак, па вялікім рахунку, адрасатам яго нацыяналістычных дэвізаў насельніцтва Украіны, Беларусі не з'яўляецца і ніколі не было. Калі прааналізаваць кантэнт каментараў Навальнага, можна адзначыць: нічога арыгінальнага блогер не выказвае. Ён проста дубліруе тое, што можна прачытаць на большасці расійскіх інтэрнэт-форумаў. Навальны — папуліст, які трымае руку на пульсе народных настрояў.

Гэты момант дазволіў некаторым СМІ трактаваць нацыяналізм Навальнага як інструментарый. Украінскае інтэрнэт-выданне «LB.ua» піша: «Увявіце сабе Навальнага, які кажа ў эфіры ўкраінскага тэлебачання нешта накшталт: нам трэба назаўсёды забыць пра Украіну — мы і так ужо вельмі шмат зла зрабілі гэтаму народу. Увявілі? Дык вось, гэта не Навальны, гэта Навадворская. (...) Іншымі словамі, нам з вамі нікуды не ўцячы ад таго, што ў Расіі з пакалення ў пакаленне перадаецца заканахасць у сілу, у экспансію, у імперскае ханжаства. (...) І да гэтага варта ставіцца як да надвор'я. (...) Важна ў Навальнага тое, што ён, апаніруючы Пуціну, проста ў сілу ўжо аднаго гэтага апанавання, змагаецца за сцвярджэнне ў Расіі нейкай палітычнай платформы для дэмакратычнага вызначэння мэтаў расійскай дзяржавы. Пад якім соусам ён падае сваю барацьбу — нязначнае пытанне. У гэтым сезоне актуальны нацыянал-лібералізм? Ну ok. Галоўнае, што ў выніку дэмакратызацыі ў Расіі, у выніку адкрытых дэбатаў усё больш і больш людзей пачнуць разумець, што народы спакушаюцца камфортнымі юрысдыкцыямі, а зусім не бразганнем зброі».

Выснову аўтар робіць увогуле фантастычную: «Што ж, калі Навальны выкарыстоўвае жорсткасць у сваёй рыторыцы як паліва на шляху да ўлады — тым лепш. Ён будзе паспяховы ў Расіі. А значыць, будзе паспяховая і дэмакратызацыя. А значыць, Расія стане мякчэй і больш рацыянальнай. І, магчыма, калі-небудзь — чаму б не памарыць? — Расія нават стане нашым адвакатам у Азіі, як Польшча — хто б мог падумаць пра гэта яшчэ гадоў 70–80 таму! — стала нашым адвакатам у Еўропе. Але такой можа быць толькі Расія, у якой Навальны застанецца на свабодзе, а не згніе ў турме. Вось чаму нам цяпер і варта яго падтрымліваць».

Аднак пры ўсім папулізме Навальнага агучванне ім нацыяналістычных ідэй азначае крок да ўзмацнення нацыяналістычнай і расісцкай павесткі дня як галоўнай тэмы ў палітычнай дыскусіі ў Расіі, што звязанае з непрадказальнымі, глабальнымі рызыкамі.

АНК

# МАНДЭЛА ЖЫВЕ, А СПРАВА ЯГО ПАМІРАЕ

Алег НОВІКАЎ

**Увесь свет сочыць за здароўем Нельсана Манделы — легенды руху за грамадзянскія правы, якому на мінулым тыдні споўнілася 95 гадоў. Асабліва, думаецца, перажываюць кіраўнікі партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC), якія доўгі час узначальваў Мандэла.**



Фігура Мандэлы і яго культ — важная складовая палітычнай рэкламы ANC. Больш таго, падаецца, што ганарыцца «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» у хуткім часе зможа толькі героямі мінулага, накшталт таго самага Мандэлы.

Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка (ПАР), якой ANC кіруе ўжо 19 гадоў, перажывае сістэмны крызіс. Сёння беспрацоўем у ПАР ахоплена 25 працэнтаў насельніцтва (палова з іх — моладзь). Узровень крыміналу ў ПАР— адзін з самых высокіх у свеце, а яго брутальныя формы проста шакуюць. Адзін мой знаёмы, які нядаўна вярнуўся з Кейптаўна, распавёў, што мясцовыя вадзіцелі падчас язды абавязкова апускаюць аўтамабільныя шыбы на пару сантыметраў. На практыцы праверана, што ў выпадку спробы рабавання на светлафоры гэта дапаможа шыбе лепш стрымаць удар молатам.

Аднак галоўны біч ПАР — карупцыя. Па падліках, толькі ў мінулым годзе чыноўнікі скралі з бюджэту праз розныя схемы каля мільярда долараў. Прычым фігурантамі афёр, як правіла, становяцца асобы з самых высокіх паверхаў вертыкалі. Трэнд відавочны: сістэма, якая ўзнікла пасля падзення апартэіду, больш не дае сацыяльных шансаў для простых грамадзян. Эліта муціравала ў клуб нарцысаў, якія займаюцца, як у нас прынята казаць, «распілам».

Не выпадкова апошнім часам у Паўднёвай Афрыцы назіраецца бум нараджэння новых партструктур, якія збіраюцца кінуць выклік ANC. Так, у чэрвені на свет з'явілася партыя «Agang», якую заснавалі шэраг былых змагароў з апартэідам. Іх маніфест вельмі катэгарычны. «Праз 20 гадоў пасля калапсу апартэіду мы знаходзімся на ростанях. Мы павінны змяніць курс зараз, ці нястрымная карупцыя пазбавіць кожнага мужчыну, жанчыну і дзіця будучыні, а наша краіна страціць свой патэнцыял. На нашых вачах падаюць аснова за асновай нашай канстытуцыйнай дэмакратыі: судовая сістэма, свабода прэсы, падсправаздачнасць урада і гарантыя правоў грамадзян».

Аднак значна большы інтарэс прэса надае не «Agang», а іншай, альтэрнатыўнай «Афрыканскаму нацыянальнаму кангрэсу», палітычнай ініцыятыве. Гаворка пра рух «Змагары за эканамічную свабоду» (Economic Freedom Fighters), якую 12 ліпеня заснаваў 32-гадовы Джуліус Малема — былы функцыянер і актывіст Моладзёвай лігі ANC, якога нядаўна выключылі з партыі.

Большая ўвага грамадскасці да праекту Малемы часткова звязана са старонкамі гісторыі ANC. Гісторыя партыі, якая была заснавана ў 1912 годзе, чымсьці нагадвае верш пра папа і яго сабаку. Рэгулярна ў партыйных шэрагах узнікала фракцыя радыкальнай моладзі, якая жадала «паруліць». Першы эпізод меў месца ў 1950 годзе, калі пад ціскам моладзі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» фактычна пагадзіўся на стварэнне параміліта рных структур, што каштавала яму статусу легальнай партыі. Праз два дзесяцігоддзі курс партыі стала вызначаць група арганізатараў паўстання ў Саўэта (1976). Нарэшце, у 1980-х у ANC пачалі задаваць тон т. зв. «таварышы» — лідары вулічных груповак, якія бралі пад кантроль урбаністычныя зоны.

Чаму моладзі практычна заўсёды ўдавалася пасунуць старых лідараў і навязаць больш радыкальную праграму? Адказ на гэта пытанне даволі просты. У Паўднёвай Афрыцы заўсёды хапала чарнаскурых маладых люмпенаў, якія, як правіла, запісваліся ў ANC. Такім чынам, у асобе Малемы мы назіраем рымейк апісанага вышэй цыклу навязвання ўлады маладых, тым больш, што сацыяльныя ўмовы — хваля маргіналізацыі — вельмі гэтаму спрыяюць. Можна нават сцвярджаць, што калі б не было Малемы, з'явіўся б іншы малады палітык, які б крытыкаваў «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» з левых пазіцый.

Што тычыцца непасрэдна Малемы, то ён нарадзіўся ў правінцыі Трансвааль. Выхоўвала яго выключна маці, якая працавала на фермах белых. Джуліус мае дыплом спецыяліста па працы з моладдзю, што, напэўна, цалкам слушна. Ён зрабіў сабе кар'еру як функцыянер ANC, адказны за працу менавіта з моладзевым актывам. Кульмінацыяй яго кар'ернага росту стала яго абранне на пасаду старшыні Моладзевай лігі ў 2008 годзе.

Прыход Малемы на гэту пасаду храналагічна супаў з буйным карупцыйным скандалам з удзелам прэзідэнта Якаба Зумы. Ліга выступіла за чыстку партыйных шэрагаў ад карупцыйных элементаў, а Малема нават паграмжаў гаранту расправай. Пасля Малема выступіў за экспрапрыяцыяю ў белых прадпрымальнікаў аб'ектаў горназдабываючага сектара. Усе гэтыя выхадкі стварылі Джуліусу імя на палітычным рынку. Аднак найбольш правакацыйным аказалася яго публічнае выкананне ў 2010 годзе песні «Забей бура!». Выступ выклікаў вялікі скандал, паколькі песня была забароненая як ксенафобская.

Тут ужо нервы ў кіраўніцтва ANC не вытрымалі. Хутка сяброўства Малемы ў партыі часова прыпынілі, і знялі яго з пасады лідара Моладзевай лігі, распусціўшы ў дадатак выканкам арганізацыі. Аднак, як бачым, рэпрэсіі не спынілі харызматычнага маладога палітыка, які, дарэчы, на думку «Forbes Magazine», уваходзіць у спіс дзесяці самых уплывовых маладых людзей Афрыкі.

Чаго дабіваюцца «Змагары за эканамічную свабоду», і наколькі сур'ёзна яны могуць паўплываць на палітычны працэс? Нагадаем, што цяпер галоўнымі палітычнымі акторамі з'яўляюцца ANC і «Дэмакратычны альянс» (DA), за які галасуюць белыя і афрыканскі сярэдні клас.

Паводле праграмнага дакумента, «Змагары за эканамічную свабоду» выступаюць «за новую дэмакратычную рэвалюцыю, якая павінна цалкам знішчыць у менталітэце грамадзян ПАР рэшткі апартэіду».

Каментуючы перспектывы руху «Змагары за эканамічную свабоду», газета «Business Review» піша: «Асноўная ідэя гэтага напрамку — ахапіць самых бедных, асабліва маладых людзей, якія не могуць дазволіць сабе нават купіць чырвоны берэт (сімвал партыі Малемы). Сам фактар Малемы мае тут вялікае значэнне». Не трэба забываць і тое, што Малема сябруе з Робертам Мугабэ — аўтарытарным лідарам суседняй Зімбабве, які можа аказаць руху «Змагары за эканамічную свабоду» матэрыяльную дапамогу.

Што тычыцца слабых месцаў праекту, то гэта найперш падмочаная рэпутацыя новага рэвалюцыйнага правадыра. У мінулым годзе супраць яго пачалі крымінальную справу за лабізм некаторых фірм.

Ёсць сумневы, што партыя, якая мае выключна персаналісцкі характар, зможа стварыць структуры на месцах, якія будуць сістэмна працаваць. «Вельмі не проста стварыць рух у нашым палітычным ландшафце. Нашы апазіцыйныя партыі нагадваюць клуб «Арсенал». «Арсенал» гуляе вельмі прыгожа. Калі глядзіш матч з удзелам «Арсеналу», разумееш значэнне слова «паэзія ў руху», але гэтая каманда не мае ў сваім заліку шмат перамог. У гэтым плане праца «Афрыканскага нацыянальнага кангрэсу» падобная на стыль гульні «Манчэстэр Юнайтэд». Гульня «МЮ» не эстэтычная, але заўсёды прыносіць вынік», — піша іншая мясцовая газета «Sunday Times».

Ці мае шанс Малема перамагчы ANC, мы даведаемся вельмі хутка. Чарговыя парламенцкія выбары ў ПАР прызначаны на наступны год.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГАННА ГРОДСКА



Ганна — дэпутат польскага Сейму ад спісу «Рух Палікота», якая прызналася, што яна транссэксуалка. Натуральна, што ў парламенце пані Гродска — абаронца правоў польскіх транссэксуалаў. 21 ліпеня Ганна Гродска прапанавала законапраект, паводле якога кожны малады чалавек, які адчувае, што належыць да супрацьлеглага полу, падчас працэдуры атрымання пашпарту ў 16 гадоў, зможа сам абіраць катэгорыю «пол». Праўда, ніякай вольніцы тут не будзе. Права на канчатковае рашэнне будзе ўсё ж мець суд, які прыме вердыкт на аснове вынікаў даследаванняў псіхолага. Таксама тынейджарам, якія жадаюць быць транссэксуаламі ў законе, давядзецца атрымаць афіцыйную згоду бацькоў. На думку аўтара законапраекта, зафіксаваная ў пашпарце прыналежнасць да супрацьлеглага полу гарантуе польскім транссэксуалам абарону ад дыскамфорту ў паўсядзённым жыцці. А калі ім споўніцца 18 гадоў, яны ўвогуле могуць зрабіць сабе адпаведную аперацыю па змене пола без усякіх праблемаў. Акрамя таго, пані Гродска заклікала дэпутатаў звярнуць увагу на праблемы інтэрсэксуалаў — людзей, у якіх ёсць палавыя прыкметы як мужчынаў, так і жанчын. Гродска патрабуе, каб да свядомага ўзросту хірургі пакінулі інтэрсэксуала спакоі, каб пасля той сам мог вырашыць, якія часткі цела яму патрэбны, а якія не вельмі.

### АБДЭЛЬ АЗІЗ БУТЭФЛІКА



76-гадовы прэзідэнт Алжыру вярнуўся на радзіму з Парыжу, дзе знаходзіўся ў шпіталі аж з 27 красавіка (прыкладна 80 дзён). Паколькі ніякай канкрэтнай інфармацыі пра стан здароўя прэзідэнта не было, па Алжыру пайшлі гуляць чуткі, што гарант памірае. Гэта заканамерна выклікала рост палітычнай напружанасці. Каб супакоіць суайчыннікаў, урад пачаў паказваць сюжэты пра жыццё прэзідэнта ў шпіталі, аднак, здаецца, гэта не прынесла патрэбнага эфекту. Інакш бы 17 ліпеня спецыяльны рэйс не даставіў кіраўніка дзяржавы ў Алжыр. Праўда, цалкам супакоіць панічныя настроі не ўдалося. Па-першае, у рэпартажах Абдэль Азіз выглядае фізічна вельмі слабым. Па-другое, нават афіцыйныя СМІ кажуць, што прэзідэнт па вяртанні на радзіму зоймецца перш за ўсё «курсам рэабілітацыі». Аналітыкі пішуць, што прэзідэнта ледзь не гвалтоўна выклікалі ў Алжыр, каб ён на ўсялякі выпадак паспеў прызначыць пераемніка. Прэса даўно вызначыла магчымае кола кандыдатаў. Усе яны — шэрыя апаратчыкі, хаця і займаюць высокія пасады. Калі Бутэфліка асабіста перад камерамі ТБ не перадасць аднаму з іх паўнамоцтвы, іх аўтарытэт у грамадстве будзе відавочна вельмі нізкі.

### ЭВЕЛІН МАТЭЙ



Міністр працы ў складзе цяперашняга чылійскага ўраду на партыйных зборах правага Дэмакратычнага незалежнага саюзу абвешчаная кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 17 лістапада. Той факт, што адзіны левы кандыдат таксама жанчына (яе завуць Мішэль Башэле, і яна прадстаўляе сацыялістаў) надае выбарам незвычайны фармат жаночай дуэлі. Яшчэ адна забаўная дэталь — абодва палітыкі паходзяць з сямей афіцэраў ВПС. Праўда, лёсы ў іх бацькоў розныя. Бацька Эвелін, будучы падчас перавароту 1972 года кіраўніком вайсковай паветранай акадэміі, падтрымаў путч Піначчэта і пасля зрабіў кар'еру: у 1978-м ён нават быў запрошаны ў склад Хунты. Бацька Мішэль, наадварот, арыштаваны ў 1972 годзе як прыхільнік Альендэ і пасля катаванняў быў забіты ў 1974-м за кратамі. Відавочна, біяграфіі бацькоў кандыдатак паўплываюць на сімпатыі выбаршчыкаў. Таксама варта дадаць, што амаль ніхто не чакаў прызначэння Матэй, якая раней заявіла пра намер сысці з палітыкі ў 2014 годзе. Прычынай стала дэпрэсія. Відавочна, рашэнне балатавацца было прынятае ў апошні момант, што дае нейкую перавагу праціўніку. Сапраўды, першыя апытанні сведчаць, што пакуль Мішэль Башэле значна апярэджвае канкурэнтку.

ЦІКАВА

# ТРАГЕДЫЯ ПІНСКІХ МАРАКОЎ


«Маніторы» Пінскай флатыліі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Адным з найбольш баяздольных вайсковых фарміраванняў, якія знаходзіліся на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай, была Пінская рачная ваенна-марская флатылія. У верасні 1939 года на лёс яе маракоў выпалі цяжкія выпрабаванні.**


Камандуючы Пінскай флатыліяй камандор Вітольд Заянчкоўскі

## Пачатак

Пінская флатылія была створана 19 красавіка 1919 года, калі польскія вайсковыя ўлады арганізавалі ў складзе трох катэраў марскі патруль на Прыпяці. Менавіта ён прыняў удзел у бойцы з савецкімі катэрамі пад Гарадзішчам у ліпені 1919 года. Пазней часткі Войска Польскага пры ўдзеле рачнога флоту ажыццявілі ўдалы дэсант, які дазволіў выбіць бальшавікоў з Лунінца. У сакавіку 1920 года флатылія ўдзельнічала ў баях пад Мазыром і ў наступленні на Кіеў, дзе пад Чарнобылем удала атакавала бальшавіцкія падраздзяленні. Аднак пасля таго, як Чырвоная Армія распачала наступленне на Захад і захапіла міжрэчча Прыпяці, польскія матросы затапілі свае караблі пад Пінскам і адступілі.

Адраджэнне Пінскай флатыліі пачалося пасля заключэння Рыжскай мірнай дамовы, якая завяршыла крывапралітную савецка-польскую вайну. У 1922 годзе пачынаецца адраджэнне флатыліі на Палессі. Яе галоўнай базай стаў Пінск. Там была збудавана камендатура вайсковага порту, казармы, склады і ангары для авіяцыі. Галоўнай задачай Пінскай флатыліі была дазорная служба на палескіх рэках. У адпаведнасці з абарончым планам «Усход», у выпадку вайны з Савецкім Саюзам польскі флот павінен быў удзельнічаць у арганізацыі манеўранай абароны. Да таго ж важным быў і транспартны аспект. На Палессі дарожная сістэма ў 1920–1930-х гадах была развіта вельмі слаба, таму менавіта водныя шляхі ігралі ролю важнейшых транспартных артэрый. І ў гэтым сэнсе важную ролю павінна была адыгрываць мабільная Пінская флатылія.

У 1930-х гадах яе галоўнай сілай былі 6 «манітораў», узброеных 100-міліметровымі гаўбіцамі і 75-міліметровымі гарматамі, 3 кананерскія лодкі, 2 караблі супрацьпаветранай абароны і 2 патрульных катэра. Акрамя гэтага, 7 тральшчыкаў павінны былі арганізаваць пастаноўку мінных загарод. З 1927 года камандуючым Пінскай флатыліяй быў камандор Вітольд Заянчкоўскі. Ён зрабіў стаўку на адпрацоўку ўзаемадзеяння і падтрымкі караблямі флатыліі дзеянняў сухапутных войскаў. У пачатку 1930-х вайсковым камандаваннем Другой Рэчы Паспалітай абмяркоўвалася праграма развіцця Пінскай флатыліі, аднак у сувязі з тым, што яна патрабавала значных фінансавых затрат, было вырашана расцягнуць яе рэалізацыю ў часе.

## Вайна

Пасля абвяшчэння скрытай мабілізацыі ў сакавіку 1939 года на вайсковыя рэйкі перайшла і Пінская флатылія. Была створана баявая група «Вісла», у задачы якой уваходзіла арганізацыя абароны ўзбярэжжа, а таксама баявая група «Прыпяць», якая павінна была несці патрульную службу на польска-савецкай мяжы. Браніраваныя польскія «маніторы» былі асноўнай баявой сілай у рэгіёне, якія, пасля адпраўкі галоўных частак Войска Польскага на Захад, засталіся амаль без абароны. Караблі паветранай абароны неслі дзяжурства каля галоўных пераправаў і мастоў. Акрамя гэтага, важнейшай задачай Пінскай флатыліі была абарона шляхоў з Вільна на Львоў і з Лунінца на Сарны.

Адразу пасля пачатку Другой сусветнай вайны караблям флатыліі давялося змагацца з авіяцыяй люфтвафэ. Польскай супрацьпаветранай абароне ўдалося знішчыць каля дзесяці нямецкіх самалётаў. Аднак, як успамінаюць відавочцы, нямецкім самалётам часцей за ўсё ўдавалася паспяхова прайсці польскую зянітную заслону і скінуць бомбы на пераправы. Немцы таксама жорстка бамбілі жылыя раёны Пінска. Аднак ніводнай бомбы не было скінута на пінскі порт. Хутчэй за ўсё, нацысты разумелі будучае стратэгічнае значэнне гэтага транспартнага вузла.


Каманда «манітора» Генерал Шэптыцкі

10–14 верасня 1939 года на базе марскога запаснога батальёну было створана два батальёны марской пяхоты. Камандзірамі батальёнаў сталі камандор Паўлоўскі і капітан Фольтын. Маракоў пераапранулі ў палявыя мундзіры Войска Польскага, аднак афіцэрам дазволілі пакінуць марскія галаўныя ўборы, а матросам перачапіць марскія какарды на палявыя пяхотныя рагатоўкі.

15 верасня 1939 года Пінская флатылія перайшла пад кіраўніцтва камандуючага Аператыўнай групай «Палессе» генерала Францішка Клееберга. Праз два дні пачаўся «вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь». Караблі, якія знаходзіліся на мяжы, з баямі паспрабавалі прарвацца на захад, аднак супраць польскіх маракоў згуляла прырода. Цёплае лета прывяло да абмялення Прыпяці, і шматлікія польскія караблі траплялі на мель. Хутка было прынята рашэнне затапіць флатылію. 17 верасня каля марской базы Нырча быў затоплены флагманскі «манітор» і іншыя буйныя караблі. У Пінску знаходзіўся карабель «Генерал Шэптыцкі», які змагаўся супраць нямецкай і савецкай авіяцыі. Камандаванне прыняло рашэнне спаліць гэтае судна, калі з'явілася пагроза яго захопу Чырвонай Арміяй.

20 верасня пачалася эвакуацыя Пінска. 21 верасня на Каралеўскім канале пад Кузлічынам дарогу польскім судам заблакаваў узарваны мост. Камандаванне вырашыла затапіць караблі, але так, каб у будучым іх лёгка можна было падняць і хутка запусціць у строй. У рэчаіснасці караблі тапілі па-рознаму. Напрыклад, матросы аднаго з «манітораў», які знаходзіўся пад вёскай Гарадзішча, аблілі бензінам боекамплект да 100-міліметровай гаўбіцы і ўзарвалі карабель. Далей матросы затопленых судоў рухаліся альбо на вазах, альбо пешшу. Пры гэтым яны цягнулі на сабе ўсё тое, што ўдалося зняць з караблёў: зброю, абсталяванне, дакументацыю.

Усяго на прытоках Піны і на Каралеўскім канале на дно пайшло больш за 100 розных караблёў некалі магутнай Пінскай флатыліі. 23 верасня ў порт Пінска ўвайшла савецкая Дняпроўская флатылія. Генерал Клееберг выдаў загад усім часткам Самастойнай аператыўнай групы «Палессе» рухацца ў бок Любешова — Уладавы, а далей у бок мяжы з Румыніяй, аднак праз два дні Клееберг прыняў рашэнне рухацца на дапамогу акружанай Варшаве. 28 верасня 1939 года адбылася рэарганізацыя батальёнаў марской пяхоты, і яны ўвайшлі ў склад 182-га пяхотнага палка 60-й дывізіі пяхоты. Матросы-палешукі ўдзельнічалі ў баях пад Ліпінамі, Коцкам, Воляй Гулоўскай. Яны працягвалі змагацца з ворагам да 5 кастрычніка 1939 года.

Частка маракоў, разам з афіцэрамі пад камандаваннем спачатку камандора Эйбела, а пазней капітана Бончака адыходзіла разам з падраздзяленнямі Корпуса аховы памежжа. Матросы выконвалі ролю ар'ергарда польскіх частак. 25–26 верасня 1939 года гэтае падраздзяленне было аточана савецкімі танкамі і пасля кароткага бою трапіла ў савецкі палон. Ваеннапалонных накіравалі ў Маларыту, дзе падзялілі іх на дзве групы. У адной апынулася каля 30 афіцэраў, у другой — радавыя. Першую групу накіравалі ў вёску Макраны, дзе афіцэрам загадалі распрануцца, і 19 з іх былі расстраляныя. Іншых афіцэраў накіравалі ў лагер для ваеннапалонных у Жытомір. У 1940 годзе частка польскіх маракоў была адпраўлена ў Германію і апынулася ў нямецкім лагеры для ваеннапалонных Мосбург у Баварыі. Некаторыя з гэтых людзей скончаць сваё жыццё ў Асвенцыме.

## Другое жыццё польскіх караблёў

Пасля заканчэння «вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь» савецкія ўлады пачалі праводзіць працы па пад'ёму і рамонту затопленых польскіх суднаў. У прыватнасці, паднятыя і адрамантаваныя польскія «маніторы» «Пінск» і «Торунь» акрамя новых назваў (адпаведна, «Віцебск» і «Смаленск»), атрымалі яшчэ і новае ўзбраенне: дзве 122-міліметровыя гаўбіцы і дзве 45-міліметровыя гарматы. Тры лёгкіх «маніторы» перайменавалі ў «Вінніцу», «Жытомір» і «Бабруйск». Разам з іншымі караблямі савецкай дняпроўскай флатыліі гэтыя караблі ўдзельнічалі ў пачатковай фазе Вялікай Айчыннай вайны. Яны ажыццяўлялі артылерыйскую падтрымку сухапутных частак Чырвонай Арміі, абаранялі свае і знішчалі варожыя пераправы. 16 ліпеня 1941 года загінуў «манітор» «Вінніца». Праз два месяцы экіпаж «манітора» «Віцебск» быў вымушаны ўзарваць свой карабель, які да гэтага прыкрываў адыход 37-й савецкай арміі.

«Манітор» «Кракаў» быў затоплены польскімі маракамі 21 верасня 1939 года на рацэ Піне, аднак хутка быў падняты і пасля рамонту і пераўзбраення ўжо ў кастрычніку 1939 года пад назвай «Смаленск» увайшоў у склад Дняпроўскай вайсковай флатыліі. У чэрвені 1941 года гэты карабель удзельнічаў у контрудары савецкіх войскаў пад Бабруйскам, а пазней — у знішчэнні нямецкай пераправы ля Парычаў. У канцы ліпеня «Смаленск» адплыў у Кіеў, дзе быў адрамантаваны. Пазней удзельнічаў у баях, аднак у верасні 1941 года трапіў у акружэнне і быў знішчаны камандай.

***

Караблі Пінскай флатыліі павінны былі эфектыўна ўзаемадзейнічаць з сухапутнымі войскамі і дапамагчы ў арганізацыі манеўранай абароны ў Палессі. Аднак Польшчы прыйшлося весці вайну з нацысцкай Германіяй, а Пінская флатылія была не ў стане супрацьстаяць пераўзыходзячым сілам Чырвонай Арміі, якія перайшлі савецка-польскую мяжу 17 верасня 1939 года. Шматлікія польскія матросы і афіцэры трапілі ў савецкі палон і сталі ахвярамі бальшавікоў. Польскіх марскіх афіцэраў расстралялі ля вёскі Макраны на Брэстчыне.

Шматлікія польскія матросы і афіцэры трапілі ў савецкі палон і сталі ахвярамі бальшавікоў. Польскіх марскіх афіцэраў расстралялі ля вёскі Макраны на Брэстчыне

**Больш унікальных фатаздымкаў можна знайсці на нашым сайце novychas.info**

ЛЁС

# СЕРАФІМ ТАТАРЫН — ПОЛЬСКІ І САВЕЦКІ ВЯЗЕНЬ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Сёння пра гэта чалавека ведаюць хіба толькі яго землякі з вёскі Вострава. А ў 1920–1980-х гадах імя Серафіма Татарына не сыходзіла з вуснаў жыхароў Зэльвеншчыны і Слонімшчыны.**



Серафім Татарын

Актыўны дзеяч у Заходняй Беларусі, арганізатар гурткоў ТБШ у Слонімскім павеце, адказны рэдактар беларускай газеты «Наша праўда», удзельнік Другой сусветнай вайны, педагог, вязень польскіх і савецкіх лагераў Серафім Татарын заслугоўвае добрых слоў памяці. Тым больш, што сёлета ў лютым споўнілася 110 гадоў з дня яго нараджэння. Хаця сёлета на Зэльвеншчыне пра свайго слыннага земляка ніхто і не ўспомніў.

## Бежанства і вяртанне дамоў

Серафім Татарын нарадзіўся 13 лютага 1903 года ў вёсцы Вострава Слонімскага павета (цяпер Зэльвенскі раён) у сям'і селяніна-серадняка, які меў траціну ўчастка зямлі: 6 дзесяцін ворыва і лугу. У 1914 годзе закончыў тры класы царкоўнапрыходскай школы ў роднай вёсцы Вострава, а пасля займаўся ў духоўным вучылішчы ў Жыровічах.

У гады Першай сусветнай вайны сям'ю Татарыных выгналі рускія казакі ў бежанства ў Расію. Жылі ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе Серафім закончыў тры класы духоўнага вучылішча. А пасля рэвалюцыі ў Расіі, вучыўся ў савецкай школе, а потым працаваў у аддзеле сацыяльнага забеспячэння. Тады ў Расіі было неспакойна, ішла грамадзянская вайна, людзі галадалі, таму Татарыны вырашылі вярнуцца на Бацькаўшчыну.

Летам 1920 года бацька Серафіма купіў каня і воз, і яны паехалі на Беларусь. Да роднай вёскі Вострава дабраліся ў верасні. Але вёска ўжо была пад Польшчай. Прыехаўшы ў роднае мястэчка, Серафім Татарын уладкаваўся працаваць вольнанаёмным настаўнікам у суседнюю вёску Лабзова, дзе выкладаў беларускую і рускую мовы. Але гэта працягвалася нядоўга, бо школа хутка была закрытая. Дзяцей палякі загадалі вучыць толькі па-польску.

У роднай і суседніх вёсках Серафім Татарын вылучаўся сярод аднагодкаў сваёй адукаванасцю і пэўным жыццёвым вопытам. Таму нікога не здзівіла, што хутка юнак стаў важаком моладзі.

Ён пазнаёміўся і падтрымліваў сувязі са слонімскімі актывістамі Паўлам Крынчыкам, Феакцістам Міско, Якубам Міско, часта бываў у Вільні, дзе пасябраваў з Рыгорам Шырмам, Максімам Танкам, Браніславам Тарашкевічам.

Аднойчы Рыгор Шырма запытаўся: «Серафім, хочаш надалей вучыцца? Станавіся рэдактарам газеты «Наша праўда». Але папярэджваю, што можа быць некалькі канфіскацый газеты, таму, каб не арыштавалі, давядзецца ўцякаць».

Юнак пагадзіўся. Так ён стаў адказным рэдактарам газеты «Наша праўда». За яго подпісам выйшла ў свет 19 яе нумароў, з якіх былі канфіскаваны №№ 3, 6 і 12, а ўсяго выйшла ў свет 49 нумароў. Улады збіралі абвінавачвальныя матэрыялы на рэдактара-выдаўца, а дэфензіва выбірала зручны момант для арышту. Прыйшлося часова пакінуць Вільню.

Пасля разгрому Беларускай сялянска-рабочай грамады ў Заходняй Беларусі пачалі ствараць гурткі Таварыства беларускай школы (ТБШ). Усюды актыўна беларусы адкрывалі бібліятэкі-чытальні, ставілі спектаклі, чыталіся лекцыі. Аднак не заўсёды на гэта палякі давалі дазвол.

## ТБШ

Серафім Татарын у роднай вёсцы Вострава разам са сваімі аднавяскоўцамі пачаў актыўна будаваць Народны дом. Дапамогу яму і вяскоўцам нават аказвалі беларусы-вастраўцы, якія жылі ў Амерыцы. З 1890 па 1912 гады толькі з адной вёскі Вострава Слонімскага павета ў пошуках лепшай долі выехалі каля 100 чалавек. Там быў і родны брат Серафіма — Андрэй Татарын. Серафім напісаў яму пра тое, што яны вырашылі пабудаваць у Вострава Народны дом. Напісаў пісьмо-зварот да вастраўцаў, якія жылі ў Амерыцы. Брат там зачытаў пісьмо. І рабочыя-беларусы пачалі збіраць долары і дасылаць у Вострава на будаўніцтва Народнага дома. Першы раз даслалі 63 долары, потым — 80. А трэці раз прыслалі ажно 100. Усе гэтыя грошы з падпіснымі лістамі паступілі ў гурток ТБШ вёскі Вострава.

Пры гуртку ТБШ у Вострава працавалі драматычны і харавы гурткі. Ставілі беларускія спектаклі, гастралявалі з імі ў суседніх вёсках, наладжвалі канцэрты, лекцыі, сустрэчы. Пад восень 1927 года Серафіма Татарына выклікалі ў Слонім на допыт з выпадку канфіскацыі нумароў газеты «Наша праўда». Праўда,



НАША ПРАЎДА

ПОЛЬШЧА і СССР.

Наш абавязак.



Народны дом у вёсцы Вострава, 1929 г.

яго не арыштавалі, а аддалі пад нагляд паліцыі. Кожную нядзелю ён павінен быў прыходзіць у паліцэйскі ўчастак і адзначацца, а таксама ўзялі з яго распіску нікуды без дазволу не выязджаць.

Восенню 1928 года ў Слоніме быў праведзены павятовы з'езд ТБШ. На ім было выбрана новае кіраўніцтва. Старшынёй абралі Сямёна Жыткевіча, а намеснікам — Серафіма Татарына.

У сакавіку 1929 года юнакі і дзяўчаты праводзілі кароткую нараду ў акруговай управе ТБШ. Раптам туды ўварваліся некалькі паліцэйскіх і абвясцілі, што акруговая ўправа ТБШ у Слоніме па распараджэнні навагрудскага ваяводы ліквідаваная, а кнігарня закрытая. Так былі закрытыя і ўсе гурткі ТБШ у Слонімскім павеце. У вёсцы Вострава дзейнічала добрая бібліятэка, якая налічвала 1000 кніг. Закрываючы яе, паліцыя захапіла ўсе кнігі. Уцалелі толькі тыя, якія былі на руках у чытачоў. Былі ліквідаваны ўсе гурткі ТБШ ва ўсім Навагрудскім ваяводстве.

Але Серафім Татарын хутка пераязджае ў Навагрудак, дзе актыўна працуе сакратаром павятовага сакратарыята клуба «Змаганне». Але і там пачаліся новыя клопаты, новыя сутычкі з польскай паліцыяй.

## За кратамі

29 жніўня 1929 года ў Вільні праходзіў сход пасольскага клуба «Змаганне» і яго шаснаццаці павятовых сакратарыятаў. Наляцела паліцыя. Дэлегатаў сходу арыштавалі. Каля двух тыдняў трымалі ў Віленскай турме на Лукішках, затым паліцыя развезла ўсіх па дамах пад распіску бацькоў. У хуткім часе Серафім Татарын зноў прыехаў у Навагрудак і працягваў працаваць у сакратарыяце. 5 снежня 1929 года яго арыштавалі і пасадзілі на год у турму. 5 снежня 1930 года юнак выйшаў на волю, 8 снежня — прыехаў у Вострава, а 9 снежня зноў яго арыштавалі і пасадзілі за беларускасць на 6 гадоў. Кайданкі, пабоі, пераводы з турмы ў турму, галадоўкі, няспынная барацьба за правы палітычных зняволеных… І толькі 5 студзеня 1936 года Татарына вызвалілі па амністыі. Выйшаўшы на волю, 33-гадовы хлопец вырашыў ажаніцца. Але 25 красавіка, за тыдзень да вяселля, яго зноў арыштоўваюць і саджаюць у Картуз-Бярозаўскі канцлагер, дзе рэжым быў надзвычай жорсткі. «Аднойчы, — часта ўспамінаў Серафім Лук'янавіч, — упрэглі мяне з двума палітзняволенымі замест коней у барану. Шляя, якую адзелі на нас, была з дроту, які балюча ўпіваўся ў цела. Пот, слёзы крыўды і нянавісці засцілалі вочы…»

У Картуз-Бярозе Серафім Татарын прабыў 14 месяцаў. Вярнуўшыся дамоў, ён працаваў на бацькавай гаспадарцы. Але ў гісторыі Бацькаўшчыны адбывецца важная падзея — аб'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй. Літаральна 17 верасня 1939 года на першым вольным мітынгу Серафіма выбіраюць старшынёй Часовага валаснога сялянскага камітэта ў вёсцы Дзярэчын. Але НКУС «убачыў» у асобе Татарына замаскіраванага класавага ворага. І 11 кастрычніка 1939 года органы НКУС яго арыштавалі як «польскага шпіёна» і за тое, што ён працаваў у контррэвалюцыйных арганізацыях — БСРГ, ТБШ, «Змаганні», і прыгаварылі да 10 гадоў ППК. Ён быў этапаваны ў Іўдэльскі канцлагер НКУС Свярдлоўскай вобласці Расіі. А 13 красавіка 1940 года арыштавалі ўсю яго сям'ю (жонку і траіх дзяцей) і вывезлі на поўнач Казахстана. Умовы жыцця там былі даволі складаныя: клімат улетку сухі, спякотны, зімою — вялікія маразы, завеі. Працавалі шмат, заробкі былі мізэрныя, на дзень атрымлівалі толькі па два вядры вады.

Праз год сям'ю Татарына перавезлі ў Кустанайскую вобласць на будаўніцтва чыгункі. Працавалі ў кар'еры, капалі і ссыпалі зямлю. Там адпрацавалі тры гады. І ў 1945 года жонку і дзяцей Серафіма Татарына перавезлі ў Кіеў, адкуль іх забраў муж, які ўжо быў вызвалены з лагераў, ваяваў на фронце, атрымаў раненне. Але пасля вайны знайшоў сям'ю і забраў усіх на Зэльвеншчыну.

## На Бацькаўшчыне

Калі дажыналі першае пасляваеннае жыта, Серафім Татарын пешшу адправіўся ў райцэнтр. Дамоў вярнуўся ноччу ў гуморы: за дзень уладкаваў усе справы, звязаныя з адкрыццём пачатковай школы ў роднай вёсцы Вострава. А 1 верасня ён, узяўшы падручнікі, і, як ніколі, шчаслівы, пайшоў у школу. Вучні дружна і шчыра прывіталі свайго настаўніка-земляка.

Пасля арганізацыі мясцовага калгаса «Радзіма» ў вёсцы Вострава адкрылася і пачала працаваць сямігадовая школа. У гэты час Серафім Лук'янавіч закончыў завочна педвучылішча і гістарычны факультэт настаўніцкага інстытута. 17 гадоў ён выкладаў у роднай школе гісторыю, і першы ўрок у кожным навучальным годзе ён прысвячаў барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за лепшую долю. Разважаў заўсёды натхнёна, пераканаўча, цікава, быццам сваю біяграфію.

Памёр Серафім Татарын у 1988 годзе. А рэабілітавалі яго ў 1956-м. У канцы 1990-х гадоў, калі я бываў у Дзярэчыне на Зэльвеншчыне ў настаўніка мясцовай школы Пятра Марціноўскага (1932–2006), той часта прыгадваў мне Серафіма Лук'янавіча Татарына: «Я добра ведаў гэтага простага і шчырага, гаваркога і няўрымслівага чалавека. Сустракаўся з ім у яго школе, на розных раённых нарадах, у кнігарні, у рэдакцыі раённай газеты «Праца», куды ён, як актыўны селькор, прыносіў свае артыкулы. Сваім багатым педагагічным вопытам ён шчыра дзяліўся з настаўнікамі на канферэнцыях і метадычных аб'яднаннях. А вечарамі чытаў лекцыі бацькам у клубах, сустракаўся з моладдзю. Яго дом у Вострава жыхары Зэльвеншчыны называлі ласкава Домам Серафіма. Ён часта казаў, што лёс у жыцці выпаў на яго долю нялёгкі, але з перакананнем заўсёды падкрэсліваў: «Але калі б давялося пачаць спачатку — я не збочыў бы з абранага беларускага шляху…»


КІНО

# МАСАВЫЯ ЧАРЫ ГІЛЬЕРМА ДЭЛЬ ТОРА

Андрэй РАСІНСКІ

**Майстар філасофскіх хорараў і дзіўных коміксавых прыгодаў Гільерма дэль Тора паставіў высокабюджэтны бомба-фільм «Ціхаакіянская мяжа».**

З глыбакаводнай расколіны, што адкрывае ўваход у іншае вымярэнне, прыйшлі марскія пачвары Кайдзю — і атакавалі Зямлю. Людзі адбілі першы наступ захопнікаў, стварыўшы аграмадных робатаў — Егераў, якія кіруюцца двума пілотамі. Але істоты ўдасканаліліся — і чалавецтва церпіць паразу. Адстаўны герой, які згубіў у баі свайго брата, разам з прыгажуняй-практыканткай вядзе на апошнюю мяжу праверанага ў войнах Егера…

У новай відовішчнай стужкі сюжэт не складанейшы за кампутарную бойку Трансформераў і Гадзілаў. Персанажы — ясныя і простыя: забыты герой, які мусіць перамагчы (і знайсці сваё амурнае шчасце), пекная японка, якая помсціць за растаптанае драпежнымі лапамі дзяцінства, суворы капітан базы. Але за рэжысёрскім штурвалам — чараўнік Гільерма дэль Тора, які кепскага кіно не здымае.

Мексіканец дэль Тора ўварваўся ў сусветную кіналігу з «Хронасам» (1993) — змрочна-паэтычнай гісторыяй пра неўміручасць. Перабраўшыся ў Злучаныя Штаты, пасля таго, як ягонага бацьку схапілі і трымалі ў закладніках, дэль Тора зняў палахлівую стужку «Мутанты» пра разумных інсэктаў і аўтарска-містычныя шэдэўры пра грамадзянскую вайну ў Іспаніі «Хрыбет д'ябла» і «Лабірынт Фаўна».

Паставіўшы два дасціпна-стылёвыя кінакоміксы «Хеллбой» — пра ахрышчанага чарцяку, які змагаецца супраць нацыстаў і акультыстаў, — дэль Тора ўдала прадусаваў фільмы калегаў (сярод стужак — «Прытулак», «Хімера»), збіраўся паставіць «Хобіта» і экранізаваць Лаўкрафта. Але выпуск «Хобіта» зацягнуўся — і стужка адышла Пітэру Джэксану, а доўгачаканая экранізацыя Лаўкрафта была адкладзеная пасля таго, як Рыдлі Скот выпусціў перадгісторыю знакамітых «Чужых».

У такіх умовах зварот да студыйнай індустрыі — рызыкоўны крок творцы, які мае свой почырк. Нямногія рэжысёры праходзілі блакбастэрную мясакрутку: адны выпускалі нешта няўцямнае, другія цалкам гублялі твар, а найбольш упартых — адхілялі. Дэль Тора трымаў штурвал да пераможнага фінішу.

Хаця цэнтральныя персанажы стужкі са сваімі нескладанымі эмоцыямі — таварышы збольшага індустрыяльныя, дэль Тора пад завязку накачаў карціну візуальнымі дзівосамі і напоўніцу адыграўся на перыферыйна-гратэскных героях. Два звар'яцелыя навукоўцы — адзін другога варты — гэта каскад трукаў і адмысловага гумару. Падключэнне да мозгу Кайдзю, матэматыка і татуіроўкі, пошукі кантрабанды парадуюць і зацятага кінагурмана. А любімы акцёр дэль Тора Рон Перлман у ролі ганконгскага мафіёзі парве на часткі любую пачвару (абавязкова дачакайцеся канца цітраў!).

Дэль Тора бездакорна выкарыстоўвае ў простай бомба-карціне нуараўскі дождж з «Бегуна па лязу брытвы» — і крыкі Гадзілы, раскланьваецца Таркоўскаму (расійскія пілоты ў фільме маюць Сталкераўскае прозвішча — Кайданоўскія) і пераводзіць глыбакаводна-авангардовыя эксперыменты з колерамі на мову, зразумелую любому падлетку.

У спалохах і грымотах ідуць праз акіян аграмадныя жалезныя людзі, выплываюць з бездані сучасныя дыназаўры: казачным цмокам цяпер не рубяць галовы — іх душаць рукамі. Аб'ёмнае відовішча, вартае таго, каб на дзве гадзіны вярнуцца ў дзяцінства.

ПАМЯЦЬ

# АЛЯКСАНДР КОЛБЫШАЎ. ГОД ПАСЛЯ СЦЮЖЫ

Андрэй РАСІНСКІ




**Год таму не стала Аляксандра Колбышава — беларускага акцёра, рэжысёра і сцэнарыста, чыё жыццё абарвалася на ўзлёце, не дасягнуўшы і 52 гадоў.**

Гледачы палюбілі яго за ролю зухаватага жаўнера Штыркіна з «Акупацыі» і святара-партызана з «Масакры». Ягоная карціна «Ваўкі» сталася адзінай поўнаметражнай стужкай, пастаўленай Колбышавым на «Беларусьфільме». Цяпер усё ясней маштаб здзейсненага творцам і трагізм нясдзейсненага.

Аляксандр Колбышаў нарадзіўся ва Украіне, першую — акцёрскую — адукацыю атрымаў у Кіеўскім дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва ў 1987 годзе; да 1993 года ён выступаў на сцэне Брэсцкага драматычнага тэатру. Але калі Колбышаў дазнаўся, што ў Мінску ладзіцца набор на рэжысуру, то паступіў у Акадэмію Мастацтваў і стаў вучнем Віктара Турава.

У Акадэміі Колбышаў пасябраваў з Андрэем Кудзіненкам: іхні тандэм увасобіў на экране падставовы вобраз новага беларускага кіно, што выклікаў рэпрэсіі і абурэнне. Партызанскі прайдзісвет, выхваляка і па сумяшчальніцтве — расійскі каланізатар Штыркін быў сыграны Колбышавым з такім гумарам і цеплынёй, што не палюбіць яго немагчыма. Але дробны злодзей, які змагаецца за самагонку і трагічна гіне, каб ажыць у новых партызанскіх навелах, падрываў асновы «дзяржаўнай ідэалогіі», і, як скардзіліся цэнзары, «дрэнна дзейнічаў на маладое пакаленне». Карціна Кудзіненкі «Акупацыя. Містэрыі» са Штыркіным-Колбышавым, была надоўга забароненая ў Беларусі, яе паказ на Маскоўскім фэсце суправаджаўся скандалам.

Іншы сімпатычны вобраз Колбышава — святар з фільму «Масакра» — таксама быў з двайным жыццём: ён змагаўся са злом і кулакамі, і на метафізічным узроўні.

Прынцыповаму Колбышаву, які гаварыў праўду і не саромеўся сваіх падрыўных роляў, не знаходзілася месца на «Беларусьфільме»; творца здымаў серыялы ў Расіі. Нават калі ён прапанаваў да 60-годдзя Перамогі стужку пра падлеткаў, якія трапляюць у мінулае, яму катэгарычна адмовілі. Пазней у Расіі на гэты сюжэт паставілі фальшыва-маладзёвых «Мы з прышлага». Можна толькі ўявіць, якую б стужку зрабіў Колбышаў, які сам прайшоў праз пекла афганскай вайны.

Ягоныя аўтарскія рэжысёрскія працы суворыя і трагічныя. Яны рубам ставяць пытанне пра адказнасць чалавека і ягоны маральны выбар. Кароткаметражныя фільмы «Чорная скрыня», «Яма», «Ахвота жыць» былі заўважныя на кінафэстах, але ані беларуская тэлевізія, ані студыя не паклапаціліся данесці іх да шырокага гледача.

Іншая сітуацыя склалася з фільмам «Ваўкі». У перыяд кароткай і кволай лібералізацыі 2008–2010 гадоў Колбышаў паставіў у Беларусі антыталітарную кінааповесць. Чалавек уцякае з ГУЛАГаўскага цягніка. Карнікі ладзяць аблаву ў вёсцы, але герой у зімнім лесе натыкаецца на зграю ваўкоў.

Я бачыў Колбышава за працай: ён быў неверагодна патрабавальны да сябе і тактоўны да іншых. Сам цудоўны акцёр, ён ведаў, як дамагчыся найдакладнейшага малюнку ролі. Так, у фільме «Ваўкі» ёсць гаваркая даносчыца. Колбышаў папрасіў Аксану Лясную, што выконвала ролю, сыграць яе ўжо без словаў — толькі постаццю, жэстамі і вачыма.

Пасля ледзяных «Ваўкоў» Колбышаў планаваў камерную душэўную меладраму. І многа іншых задумак было ў яго.

Але раптам самы энергічны жаўнер беларускага кіно, варты цэлай арміі, спатрэбіўся на іншым участку.

У партызанскім Раі, які, магчыма нагадвае Гарыбальдзійскі вырай, куды адпраўляўся герой Колбышава, стала на аднаго байца болей.

На асцюдзелай зямлі яму замены няма.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 883

Падпісана да друку 26.07.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча